Карта **ЛІТВАНІІ** – нашай прарадзімы ў XY ст. у складзе Вялікага Княства Літоўскага ў часы яе найбольшага росквіту пры князю ВКЛ Вітаўту Вялікаму, які, пражыўшы 80 гадоў, правіў з 1392 па 1430 год.

# Летапісы і хронікі




Зьмешчаныя тутака хронікі і летапісы прысьвечаныя гісторыі Вялікага Княства Літоўскага наагул, а таксама асобных мясцовасьцяў Беларусі. Падзеям, што адбываліся ў Вялікім Княстве, прысьвечаныя дзьве найбольшыя хронікі (Хроніка літоўская і жамойцкая, Хроніка Быхаўца). У двух летапісах (Баркулабаўскі, Панцырнага і Аверкі) паведамляецца ў асноўным пра становішча ў асобных гарадах ці раёнах усходняй Беларусі. Так, летапіс Панцырнага і Аверкі тычыцца пераважна Віцебску, а Баркулабаўскі, дзе надаецца багата ўвагі Берасьцейскай царкоўнай уніі, кажа таксама і пра падзеі канца XVI — пачатку XVII ст. у Магілёве, Віцебску, Полацку і Баркулабаве. Храналягічна зьвесткі, зьмешчаныя ў летапісах і хроніках, ахопліваюць падзеі з часоў легендарных (пачатак нашай эры) і да 60-х гадоў XVIII ст. Найбольш позьнія зьвесткі дае летапіс Панцырнага і Аверкі.

*Мікола Ўлашчык*

**ПАВАЖАНЫ СУАЙЧЫНЬНІК!**
**АДКРЫЙ ДЛЯ СЯБЕ СТАРОНКУ ПРАЎДЫ ПРА БЕЛАРУСЬ**
**(ЭТНІЧНАЯ НАЗВА – ЛІТВАНІЯ)**

# МІКОЛА МІЛАШ



Фота з архіва: аўтару 43 года

# *НА СКРЫЖАЛЯХ ЧАСУ*

**Зборнік твораў пра гістарычную Спадчыну і адраджэньне Духу нацыі**
Кніга 2-я

г.**Смаленск**
2012

УДК 821.161.3-2
ББК 84 (4 Беи)-5
М-22

На узрушэньня рубяжы
Лаўлю адбітак часу я:
Як з глыбіні вякоў бяжыць
Рака імклівага жыцьця.
( Чытай верш “**Адбітак часу**” на стар.13)

**Мілаш** Мікола
М-22 **“ На скрыжалях часу”**
Смаленск; ТДА **“Новы сьвет”, 2012; 136** старонак

Зборнік твораў (паэм, балад, санетаў, вершаў, акравершаў, нататак і эсэ) “**На скрыжалях часу”** аб падзеях рознага часу нашай краіны і яе гістарычных асоб з'яўляецца працягам твораў пра гістарычную спадчыну і адраджэньне Духу нацыі, якія асьвечаны ў 1-м зборніку твораў **“На хвалі Адраджэньня”** праз усьведамленьне Свабоды ў гістарычных пластах народнай памяці роднага краю ў адпаведнасьці з пагодай часу. Многія творы былі агучаны на радыё “Свабода”, зьмешчаны ў адпаведных сайтах Інтэрнэта і апублікаваны ў газетах ”Народная Воля” і “Наша Слова”.

Кніга спарадзілася ў выніку знаёмства аўтара зь гісторыяй Айчыны з нагоды ўдзелу ў конкурсу па супольнай спадчыне народаў Рэчы Паспалітай, арганізаванага 1-ым Сакратаром амбасады Рэспублікі Польшча Мар'янам **Семаковічам** у 2005 годзе.

О Афармленьне: ГА фонда ім. Фр. **Скарыны,** 2012
О Фундатар: Іван **Даўматовіч.**
О На пярэднім шмац-тытуле: **графічны твор аўтара.**

ISBN

*“Бязь веданьня праўдзівай гісторыі грамацтва сьлепне”*
**Зянон Пазьняк.**

Прысьвячаецца змагарам за незалежнасьць
Айчыны і адраджэньне Духу нацыі.

# Пароль кніжкі

Духоўным паролем гэтай кніжкі з’яўляецца адказ на пытаньне:

– *Чаго душа жадае мець: **Права ці Свабоду?***

Адказ на яго павінен сёньня гучаць так:

***– І Права! І Свабоду!***

І сапраўды, гэтая формула з’яўляецца вобразным увасабленьнем станаўленьня Духу нацыі, бо як не бывае **Правоў** без **Свабоды**, так і не бывае **Свабоды** бяз **Права**, без чаго душа знаходзіцца пад дамоклавым мячом самавольства. Такая форма ўзаемаадносін гэтых катэгорый найбольш яскрава адпавядае сучаснаму становішчу адраджэньня Айчыны, бо як яшчэ ў прадмове да **Статуту** Вялікага Княства Літоўскага **1588 –** самай сьвядомай і паўнавартаснай кнізе аб найсьвятлейшым жыцьці нашага народа – апостал **Праўнасьці** канцлер ВКЛ **Леў Сапега** казаў: мы ***“з’яўляемся нявольнікамі Правоў дзеля таго, каб карыстацца Свабодай.”***

# Запавет кніжкі

У часы духоўнага заняпаду нацыі, калі забаранялася родная мова, знакаміты запавет паэта-дэмакрата **Францішка Багушэвіча** гучэў набатам:

– *Не пакідайце ж мовы нашай, беларускай, каб не ўмёрлі!*

І сягоньня гэты запавет слушны вуснамі Народнага паэта **Ніла Гілевіча:**

*Родная мова! Ты воч не расі!*
*Лёс твой – Свабода.*
*Іменна ты незалежнасьць дасі*
*Духу народа.*

# Зварот кніжкі

Як патрэбнасьць часу сёньня нястомна гучыць зварот да народа па прынцыпу Кастуся **Каліноўскага:***“Каго любіш?”* пытаньнем па-шэкспіраўскі**:**

– ***Быць нам ці не быць нацыяй этнічнай краіны?***

І адказ на яго ў нас павінен быць толькі адзін:

***– Быць нацыі краіны з назвай Літванія!!![1] І сімваламі яе былі, ёсьць і будуць Бел-Чырвона-Белы Сьцяг[2] і герб “Пагоня”, якімі сёньня сучасная ўлада грэбуе.***

І сапраўды, яшчэ наш суайчыньнік Адам **Міцкевіч**, вядомы як паэт-філамат, апостал **Духу** ліцьвінскай нацыі (ён сябе называў **ліцьвінам**) у сваіх творах з павагай і сьвятой любоўю апяваў свой край (з 1795г. пасьля 3-га падзелу **Рэчы Паспалітай**[3] па прыхамаці Кацярыны II нашаму краю далі назоў **Белая Русь**, а пасьля 1839г. царскім указам зусім забаранілі назву Беларусь, а народ называцца беларусамі ці ліцьвінамі – нас проста называлі *“**тутэйшымі**”*), за які ён, як рыцар Свабоды, аддаў сваё кароткае жыцьцё. Ён так пісаў у паэме “*Пан Тадэвуш*”: *“Літва! Бацькоўскі край, ты як здароўе тое:*

*Не цэніш маючы, а страцім залатое –*
*Шкада, як і красы твае, мой родны краю.*
*Тугою па табе тут вобраз твой ствараю”.*

---

**1.** Гістарычную даведку пра этнічную назву краіны “***Літванія***” чытай на стар. 103 у 1-м зборніку “*На хвалі Адраджэньня*”.

**2.** Даведку пра **Бел-Чырвона-Белы Сьцяг** і герб **“Пагоня”** чытай на стар.119 у тым жа зборніку “*На хвалі Адраджэньня*”.

**3. Рэч Паспалітая** (тоесна Рэч Публіка – ў перакладзе з лаціны азначае: *грамацкая* (*публічная*/ *справа*). Гэта – форма дзяржаўнага праўленьня, пры якой улада належыць выбарным установам, якія і выконваюць волю народа, абапіраючыся на дэмакратычнае права. У нашай жа краіне гэтая форма праўленьня спраўлена пад уладу адной асобы, бо выбраны *“кішэнны парламент”*– фігавы лісток, якім прыкрываецца абсалютная **манархія**, дзе выканаўчая і заканадаўчая ўлады і ўся судовая справа знаходзяцца пад уціскам гэтай асобы, а дэмакратычнае права – аддана забыцьцю. Такім чынам, наша дзяржава – ўвасабленьне дыктатуры, хоць і значыцца яна дэмакратычнай сувэрэннай Рэспублікай.

# З ГЛЫБІНІ ВЯКОЎ

Выслоўе Зянона Пазьняка *“Бязь веданьня праўдзівай гісторыі грамацтва сьлепне”* мае ўсёабдымны сэнс. Занадта замглелай за два стагодзьдзі знаходжаньня краю пад ігам імперскага гнёту аказалася яго фальсіфікаваная гісторыя, што варта спачуваньня, каб піць журбу *“поўнай квартай”*. За гэты час наш народ амаль пазбавіўся гістарычнай памяці, назвы сваёй дзяржавы і нацыі, тварам якой з’яўляецца мова па крові. Народ у сваёй большасьці грэбуе роднай мовай і ператварыўся ў зомбі. Такога чалавека публіцыст К. Паўстоўскі называе *“дзікуном”*. Нацыя паступова траціць свой воблік. Не дарма апосталы Духу нацыі Ніл **Гілевіч**, Леанід **Лыч** і другія заклікаюць: ***“Ратуйце нацыю!”***

Каб прабудзіць у народа нацыянальную сьвядомасьць, трэ адрадзіць яго сапраўдную, не шытыю ніткамі кан’юнктуры, гістарычную памяць. Менавіта ёю жывуць творы Янкі Брыля, Васіля Быкава, Вольгі Іпатавай, Ул-мера Караткевіча, Ул-мера Някляева, Ул-мера Содаля, Анатоля Тараса, Юры Туронка, Віктара Хурсіка, Васіля Якавенкі і др. Асабліва я ўдзячны знаёмству з пісьменьнікам Ўл-мерам Арловым. Яго кнігі сталі для мяне даведнікам пра лёс сотняў змагароў за адраджэньне Духу нацыі, нашай гістарычнай спадчыны.

Яшчэ ў старажытную эпоху на нашых землях народ жыў па сваім звычаям, якія тым ці іншым чынам адпавядалі яго думкам і надзеям. Так было тады, калі лад вянедаў паганскай веры трымаўся на стаўпах племяннога яднаньня. Так было і ў начале першага тысячагодзьдзя, калі пачалося фарміраваньне родавых адносін паміж крывічамі, дрыгавічамі і радзімічамі. І ўжо ў сярэдзіне 4-га ст., калі на землі вянедаў наступалі балты з вярхоўяў Волгі, цясьнімыя готамі з Прадуральля, пачалася другая хваля асіміляцыі вянедаў (першая адбывалася з захаду – сьвевамі, па імені якіх Вянедзіка мора /старажытная назва сучаснага Балтыйскага мора/ і стала называцца Сьвеўскім). У гэты перыяд і пачалося разьдзялень-

не вянедаў і ўтварэньне славянскіх груп ад Акі да Адрыятыкі, у тым ліку і **ліцьвенаў**, як непасрэдных выхадцаў зь вянедаў. (Чытай кнігу В.Буданавай "Готы ў эпоху Вялікага перасяленьня народаў" і гл. мапу Рымскай імперыі канца 2-га ст.н.э. у кн. Е.Шыраева).

З тых пор і вядзецца адлік часу існаваньня этнасу нашага народа,з назвай якога за апошнія два стагодзьдзі адбываліся метамарфозы ў розным варыянце ў залежнасьці ад кан'юнктуры навуковага погляду, які, безумоўна, дзейнічаў у цісках існуючай улады. Ужо ў Х1Х-м стагодзьдзі нас называлі то *"тутэйшымі",* то *"беларусцамі*". А калі сёньня заглянуць у свой пашпарт, то ў ім наша прыналежнасьць да нацыі зусім адсутнічае. Мы, аказваецца, ужо народ без імені. Збылася мара імператрыцы Кацярыны ІІ, якая ў 1795г. у сувязі з поўным далучэньнем зямель ВКЛ да Расеі ў якасьці некалькіх губерняў Паўночна-Заходняга краю, загадала: *"**Великое княжество Литовское** впредь **именовать** только **Белой Русью**, а **народ** её **белорусами**, чем на века привяжем её к России. Замирить Белую Русь военной силой невозможно. Эту миссию мы возложим на русского чиновника, русского учителя, русского попа. Именно они отнимут у булорусов не только их язык, но и саму память про самих себя..."* Трэба аддаць ёй павагу: царскае пажаданьне збываецца. На жаль, гэтаму спрыяюць і абставіны.

Менавіта з таго часу пачалі *"бавіць байкі баюны"* і паступова сьціраць з памяці народа сапраўдную легенду пра наша паходжаньне, пра назву нашай нацыі і назву нашай краіны. Менавіта адтуль прарасьлі карані шавіністычнай ідэалогіі *"западнорусизма",* якая выхавала ў сьвядомасьці нашага народа нацыянальны нігілізм да мовы. І на самай справе.

Наша зямля перацярпела мноства нашэсьцяў ад розных народаў: з захаду – ад немцаў, французаў і палякаў; з поўначы – ад шведаў і тэўтонаў; з поўдня – ад татар. Асабліва мы трымалі націск ад суседа з усходу – ад маскалёў. Кацапы паклалі такі крыж пакут на лёс нашага краю, што народ баіцца нават іх пачуць, каб не ўскалыхнулася душа ад іх жудасных памераў і не адчула ў сябе сапраўдную вартасьць

нібы роднаснага па мове нашаму народу суседства, якое сёньня падаецца ў выглядзе *“брацкай помачы”.*

Дастаткова прыгадаць войны 15-17 ст. **(1492-94, 1500-03, 1505-08, 1512-22, 1534-37, 1558-70, 1576-82, 1632-34, 1634-37, 1654-67,** (чытай кнігу Ан. **Тараса** *“Войны Московской Руси с Великим Княжеством Литовским и Речью Посполитой в Х1У-ХУ11 веках”),* у якіх народ зьнішчаўся на 20-50% ў кожнай. А колькі страт мы панесьлі ў Паўстаньнях 1794, 1830-31 і 1863-64 за сваю незалежнасьць супроць рускага засільля? А колькі каштуе нам царскі прыгнёт у перыяд 1795-1917 ўвогуле і савецкі – ў перыяд 1919-91гадоў? Ад іх вынікаў кружыцца галава.

Як сьведчаць гісторыкі, войны 1654-67,1700-21 і перыяд з 1839г., калі царскай уладай зьнішчалася уніяцтва і гвалтам насаджалася праваслаўе рускага кшталту, да руска-японскай вайны 1904-05 і перыяд гадоў сталінскіх рэпрэсій (1924-53), у якіх было зьнішчана каля 1,8 млн. чал. (Ю. Туронак “*Мадэрная гісторыя Беларусі,* Вільня, 2006, с. 681), у той час як ахвярамі нацызму было 1409225 чал. (Альм.”Деды”, вып.1, 2009, с.37), былі самымі жахлівымі ў гісторыі нашага народа. Калі б не было войн і жорсткага засільля, якога ад народу ўтойваюць, то на нашай зямлі пражывала бы больш за 35 млн. чалавек. (Альм.”Деды”, там жа, с.30). Сапраўды прарочым застаецца наказ Кастуся Каліноўскага, калі ў 1864г. яго вялі на павешаньне:*“Я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над табою маскаля ўжо не будзе!”*

Вось адкуль і якая ідзе да нас “любоў і павага”. Вось чым для нас сёньня абарачаецца навязаная нам брацкая ідэалогія “*русизма*”, што аж да гэтага часу мы не можам нават адрадзіцца як нацыя. Якія ж якасьці яна ў нас выхавала за двухвяковы “адмысловы” перыяд сумеснага існаваньня?

Ні адзін раз з вуснаў высокапастаўленай асобы можна чуваць, што наш народ паважана вызначаецца сваёй **талерантнасьцю** (цярплівасьцю). І гэтая якасьць, якая ўладай узводзіцца ў ранг нацыянальнай адметнасьці народа, на справе

прыраўноўваецца да такіх пошасьцей быцьця, як **страх**, **аб-ман** і **здрада**. Усе яны ёсьць ў кожнага з нас у рознай ступені. Дастаткова толькі прыглядзецца да справы правядзеньня выбараў, дзе гэтыя якасьці праяўляюцца асабліва. А што адбывалася ў часы сталінскіх рэпрэсій, калі народ баяўся адзін аднаго, бо за кожным віжавала вока здрайцы? Пералік абразы чалавечага аблічча можна прадаўжаць бясконца. І гэтыя якасьці, як ні дзіўна, сучаснай уладай падаюцца з павагай. Апафеозам зьнявагі з'яўляецца цынічнае выказваньне кіраўніка нашай дзяржавы, якое было агучана 10.07.1996г. на БТ: ***"Я своё государство за цивилизованным миром не поведу!"***

Ці не зьдзек гэта над народам, які прызвычаіўся цярпець і моўчкі знасіць яго. Гэта ж – уедлівая адзнака самай ёмкай прыметы раба: рабская пакорнасьць духу, якая нібыта наканавана нам Богам. А што азначае такая параза духу? Яна азначае: наш народ страціў пачуцьцё ўласнай годнасьці – ***"чалавекам звацца".*** Вось у якім становішчы аказаўся наш народ у начале трэцяга тысячагодзьдзя. І тут паўстае пытаньне: а ці адпавядае стан яго душы рэчаіснасьці існаваньня?

Каб ацаніць сутнасьць існаваньня нацыі, народа, асобы, трэба прычыніцца да яго гістарычнай памяці. Толькі разважаючы зь некан'юнктурных пазіцый (з пазіцый Дж. Бруно) мы можам адчуць саміх сябе тымі, кім мы павінны быць. А сягоньня мы аказаліся рабамі міфічнай краіны, якая завецца **Беларусь**, ды яшчэ, ў прыдачу, у зьвязцы ***"манілаўскага"*** саюзу з "брацкай" Расеяй па прыхамаці неадэкватнай асобы.

На маіх вачах я прыгадваю, як у пару "росквіту" разьвітога сацыялізму, строй, які намі неўсьвядомлена падтрымліваўся выхаваным у нас ідэалогіяй "*русизма*" нігілізмам да свайго існаваньня, які дыскрымінуе родную мову і нацыю ўвогуле, і за які сёньня трывала трымаецца ўлада, ўзьняў слоган:***"Коммунизм – это молодость мира и его возводить – молодым!".*** Я нават быў правадніком пакланеньня яго ідалу, аб чым шчыра шкадую. А чым закончылася яго ўзьвядзеньне?– мы ве-

даем: галечай і стратай свайго гонару. Тое ж самае мы заўважаем і цяпер, калі пад скрыпку анёла панаваньня дзяржава паступова коціцца па нахільнай плоскасьці, а народ цешыць сябе недарэчным станам, што лепш так, але каб толькі не было вайны. Выходзіць, што прывітая нам стагодзьдзямі "талерантнасьць" нас выхавала рабамі і што лепшага жыцьця такім як мы не прынята. Дык дзе ж тая справядлівасьць, за якую змагаўся рыцар **Свабоды**, каб ***"чалавекам звацца"***? І да якога часу нам наканавана з прывітай стагодзьдзямі талерантнасьцю жыць пад гнётам зьдзеку і гвалту? Тут варта, аднак, прыслухацца да парады Я.Коласа: *"адным цярпеньнем і пакорай ня cькінеш ты зь сябе ярма"*.

Сёньня настаў час, каб народ змог ацаніць фальшывую сутнасьць свайго існаваньня і пранікнуцца пачуцьцём сваёй годнасьці і адказнасьці за будучыню спадчыны. Настаў час адліку апошніх сутаргаў таталітарнага рэжыму, які стварыў сам сабе народ сваёй рабскай пакорнасьцю, выхаванай ідэалогіяй "*русизма*". А для гэтага трэба праявіць мэтанакіраванасьць пры аднаўленьні гістарычнай памяці, якую ўлады ад народа ўтойваюць, каб можна было лягчэй яго абмануць і без перашкод спраўляць свае ганебныя карысныя мэты.

Гістарычная памяць утойваецца ў нашай краіне ад народа паўсюдна і паўсядзённа. Вось прыклад. Амаль 70 год ад нас скрываліся падзеі 1920 года, калі на барацьбу супраць бальшавізму за незалежнасьць краю выступіў Слуцкі Збройны Чын. Сёньня, здаецца, ў краіне, якую завуць дэмакратычнай, павінна існаваць свабода слова і думак. Але народ на справе пазбаўлены яе. Прычым робіцца гэта ціха, негалосна. Чаму?

Народ ужо прызвычаіўся цярпець гнёт непрыязнай яму ўлады вось ужо больш за два стагодзьдзі. Таму розныя там выступленьні народа за свабоду, за незалежнасьць Айчыны, за адраджэньне роднай мовы і нацыі ўспрымаюцца такой уладай бандыцкімі, або нацыяналістычнымі. Мэта адна – захаваць ёю створаны рэжым і не спарадзіць у масах рост

нацыянальнай сьвядомасьці. Так было з Паўстаньнем 1863-64, калі яго кіраўнік Кастусь Каліноўскі ў рускай і савецай гістарыяграфіі падаецца як бандыт. Так было з аб'яўленай 25 сакавіка 1918 года Беларускай Народнай Рэспублікай, урад якога праіснаваў да 1 студзеня 1919г., а затым яго сябры былі паступова рэпрэсіраваны *"майстрамі заплечных спраў"* па надуманым міфам. Так было з дысідэнтам Расьціславам Лапіцкім, якога бальшавікі расстралялі ў 1950г. за выступленьне супроць камуністычнага рэжыму. Так было з замоўчваньнем гісторыі Курапат і наогул пра зьнішчэньне 1,8 мільёнаў чалавек пры сталінскім рэжыме, памеры якіх не прызнаюцца і ў сучасны час. Не прызнаецца сёньняшняй уладай і расстрэл савецкімі партызанамі мірных грамадзян вёсак Дражна, Казыры і Вялікай Губы ў 1943г. і зьнікненьне сучасьнікаў: палітыка Віктара Ганчара, генерала Юры Захаранкі, бізнэсоўца Анатоля Красоўскага, журналіста Дзімы Завацкага… Гэты рад можна прадоўжыць. Асабліва я хачу закрануць увагу на рэаліі непрызнаньня ўладай ахвяр сталінскага рэжыму на прыкладзе ўсталяваньня мемарыяла ў Курапатах і на гэтым прыкладзе раскрыць яе сапраўдны твар.

Пачынаючы з 1988 года кожны год на восеньскія Дзяды адраджэнцамі адзначаюцца ўгодкі з нагоды масавага расстрэлу народа – змагароў за незалежнасьць Беларусі ад бальшавіцкага засільля. Але кожны раз улада чыніць перашкоды для іх правядзеньня, а на яго ўдзельнікаў – утвараюць перасьлед. Асабліва зьдзекліва праходзілі першыя Дзяды 30 кастрычніка **1988г**.: народ зьбівалі дубінкамі, палівалі атрутным газам. І гэты зьдзек праводзіўся тады, калі, напрыклад, ўрад Германіі пакаяўся за глумленьне фашысцкага строю над народамі сьвету. А нашай ўладай пакаяньне пакуль не прадугледжваецца. Вось вам і яе сапраўдны твар. Гэта – чысты гвалт над нацыяй. Таму – галоўная выснова сучаснага часу: **трэ адрадзіць гістарычную памяць народа**, **трэ яго абудзіць**. Тады і не будзе месца дыктату ў дэмакратыі!

# АДБІТАК ЧАСУ

Прысьвячаецца гісторыкам сапраўднага асьвячэння *“нялёгкага і гордага жыцьця майго народа”* нашай пакутлівай Бацькаўшчыны.

*“Я гляджу на раку… і думаю:*
*якое вялікае і доўгае ў ракі жыцьцё”.*

**Барыс Сачанка**

*“Я ведаю, цяжкімі будуць годы,*
*А нам стаяць, не гнуцца, як трысьцё,*
*Бо лёс славян і лёс майго народа –*
*Нялёгкае і гордае жыцьцё”.*

**Уладзімер Караткевіч**

*“А тут закопаны навекі*
*Надзеі, радасьць чалавека,*
*І гора схована ліхое –*
*Жыцьцё бядачае люцкое”.*

**Якуб Колас**

У водбліску сівых вачэй
Скрыжалі часу бачу я:
Як з глыбіні вякоў цячэ
Рака бурлівага жыцьця.

Яно мне бачыцца ў снах,
Што сходзяць спотайку зь нябёс,
У ланцужках*, што гасіць страх,
Каб выправіць фатальны лёс.

У спратах гістарычных дзей
Нямала ўтоена інтрыг.
І час, што зладзіў чорны дзень,
Міжвольна параджае ўздрыг…

На узрушэньня рубяжы
Лаўлю адбітак часу я:
Як з глыбіні вякоў бяжыць
Рака імклівага жыцьця.

9 студзеня 2010

---

* Зноскі чытай у **Камэнтарыях** да адпаведнай старонкі.

# “ВЕРАСЕНЬ” РАДЗІЎСЯ!

(Трыялет)

Прысьвячаецца часопісу для моладзі *“Верасень”* (заснавальнік– установа *“Верасьнянка”,* якая находзіцца пад апекай “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны”, старшыня: Алег Трусаў). Яго прэзентацыя адбывалася 7 студзеня 2010г. ў Чырвоным касьцёле Сьвятых **Сымона** і **Алены** г.Менска. Галоўным рэдактарам стаў паэт і бард Эдуард **Акулін**. Пажаданьне часопісу далі Народныя паэты – апосталы Духу нацыі Ніл **Гілевіч** і Рыгор **Барадулін**.

*“Даваць парады маладым –*
*Занятак смеху варты.*
*Лепш пажадаць*
*упартым ім*
*Піць неба з поўнай кварты.*

*Умець патрэбна маладым*
*Наставіць чорту рогі:*
*Хай пан Інтым,*
*Хай пан Экстрым*
*Не ведаюць зьнямогі!”*

**Рыгор Барадулін**

*“Літаратура – сумленьне народа, апора яго маральнасьці, яго духоўнай моцы”.*

**Ніл Гілевіч**

“Верасень” радзіўся не без жартаў
На ўхваленьне мовы – духа гарту –
На Каляды ў храме, чэсьці варты.

“Верасень” радзіўся не да жартаў:
Час настаў для моладзі упартай
*Неба піць,* ды *з поўнай кварты.*

“Верасень” радзіўся не без жартаў
На ўхваленьне мовы – духа гарту!

10 студзеня 2010.

# СЬВЕТ АСЬВЕТНІЦТВА
## (Трыпціх санетаў)

Трыпціх прысьвячаецца **падзьвіжніцтву** з нагоды нараджэньня маладзёжнага часопіса "**Верасень**". Усе тры санеты зьвязаны тэмай асьветніцтва праз сувойнае спалучэньне яго назвы, якая лёсавызначальна зыходзіць ад назвы вёскі **Верасоўкі**, дзе нарадзіўся Народны паэт Беларусі Рыгор **Барадулін,** якому 24 лютага лёс адмерыў **75** гадоў зь дня нараджэньня (н.**1935**), затым ад імя **Верасень** – назвы сына галоўнага рэдактара выданьня Эдуарда **Акуліна**, дзень нараджэньня якога (7 студзеня) сімвалічна супадае зь днём Раства Хрыстова і днём нараджэньня часопіса, і з назвы яго заснавальніка – рэдакцыйна-выдавецкай установы **"Верасьнянка"**.

*"Беларуская мова,*
*Маўчаньня хвілінаю*
*Ушануй аднаго*
*Са сваіх старэньнікаў:*
*Як і ты, меў павагу,*
*Няспынна-плынная,*
*Да канкрэтных назоўнікаў…"*

**Рыгор Барадулін**

### Дух Верасоўкі

На дабратворнай ніве гоняў родных
Нямала скарбаў моўных узрасло.
Узорам яркім стаў паэт Народны –
Апостал Барадулін – майстар слоў.

Не здрадзіў стыль высокі музе кроўнай –
У творчай сіле мудрасьці жазло:
Матыў асьветніцтва прамоў чароўных
Лагодзіць душу прышласьці сьвятлом.

Гранд мовы наскай маладым нашчадкам
Параду зладзіў на жыцьця пачатку:
*"Піць неба з поўнай кварты"*… напралом.

І, як бы ні пяклося сэрца лёсам,
Дух *Верасоўкі* – не пазбыў нябёсаў –
Узьняўся ў Вечнасьць казачным крылом.

## Дух падзьвіжніцтва

Калі анёл Акуліна-паэта
Дух боскага падзьвіжніцтва адкрыў,
То сьвет асьветніцтва – па ўсім прыметам –
Надзеяй сьветлай прышласьць азарыў.

А першы, хто ўспрыняў імпэт глісандай,
Стаў **Верасень –** сын восеньскай пары.
З нагоды ўзьлёту сьветач песень барда
Агнём тварэньня казачна гарыць.

Хвалюецца зьнямелая прастора:
Пагоду **узрушэньня** моладзь творыць,
Што *“Верасьнянка”* ўраз распачала.

І заглянула ветла ў душы сонца
Праз творцамі адкрытае аконца:
Па гоням ходзіць гулкая хвала.

## Дух асьветніцтва

Настаў час зорны: ў гарадах і сёлах
Нашчадак прагне талент раскрываць.
Плынь *“Верасьнянкі”* плённа і узьнёсла
Тварэньні прынялася натаваць.

І ў дольным зале Менскага касьцёла
На сьвята – ў Дзень Хрыстовага Раства –
Узьняўся “*Верасень*” крылом анёла
Для усхваленьня мовы харaства.

Была тут Гіпакрэна* паслухмяна:
Гучэла ліра музы палымяна –
Народ падзею чынна сьветкаваў.

Беззапаветна спадчыне адданы,
Суполкі гурт, для моладзі – жаданы,
Ім стан асьветніцтва гарантаваў.

Студзень 2010

# СОНЦА ВЕДЫ

Паэма пра лёс першай легальнай выдавецкай суполкі* “*Загляне сонца і ў наша ваконца*” (1906-14) прысьвячаецца яе заснавальнікам апосталам **Асьветніцтва** прафесарам Браніславу **Эпімах-Шыпілу*** (4.09.1859-1934) – укладальніку першай “*Беларускай хрэстамацыі*” – і Вацлаву **Іваноўскаму*** (25.05.1880-1943) – творцу першага “*Лямантара беларускай мовы*”, міністру асьветы урада БНР.

*“Так, хто праўдай, чынам, радай*
*Ходзе спольна ў грамадзе,*
*Гоне ўпрочкі цемру ночкі,*
*Як ніколі, як нідзе”.*

(Зь верша **Янкі Купалы** *“Прафесару Эпімах-Шыпілу. З новым 1910 годам”*)

*“О, ты край мой нешчасьлівы!*
*Дзе твае ўсе абаронцы?*
*Ці ўжо ўбачаць твае нівы*
*Шматчаканай Волі Сонца?*
*Вораг, глянь, грабе адкрыта*
*Дар найшчодры твайго поля,*
*Ад тваіх ахвяраў сыты,*
*Ён сьмяецца з нашай долі”.*

(Зь верша **Яна Чачота**, 1847)

Лёс на гонях моўнай нівы
Сонца Веды* ў спрат хаваў.
А анёл яго зласьлівы
Ў побыт здраду ўладкаваў.

Змагары за Адраджэньне
Сьцежкай вузкаю* ішлі,
Усхвалялі узрушэньне
На пакутлівай зямлі.

У пагодзе змрочнай часу
Вызначалі стыль сябры:
Як збудзіць народа масу
І надзеяй азарыць?

На сустрэчах фармаваўся
Слушны погляд моладзі.
Дух змаганьня гартаваўся
Жарам чуйнай споведзі.

Сонца Веды заглянула
Ў ду́шы скутай грамады:
Успрыняўся розум чула
Хрэстам волі маладым.

Ажывілася надзея –
Сыдзе морак чорных дзён.
Ды *“крывавая нядзеля”* *
Стала людцам як праклён.

* * *

Трэ было шукаць матывы
Путы рабства разрываць:
Грэла душу пэрспэктыва –
Край абудзіць зарыва!*

Сходам зорак лёс прызначыў
Скарыстаць расклад падзей:*
У аконцы замаячыў
Бляск **асьветніцкіх** надзей.

На мяжы сьвятла і цені
Вызначаўся Веды дар:
Асьвятляліся падзеі –
Імі рупіўся змагар.

Тут анёл аховы краю
Воляй **Вацю** надзяліў.
Ду́шу, лірай каб зайграла,
Час асьветай атуліў.

І пайшоў змагар у людзі
Словам сэрцы распаляць:

Толькі Веда край разбудзіць –
Гневам ўзрушыцца зямля!…

Творчым ідалам па духу
Стаў прафесар **Эпімах**.
Іх тандэм на ніве зрухаў
Плыням Веды даў размах.

* * *

Згрупаваўся люд ў час зорны
У суполку рупных дзей:
Друкавацца сталі творы –
Раскрываўся твар падзей!

"*Асядлалі*" тут *Пегаса* *
Цётка, Колас, Власт, Буйло…
Музу іх ён грозным часам
Пад сьвятым трымаў крылом.

І Купала тут прымерыў
Вершам – гучны лейтматыў:
Знаўца мовы мог заверыць –
Выяўляўся негатыў.

Загуляла Веды сонца
На прасторах родных ніў:
Прызывала абаронца,
Каб акно ў сьвет адчыніў…

Дзевяць вёсен Веды сонца
Асьвятляла цёмны край
Праз супольнае аконца…
Покуль рдзеўся небакрай.

І, нарэшце, чула нівы
Азарыліся сьвятлом:
Дачакаўся ж люд цярплівы –
Царскі строй* пайшоў на злом.

* * *

Ды дарэмна люд загнаны
Ў час бурлівы апяваў
Строй ганебны і нязваны,
Што злы дух наканаваў…

Наляцела ў край бацькоўскі
Груганьнё паскудных спраў*:
Стаў бясслаўным…Іваноўскі,
Дый Шыпілы лёс час скраў.

Сонца скрылася за хмары –
Цемра слалася вакол:
Не збыліся людцаў мары –
Падаў ніц змагар на дол.

Колькі душ спазналі ў сьмерці
Волю… на узьлёце сіл?
Толькі Бог быў на паверцы
Цьмы няведамых магіл…

Не здабыў народ свабоды
І ў найноўшы скрутны час,
Бо не зьведаў ён пагоды –
Зьведаў толькі д’ябла фарс.

Як і ў чорны час тэрору
Крые зьдзек сьляпы туман:
Хоць бы што – люцкое гора,
Бо яно – улады стан.

* * *

Не ўзьнялося **Веды Сонца**
Над краінай, поўнай ганьбы,
Дзе кіруе “*божы творца*”…
Воляй д’ябла…“*элегантна*”.

Кастрычнік 2009

# СКРЫЖАЛІ

Паэма пра адраджэньне роднай мовы ў грозныя часы ліхалецьця прысьвячаецца акадэміку Язэпу **Лёсіку*** (18.11.1883-1940), які за свае палітычныя і акадэмічныя погляды ўладамі арыштоўваўся **5** разоў і мусіў закончыць сваё зямное жыцьцё ў саратаўскай турме.

*“Зь легендаў і казак былых пакаленьняў,*
*З калосься цяжкога жытоў і пшаніц,*
*З сузор’яў і сонечных цёплых праменьняў,*
*З грымучага зьзяньня бурлівых крыніц,*
*З птушынага шчэбету, шуму дубровы,–*
*Ты выткана дзіўная родная мова”.*

**Максім Танк**

*“Вякамі ёй ходу-жыцьця не давалі,*
*Вякамі чынілі насьмешкі і кпіны,*
*Вякамі крыўлялі, глушылі, тапталі,*
*Вялікую мову няшчаснай краіны”.*

**Ніл Гілевіч**

*“Ты, мой брат, каго зваць Беларусам,*
*Роднай мовы сваёй не цурайся;*
*Як не зрокся яе пад прымусам,*
*Так і вольны цяпер не зракайся”.*

**Алесь Гарун**

## Пралог

Калісь народ не думаў,
не гадаў,
Што час зьняважыць
мову продка,
Што кон заўжды нам
будзе выпадаць:
Забыцца мовы кроўнай!…
Й кропка!

Але анёл аховы мовы нёс
Увішна крыж пакут у змроку:
Надзейна сьведчыў ён
з сумы нябёс,

Як продка род
цярпеў папрокі…

І вось сыходам зорак
час прыждаў
Сустрэцца на скрыжалях лёсу
Пасланцам мовы,
каб апавядаць
Народу стыль яе дзівосны.

### 1. Церні

Яшчэ стагодзьдзі тры,
бадай, бяда*
Спыніла статус існаваньня
Народнай мовы.
Ды анёл прыдаў
Ёй ключ да самазахаваньня.

І ў люты час імперскага ярма,
Калі злаваў меч забароны*
На ужываньне мовы,
строй стрымаў
Няміласьць, хоць не без урону.

Тут Дунін-Марцінкевіч*…
аддаваў
Павагу говару ў быліцах.
Заўжды герой
у творах размаўляў
На мове – вобразна – мужычай.

Сярод ахвосьця рускага руля
Трымаў канон свой,
каб не сыпёрлі,
Й прарок*, што раіў:
мову – не губляць,
*“Каб* (не дай божа мы) *не ўмёрлі!”*

На родных гонях
моўная града
Давала ўсходы ў стылі продка:
Суполкі* *“Гоман”,*
*“ Круг”* і *“Грамада”*
Нясьлі ў сьвет веды…
маскіроўкай.

### 2. Узьлёт

Ды вось параза
царскага стырна*
У сутыкненьні з самураем
Манаршу волю
змусіла прызнаць
Гаворкі стыль сьвятога краю.

І ў асяродзьдзе слушнай грамады,
Што мове роднай спагадала,
З надзеяй ў прышласьць
дзейсна й сапраўды
Суполкі сонца* заглядала.

І мовы прамяністае сьвятло
Ў сьвет *“Наша Ніва”* *
пралівала:
Літаратурнай мовы рамяство
Спраўлялі Аўлас[1] і Купала.

Нарэшце кроўны род
загаварыў…
На мове прадзедаў…
з калыскі:
То быў душы стамлёнае парыў –
Ухваляваць дух мацярынскі.

---

1. **Аўлас –** так называлі сябры па працы гал. рэдактара газэты **А.Уласава**.

На адраджэньня мовы
зорны шлях
Ступілі сьмела мовазнаўцы*.
І… скора бляск гаворкі –
мовы клас –
Лагодзіў ду́шу выканаўцы.

### 3. Зорка Язэпа

На небасхіле
мовазнаўчых спраў
**Язэпа зорка***
прагла промнем –
Пісьма апостал мову апранаў
У шаты красамоўным строем.

Практычных правіл слоў –
Граматыка*–
Ўскрывала логава Пракруста*.
І ў ду́шы
дабратворна пранікаў
Агмень асьветы
й вальнадумства.

У сказах пра герояў
ў барацьбе
За лёс,
у гімнах мовазнаўству
Гучэў зварот:
*“Пралажым пуць сабе*
*К Свабодзе,*
*Роўнасьці*
*і Брацтву!”*

Ды быў не да спадобы
лейтматыў
Былін анёлу панаваньня,

Бо раскрываўся гучна негатыў
Жыцьця…
                    у путах існаваньня.

Залапатаў анёл як груганё:
*– Ага! Ўзрушэньне нормы мовы!*
І… вета* ўсклаў,
              каб зарасьлі быльлём
Народнага пісьма асновы…

Зафарбаваўся
                        чырваньню
                                      наўсьцяж
Краіны лінгвістычны ранак.
І… кніжак выдавецтва –
                               спаў тыраж,
Бо лютаваў анёл тырана.

Апостал строю
                          роднага пісьма
Зь кляймом *“заядлага нацдэма”*
Асвойваў край ГУЛАГа…
                                    задарма –
Касіла змагароў сістэма.

## 4. Вір нягоды

Ішлі гады.
       Пісьменства строй трашчаў –
Жыцьцё сышло
                         пад вір нягоды:
У школах дзетак сталі абучаць
Чужою моваю…
                              без згоды.

На ніве мовы пошасьць* узьвялі
У ранг дзяржаўнае спагады

І край **вандэйскі***
ў морак завялі,
Каб зьнішчыць нацыю…
загадам:

Зрабіць сумесным
з русамі жыцьцё, –
Як быццам мова ў нас адзіна, –
Таму й павінна
гукаў прывіцьцё
Народу…
кожнаю гадзінай.

## 5. Аблічча мовы

“*Русізма*” мэта ставіцца адна:
Каб род мой
роднай мовы зрокся –
Аблічча ўжо
амаль згубіў здарма,
Бо ў безкультур’я
воз запрогся.

Неўладкаваўся ў побыт
мовы строй –
Загнана ў спрат
душы скарбніца:
Баладным болем
зводзіцца нутро –
Шаліць бяспраўе*
навальніцай.

Душа у цемры зьбілася з пуці –
Кругом пануе рускамоўе.
З парадай моўнай к чыну
не дайсьці –
Яму не ўразумець прыслоўя.

Яго па волі д’ябла –
велькі дзіў! –
Узьвёў манарх –
была інтрыжка*,–
І, як у кпінак мове, спарадзіў
Трасянку…
чужароднай кніжкай.

### Эпілог

О, мова!
Ты – што сонечны прамень!
Ты – сьветач нацыі прызнаньня!
Ты, мова родная, –
душы агмень
Нацыянальнага яднаньня!

І хоць народу
змрочнаю парой
Сатрап і дыктаваў умовы,
Але барца за красамоўны строй
Нізрынуў ён…
з Алімпа мовы.

І як ні дбаў анёл бяды маўчком
Сьляды пісьма па крові сьцерці,
Узыйдзе мова продка
з цьмы вякоў…
З ***Язэпа шыняля****…
ў бяссьмерце! …

х х х

Каб рода кроўны дух
не заімжэў
На высьпе памяці народнай,
Хай **Мнемасіна**-маці* беражэ
Чароўнай мовы строй лагодны!

15-25 лістапада 2009

# ПЕСЬНЯ ЯНІНЫ

Верш прысьвячаецца памяці праваабаронцы **Яны Паляковай**, якая ў ноч з **6** на **7 сакавіка 2009г.**, не справіўшыся з ачмурэньнем міліцэйскага “наезду”, пакончыла з жыцьцём самагубствам.

*“Думкі ўюцца, томяць грудзі –*
*Волі хочацца і ім, –*
*Хочуць песьняй стаць лагоднай*
*Мілым дзіцяткам маім…”*

**Якуб Колас**

*“Як нашле нуды плесень на думкі мае,*
*Так магільную песьню ў душы запяе”.*

**Янка Купала**

Ёсьць крылатасьць у песьні сьвятая,
Што вясёлкай у душах жыве.
Ёсьць, аднак, і крылатасьць ліхая,
Што адвагай у прышласьць заве.

Яна песьню жыцьця не дапела –
Не хапіла мяцежнай крыві.
Але ж воляй арлінаю сьмела
Гнеўны боль перадала жывым.

Песьня гордая ў вольным палёце
Слушна зьведала, што ёсць спакой:
Стрэў яе на змаганьня узьлёце
“Страж парадку” паганай рукой…

Песьня-выклік Яніны – ў магіле:
Горкі прысмак яе памянін.
Але ж палкі агонь гнеўнай сілай
Нараджае гаючы ўспамін.

* * *

Надта скрушны учынак Яніны
Шмат адкрыў нецярпімых праблем:
Мусіць штосьці не так у краіне,
Калі к ісьціне час глух і нем.

7 сакавіка 2010.

# СІЗІФАВЫ ЮРОДСТВА

У краіне афіцыйна з 25 лютага праводзіцца кампанія **“Гавары праўду!”**, ініцыятарам якой з’яўляецца паэт Уладзімер **Някляеў.***

*“За галоснасьць, за праўду з сумленьнем*
*Даражэй анічога няма.*
*Не паставім хлусьню на калені –*
*Дэмакратыя ўкленчыць сама”.*

**Сяргей Грахоўскі**

Праз зьдзірванелы пласт імперскіх міфаў
Ледзь прабіваецца сівая быль:
Стагодзьдзямі юродствамі Сізіфа*
Народу ў вочы запускаюць пыл.

Яму закрыты памяці аналы:
Над ім – абложны покрыў забыцьця.
І не ў дасуг зьнямоглым і нядбалым,
Што страчваецца гонар пачуцьця.

І ўсё ж з глыбінь сівых вякоў бруіцца
Праз зарасьнік юродзівай маны
Праўдзівае гісторыі крыніца:
У хвалях – сьвет крылатай даўніны.

Пара ж пазнаць: якварта годным стацца,
Як страціць можна незалежны стан,
Як стаць у рост, каб чалавекам звацца,
Як на сябе ўзяць абаронцы сан.

На прамяністы шлях ступіць не проста:
Не раз праўдзіст клаў долу галаву.
Ды без ахвярнасьці – не ўзыдзе постаць:
Шаноўным іменем – не назавуць.

І сёньня, камень коцячы сізіфаў,
Як і раней, народ у змрок брыдзе:
Прадажны рэй, што радзіць рада “з грыфам”*,
Дзяржаву ў край даброт*… не прывядзе!

1 сакавіка 2010.

## ТВАР СУМЛЕНЬНЯ

Жыцьцё ў нашай краіне з кожным годам горшае. Аб гэтым сьведчаць рост суіцыдаў, страта сумленнасьці, страх і татальная мана.

*“Не агораць збавеньня нідзе,*
*Ні ў праклёнах, ні ў шчырым маленьні,*
*Бо на нас , як пагібель, ідзе*
*Дэфіцыт Дабраты і Сумленьня”.*

**Сяргей Грахоўскі**

На гонях Янак і Якубаў*
Сумленьне – на мяжы растрат.
Падчас – яно вядзе да згубы.
Найбольш – ягоны сурагат.

Былі ж і творацца зьдзяйсьненьні
Змаганцаў за сумленьня стан –
Касьцюшкаўцаў, сяброў Майсені*…
Іх час вяршэнства – не настаў.

Калі ж казаць пра час найноўшы,
То скрозь маны жывой – тавар:
У сьвет фарватэр не знайшоўшы,
Хавае ў спрат лёс ганьбы твар.

І цешыць ён народ трубонам,
Што крызіс крылы падкасіў,
Што трата нам паслана Богам,
Таму спагады – не прасі

І не ўзьнімай да неба рукі!
Цярпі! Хоць Бог і чуе стогн,
Ён не пазбавіць нас ад мукі:
Не дасьць настрою добры тон…

Жыцьцё не стала б апастылым,
Калі б такі трымаць фармат:
Брыды сумленьня сурагат
Здаваць без роздуму *“на мыла”*.

17 сакавіка 2010

# КАБ НЕ АДЫШЛО ІМЯ Ў НЯБЫТ

Акраверш прысьвечаны жывапісцу, апосталу **Рэалізму** Алесю **Мару** (Аляксею Антонавічу **Марачкіну),** якому 30 сакавіка (1940) лёс адмерыў 70 год. Плён яго працы на Манпарнасе вельмі ўражвае: ў **Пантэоне Славы** Анатоля **Белага** ў Старых Дарогах яго творам адведзена цэлая зала, у якой разьмешчаны каля сотні тэматычных карцін і гістарычных партрэтаў, а таксама 600 медальёнаў выдатных дзеячаў Бацькаўшчыны, выкананыя ў бронзе, пазалоце, шкле ці сілуміне (параўнайце: ў Нацыянальным музеі іх толькі 24).

*"Сьветлай праўды сіла*
*Славу лепшую напіша*
*Бацькаўшчыне мілай".*

**Янка Купала**

*"Жыць, каб агонь у сэрцы не патух,*
*Дапамагае несьмяротны дух.*
*Як сплаў адвагі, мудрасьці, сумленьня*
*Ён дойдзе да наступных пакаленьняў".*

**Сяргей Грахоўскі**

**А**нёл тварца, каб з часам жыць,
**Л**агодзіць душу зьместам твора –
**Я**к можна больш быў твор узорам:
**К**аб мог заўжды мастацкай формай
**С**южэт, не сходзячы з мяжы
**Е**вангельскай зьмястоўнай нормы,
**Ю**доль зямную асьвяжыць.

**М**астацкі твор ці медальён
**А**здоблены прыкметай часу,
**Р**адніць пачуцьці навылёт
**А**дным імкненьнем: каб не згаснуў
**Ч**ароўны дух агню Сварога;*
**К**аб са сьвядомасьці люцкой
**І**мя, што высьвечана Богам,
**Н**е адышло ў нябыт-спакой.
**У** ім – так спадчыннасьці многа.

29 сакавіка 2010

# ДУША ЧАЛАВЕКА ЭПОХІ

Верш прысьвячаецца **“найпершаму беларусу з беларусаў сьвету”,** нашаму **Праметэю,** вучонаму-гуманісту **Кіту*** Барысу Уладзіміравічу, якому **6 красавіка** лёс адмерыў **100** гадоў. Сустракаючы сваё стагодзьдзе ў добрым здароўі, ён мудра ставіцца да сьвету і сябе асабіста:*“Узгадваючы сваё жыцьцё, я шырэй бачу панараму пакутнага стагодзьдзя, якое мне давялося перасягнуць. Можа, Бог пакінуў мяне на гэтай грэшнай зямлі так надоўга якраз для таго, каб я, апроч усяго іншага, змог пакінуць сьведчаньні пра дарагіх майму сэрцу незабыўных, сьветлых людзей і падзеі свайго часу”.*

Няма ў жыцьці больш яркага узору,
Дзе б у адзін сувой змагла спавіць
Падзеі лёсаў пуцяводных зорак
Праніклівай душы жывая ніць.

Яна няўрымсьліва ў сьвятых памкненьнях –
У скрушны час лёс зорны не завіс:
Яна жыве пачуцьцямі натхненьня,
Яна ракетай узьнялася ўвысь.

О, колькі лёсавых жыве спатканьняў
Душы з сябрамі грэшнае зямлі,
Што зьведалі жуду і боль спагнаньня
І ў беспрасьветнасьць стратна палеглі!

А колькі землякоў-майстроў сусьвету,
З якімі лёсам стрэлася душа,
Для памяці засьведчылі прыкмету:
Яна жыве, каб праўду ўваскрашаць.

І не здарма імя ушанавана
Пагодай часу Капітолія:[1]
Яно – жыцьцём сьвятым ачаравана!
Ім ганарыцца мудрая зямля.

Красавік 2010.

---

1. **Капітолій** –будынак у Вашынгтоне, у якім праходзяць пасяджэньні кангрэса. У **капсулу часу** яго сьцяны і замуравана імя **Б.Кіта**.

# ПАДАНЬНЕ

Акраверш прысьвячаецца пісьменьніку і грамацкаму дзеячу Васілю Цімафеевічу **Якавенку** (н.5.5.1936), апосталу **Гістарычнасьці**, аўтару трылогіі “**Пакутны век**”, у якой па-мастацку, без кан’юнктурнага ўціску зрусіфікаванай ідэалогіі, праўдзіва – згодна сьведчаньням **рэальных постацей***– падаюцца гістарычныя падзеі 20-га стагодзьдзя на нашай Бацькаўшчыне, якія, аднак, ў савецкай гістарыяграфіі – наўмысна сфальсіфікаваны.

*“Даруйце нам, дзеці, даруйце, унукі,*
*За нашы і вашы пякельныя мукі,*
*Глядзіце наперад уважлівым зрокам*
*І болей не верце ілжывым “прарокам”.*

*“Не ўсё мы ўмеем шанаваць*
*І бачыць яснымі вачыма.*
*Бяз праўды можна існаваць,*
*А жыць бяз праўды – немагчыма”.*

(Зь вершаў Сяргея **Грахоўскага,** які 20 год
у ГУЛАГу адведваў “*пякельныя мукі*”.

**В**ячыстым духам парываньня
**А**дметнай чуласьці душы
**С**тварыў Васіль трыпціх-паданьне
**І**мён з парнаскіх муз вяршынь:
**Л**ёс зорак з памяці не сьцерці –
**Ю**доль зямная*… на паверцы.

**Я**ны жыцьцём ахвяравалі –
**К**рай баранілі як маглі:
**А**дных – дарогі ў сьвет пазвалі,
**В**ыт д’ябальскі – сустрэў другіх.
**Е**нк рэпрэсіўны рваўся з долу –
**Н**ястрымна кроў у жвір цякла…
**К**агорта ж скрыўджанае долі
**У Вечнасьць** чуласьцю ўзышла.

13 красавіка 2010**,**
**Радаўніца**.

# КРАІНА Ў ІМГЛЕ

Санет прысьвячаецца змагару за адраджэньне нацыі, палітолагу і публіцысту Анатолю Іосіфавічу **Майсені**[1] (4.01.1959-12.11.1996). У адказныя часы перабудовы ён стварыў незалежную недзяржаўную арганізацыю – Нацыянальны цэнтр стратэгічных ініцыятыў “**Усход-Захад**”, які стаў мосьцікам паміж Еўропай і Беларусьсю. Напісаны ім артыкул “***Беларусь у імгле***” аб выніках першых двух гадоў кіраваньня новай улады, па адной з версій, стаў прычынай яго сьмерці.

*“А тут закопаны навекі*
*Надзеі, радасьць чалавека.*
*І гора схована ліхое –*
*Жыцьцё бядачае люцкое”.*

*“Дымам пойдзе ўсё ліхое,*
*Ўсё, што душыць нас і гне.*
*Вер, брат,– жыцьце залатое*
*Будзе ў нашай старане”.*

(Зь вершаў **Якуба Коласа**)

На строму часу вольнасьць узышла,
Надзею ў адраджэньне прабудзіла.
Але свабодзе звонкая хвала
Анёлу права розум закружыла.

Супроць бяспраўя плыняй усплыла
Руплівых спраў няўрымсьлівая сіла –
Рух на **Усход** і **Захад** пачала,
Каб здань бяды народа не спасьцігла.

А твор – учынкаў хіжых водгульле –
Нёс вестку ў сьвет: “**краіна у імгле” –**
Для сатаны яна, што костка ў горле.

І д’ябал не сьцярпеў – пайшоў ва-банк:
Сабе займеўшы звадаю карт-бланш,
Лёс завадатара скасіў пад корань.

14 красавіка 2010

---

**1.** Тлумачэньні чытай у **Камэнтарыях** да стар. 26.

## КАТЫНЬСКІ БОЛЬ

Верш прысьвячаецца памяці загінуўшых у трагедыях* 1939-40 і 10 красавіка 2010 пад Смаленскам у лясах Катыні, у якіх у другі сьвет адышла эліта – лепшыя людзі Польшчы па капрызу здраднага лёсу.

*“Здрадны лёс яшчэ адно прыбавіў гора,*
*Яшчэ адзін жалобны сьлед”.*

**Алесь Бачыла**

Стагодзьдзямі між Польшчай і Расеяй
Здань паўставала лікам сатаны:
Фантом варожасьці яе пасеяў –
Ішла бяда дарогамі вайны.

Не раз яна хадзіла пад Варшавай.
Быў дух яе відаць і пад Масквой.
І кожны раз лёс бітвы вырашала
Сьвядомасьць мас, што пешчана царквой.

Праступкам д’ябальскім люцкой заганы
Стаў Рыбентропа-Молатава твор:
Сумленьне нацый звадай ён спаганіў –
Да нашых дзён іх доўжыўся разбор.

На сцэну вырашэньня спрэчных думак
Усплыў прысуд ваеннае страды:
Як ацаніць Катыні боль-стасунак,
Што спарадзіў так многа злой бяды?…

Бяда ўвайшла у кожны дом нахабна:
Скасіла душы лепшых напавал,
Бо ў час няўзгод яна – непадуладна;
Дый лёс быў ім адзін: лес – на павал.

Як бы не цісьнуў сэрца боль катыньскі,
З судом згадзіцца трэ ўсё ж міравым:
І хай спачыне вечна Лех Качыньскі!
І разам сыдзе хай спуд векавы!…

16 красавіка 2010

# БРАТЭРСТВА БЕРАГІ

Верш напісаны як песьня для праслаўленьня дрыгавічоў і радзімічаў, пражываўшых на землях сучаснай Гомельскай вобласьці.

На берагах павольных рэк Палесься
Славяне мірны лад жыцця вядуць
І ў бітвах жорсткіх дзейнасьцю сумеснай
Свой родны край ад згубы берагуць.

Прыпеў: Жывы прастор над Прыпяцьцю і Сожам
Дняпром з'яднаў братэрства берагі
І да вышынь узьняў па волі божай
Чароўны край, так сэрцу дарагі.
І да вышынь узьняўся воляй божай
Чароўны край. Як ты нам – дарагі!

Дзе Гамяюк свой бег спыніў у Сожы,
Чаруе Гомель краскамі вясны.
Ім ганарыцца права мае кожны,
Хто прычыніўся да яго красы.

Прыпеў: Жывы прастор…

Палескі край. Тваіх палёў прывольля
Ляглі на дол ў разьлівах сініх рэк.
Край казачны – квітней! І песьняй воля
Хай палымнее ў сэрцах зь веку ў век.!

Прыпеў: Жывы прастор над Прыпяцьцю і Сожам
Дняпром з'яднаў братэрства берагі
І да вышынь узьняў па волі божай
Чароўны край, так сэрцу дарагі.
І да вышынь узьняўся воляй божай
Чароўны край. Як ты нам – дарагі!
Красуйся, край! Ты – сэрцу дарагі!

Сакавік 2009

# СЛУГА АСЬВЕТНІЦТВА

Верш прысьвячаецца грамацка-культурнаму дзеячу, стваральніку прыватнага музея ў **Старых Дарогах** Анатолю Яўхімавічу **Беламу***.

*“Блудныя сьцежкі цёмнага жыцьця*
*Навукі сонцам мусіш расьсвятліць,*
*Каб мы і наша ў прышласьці дзіця,*
*Не блудзячы, маглі свой век дажыць”.*

**Янка Купала**

Гаротны лёс, зацяты самасудам,
Шляхамі д’ябла край у змрок завёў
І сэнс жыцця, што існуе пад спудам,
У ранг загнанай спадчыны ўзьвёў…

Слуга асьветы ўзрушыўся пачынам,
З нябёсаў родных счуўшы боскі звон:
Сабраць сыноў пакутлівай Айчыны
З усіх краёў у славы Пантэон,

Скуль кожны зь іх непрыхаванай воляй
Змог весьці рэй зьмястоўнага жыцьця
З часоў ліхіх, атуленых няволяй,
Каб вывесьці Айчыну з забыцьця.

Ён, справаю дабротнай апантаны,
Іх творчыя сьцяжынкі пралажыў
Ад родных ніў, што здрадай акаваны,
Да пафасу парнаскіх муз вяршынь.

Раскрылі крылы музы па прызваньню
Рупліўцаў мовы роднай, мастакоў,
Гісторыкаў, паэтаў… з захаваньнем
Праўдзівасьці нязведаных вякоў…

Асьветніцтва музей Старадарожскі
Ўзьнімае памяць продкаў з забыцьця.
Яго благаслаўляе голас боскі:
Заўжды ён прагне твораў набыцьця.

25 красавіка 2010

# ПЯСЬНЯР СВАБОДЫ

Акраверш прысьвячаецца публіцысту, пісьменьніку, паэту і грамацкаму дзеячу Уладзімеру Аляксеевічу **Арлову (н.25.8.1953),** аўтару 30 кніг прозы, эсэістыкі і паэзіі на гістарычную тэматыку ў сувязі з прысуджэньнем яму 27 сакавіка 2010 літаратурнай прэміі, заснаванай муніцыпалітэтам польскага горада Гданьск, у конкурсе **"Еўрапейскі паэт Свабоды"** за кнігу вершаў "*Паром праз Ла-Манш*". За дэбютны празаічны зборнік "*Добры дзень, мая шыпшына*" ў 1986-м яму была прысуджана прэмія Ленінскага камсамола Беларусі, а ў 2008 – прэмія **"За свабоду думккі".** Яго кніга "Імёны Свабоды" для мяне – энцыклапедыя, скуль я чэрпаю сюжэты для сваіх твораў.

*"Працай шчырай і знаньнем*
*Гору справім сканаьне,*
*Праўдай лёгка няпраўду змагаці.*
*І на вузкіх на гонях*
*Пры сваіх валах, конях,*
*Ой, шмат можна чаго даказаці!"*

**Янка Купала**

**У** эпічнай гармоніі строя
**Л**ітаратар стварыў нарматыў:
**А**дмысловым сугуччам настроя
Да людзей данясьці пазітыў.
Зьмест сюжэта ў зладжаных творах
**І**нтарэс вызначаўся з падстаў –
**М**енавіта ў Свабоды прасторах
**Е**ўрапейскім паэтам паўстаў:
**Р**ыцар Волі не зносіць нягод
**У** змаганьні за Сьвята Свабоды.

**А**пявальнік Свабоды імёнаў
**Р**ушыў музаю зладзіць карт-бланш:
**Л**іставацца з даверам к пісьмёнам,
**О**дум духа каб справіў рэванш...
**В**ершаў зборнік "Паром праз Ла-Манш"
**У** служэньні – маной не замглёны.

3 траўня 2010

# ДУХ “ЧАРНАБЫЛЬЛЯ”

“Чарнобыльскі шлях” 26 красавіка 2010 арганізавала Беларуская хрысціянская дэмакратыя,”Малады фронт” і “Еўрапейская кааліцыя”. Гэта было сапраўднае баявое хрышчэньне моладзі па арганізацыі вулічных акцый. На мітынгу (каля 2-х тыс.чал.) выступілі кандыдат ад БХД на прэзідэнцкія выбары Віталь **Рымашэўскі**, старшыня аб’яднаньня “Чарнобыль” пісьменьнік Васіль **Якавенка**, акадэмік Іван **Нікітчанка**, заснавальнік камітэта “Дзеці Чарнобыля” Тамара **Белавокая**, мастак і грамацкі дзеяч Аляксей **Марачкін** і іншыя.

У прасторы дзяржаўнай няславы
Край не зьведаў найгоршай пары,
Чым час скрухі, пагодай насланы,
На ўзвышэньня* Свабоды зары…

Як бы й справа была падкантрольна
І нішто не вяшчала бяды.
Ды раптоўна з нябёс манапольна
На зямлю саступіў “чарнабыль”*.

Перакроіў люцкія ён лёсы,
Зьнішчыў вытам раскутасьць зямлі,
Спарадзіў чорнай сьценю дзівосы,
Ад чаго толькі сэрца баліць.

Ён спаганіў Свабоду і Права.
І пакорнасьць – няўмеру ўзрасла.
У пашане – карупцыі справа
І мана, стаўшых пошасьцю зла.

Вось чаму хрысьціянін зрадніўся
З чарнабыльцам – на шлях адзін стаў,
Каб азначыць: змагар адрадзіўся –
Процiў негадзі гуртам паўстаў.

Прагучалі сугучна тут рэчы:
Ганьба справам заказу* ў судзе!
Ганьба “атамастрою”*, дарэчы!
Ганьба ўсёй паказной* драбязе!

5 траўня 2010

# ПОСТУП САЛДАТА

Балада прысьвячаецца ўчынкам савецкага салдата, зьдзейсьненых ў красавіку 1945 у бітве за Берлін напярэдадні капітуляцыі Германіі. Першы ўчынак зьдзейсьніў 25-га беларус Трыфан Лук'яновіч, які паплаціўся сваім жыцьцём, другі – 28-га рускі Мікалай Масалоў. (газ. "Рэспубліка" ад 7.05. 2005). Іх учынкі натхнілі скульптара Яўгена Вучэціча на стварэньне памятніка, узьведзенага ў Трэптаў-парку.

Палымнеў красавік ў сорак пятым –
У Берліне агнём трапятаў.
І як толькі дзень змрокам быў сцяты,
На часіну гром пушак сціхаў.

Раптам ціш разарваў за каналам
Стрэл каварны…Ўскрык яму ўсьлед…
Там жанчына дзіця ратавала
Ад бяды, загарнуўшы ў плед.

Яна ўраз тут нязграбна прысела
І замоўкла… чамусьці зусім:
Ды дзяўчынка паняць не сумела
Быт вайны разуменьнем сваім.

Плач дзіцячы тужліва-надрыўны
Парадніўся з нямой цішынёй…
І… салдат свой палёт непарыўны
Назаўжды зьнітаваў з вышынёй...

Трэптаў-парк бачыць ён з пастамента,
Прытуліўшы дзіця да грудзей.
Яго поступ паўстаў манументам,
Спарадзіўшы плынь слушных падзей.

Ён мячом перасек крыж нацысцкі –
Не гучыць больш трывожна набат:
Мірным поступам… па-пацыфісцкі
Нарадзіў новы сьвет наш салдат.

7 траўня 2010

## ДЗЕНЬ РЭСПУБЛІКІ

Верш прысьвячаецца **Дню Волі**, які адзначаецца 25 сакавіка з нагоды абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918г.

У зарніцах сусьветнай вайны*
Выдзяляўся настрой добрай волі:
Ох, як цяжка было ў тыя дні
Пазбаўляцца няшчаснае долі.

З забыцьця сьветлым часам паўстаў
Дваццаць пятага – днём сакавіцкім –
Край дзядоў. Ён – Рэспублікай стаў:
Быў расклад тых падзей рэфармісцкі.

Але ястрабам штодзень кружыў
Па-над межамі сьцень бальшавізма.
І… кар’еру дзялка* заслужыў
Адшчапенец радні… нігілізмам*.

Справу волі ён здаў ў архіў,
А іх носьбітаў – пеклам адорыў.
І імя іх кляймом ачарніў,
Як нацдэмаўцаў*, выракам скорым.

Ён пранік у сьвядомасьць людзей
Пад пакровам маны і русізма,
Празамбіраваў яснасьць надзей,
Спарадзіўшы павеў аскетызма*.

Наш народ стаў нібыта глухім
Да свабод і жыцьця ў паняверцы.
Кім ён будзе праз годы? Якім
Запавет продкаў станецца ў сэрцы?…

Прыйдзе час: у нябыт сыдзе мор,
Мова родная стане звычайнай.
І… Дзень Волі напоўніць прастор
Прыгажосьцю сваёй надзвычайнай.

8 траўня 2010.

# МОВА – ЖЫЦЬЦЯ АСНОВА

Балада акравершам прысьвячаецца старшыні Таварыства беларускай мовы імя Фр.Скарыны Алегу Анатольевічу **Трусаву** (н.7.8.1954).

*"Мова – этнічная аснова самавызначэньня народа і нацыі, яна– жыцьцястваральная аснова дзяржаўнага сувэрэнітэту, яна і абаронца народа, дзяржавы".* **Леанід Яўменаў**

*"Родная мова, цудоўная мова!*
*Ты нашых думак уток і аснова!"*
**Уладзімер Дубоўка**

**А**нёл аховы мовы роднай
**Л**ад дружна рушыў аднаўляць
**Е**вангельлем, што служыць годна,
**Г**рунтоўна думку напраўляць
**У** рэчышча пачуцьцяў гордых.

**А**ле анёл маразма змоўна
**Н**а мову, ўзьведзенай ў Закон*,
**А**броць надзеў – факт безумоўны:
**Т**расянкай зганьбіў лексікон.
**О**х, як агідна беларусу
**Л**ітаратурны пераклад
**Е**вангельля рабіць па-руску –
**В**ярстаць сюжэт на "рускі лад"…
**І**гра са спадчынай зьмястоўнай –
**Ч**арніць лексічны мовы склад –
**У** цьму сыходзіць памяркоўна...

**Т**ут Таварыства*, як суб'ект,
**Р**асправіў крылы сродкам мовы,
**У**збагаціць каб інтэлект
**С**імволікай жыцьця асновы.
**А**сноўным стаўшымся зьвяном
**В**узла супольніцтва, яно
**У**звышшам стала уплывовым.

19 траўня 2010

# ПІЛОЦКАЯ ШКОЛА

Акраверш прысьвячаецца нязменнаму кіраўніку Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа, старшыні Рады беларускай інтэлігенцыі Уладзімеру **Коласу** (н.22.09.1951), які сумеў у абставінах татальнага ўціску і амаль у падпольных умовах мабілізаваць калектыў выкладчыкаў гуманітарнага ліцэя, каб праводзіць пілоцкае абучэньне моладзі ў навучальнай установе як грамацкай структуры еўрапейскага кшталту з захаваньнем нацыянальнай самаідэнтыфікацыі.

*"Наша мова неўміручая, бо яе*
*захоўваюць усе".*

**Уладзімер Караткевіч**

*"Мова! Як сонца маё беларускае,*
*Ты сьвецішся словам кожным.*
*Цябе і заворвалі і закопвалі.*
*І ўсё ж нашы продкі праз гора*
*Данесьлі да нас цябе, родную,*
*Цёплую, жывую і непаўторную".*

**Яўгенія Янішчыц**

**У** гадзіну дыктату і драмы
**Л**ёс ліцэя* рашаў калектыў:
**А**бучэньне рабіць па праграме,
**Д**зе ў пашане – народны матыў.
**Зь**мест праграм на палёт ліцэісцкі
**І**нтарэс вызывае з падстаў:
**М**енавіта ліцэй гуманісцкі
**Е**ўрапейскаю школай прадстаў…
**Р**азам з тым ліцэісцкі зародак
**У** шарэнзе падзей – асяродак.

**К**іраваць вучыць нас установа –
**О**рган нацыянальных асноў –
**Л**ексіконам народнае мовы,
**А**дукацыяй, здольнай бяз змоў
**С**амавітасьць разьвіць ад бацькоў,
**У** палёт каб падняцца чарговы.

24 траўня 2010

# ТЫТАН ДУХУ

Акраверш прысьвячаецца класіку беларускай літаратуры Ул-ру Сямёнавічу **Караткевічу** (26..11.1930-84) у сувязі з 80-годзьдзем зь дня нараджэньня. У разьвітальным слове на яго пахаваньні паэт Генадзь Бураўкін назваў Караткевіча* **апосталам Духу нацыі**.

"*Уладзімер Караткевіч…вяртаў беларусаў да беларускасьці, да нашай гісторыі. Гэта быў князь крывіцкага духу*".

**Рыгор Барадулін**

"*…спрадвеку гучыць мая мова, булатны клінок,*
*Тая гордая мова, якую й тады не забудзем,*
*Калі сонца з зямлёю ў апошні заглыбіцца змрок*"

**Уладзімер Караткевіч**

**У**ладзімер як духу тытан
**Л**іставаў твор з крыніц летапісца:
**А**длюстроўваў характараў стан
**Д**абратворным пяром непахісна,
**З**разумеў каб чытач сэнс жыцця
**І** ўвабраў у сябе продкаў моду:
**М**ацаваць навізны пачуцьця –
**Е**зуіцтву прыдаць болей ходу;
**Р**азуменьне законаў прыроды
**У** любую апісваць пагоду…

***К**аласы пад сярпом**…– Кастуся
**А**драджэнства ідэі – істотна
**Р**азвіваюць пачуцьці ў грудзях,
**А**буджаюць і гонар, і годнасьць.
**Т**ут і вера ў жыцьцё як набат
**К**анцэнтруе увагу патомка:
**Е**днасьць рушыць у моўны фармат
**В**ызначальнаю матывіроўкай…
**І** вярэдзіць душу́ бед каскад –
**Ч**алавечага гора з'яўленьняў –
**У**спаміны… пра лёс пакаленьняў.

26 траўня 2010.

# РОЎНАСЬЦЬ

Балада прысьвячаецца гісторыку, палітыку, пісьменьніку, адметнаму сакратару нацыянальнага Адраджэньня пачатку XX стагодзьдзя, неадменнаму сакратару маладой Беларускай Акадэміі навук Вацлаву **Ластоўскаму** (8.11.1883-1938), які за свае імкненьні і думкі, каб бачыць свой край незалежным, быў расстраляны органамі НКУС.

*“...я горад збудаваў...*
*І от нахлынуў вораг многі.*
*Ударыў я у звон трывожны.*
*Дзынеў патужна цяжкі сьпіж...*
*Аднак на клік мой зоўны*
*Ніхто ка мне не паспяшыў:*
*У горадзе маім –*
*такім мацоўным –*
*Адзін я быў!...”*

(Зь верша **Вацлава Ластоўскага**)

На скрыжалях бурлівага часу
Долі ангел грыз путы ў цісках.
Часам чорт яму строіў грымасу,
Калі той заставаўся ў сілках...

З-пад нябёсаў ішла устаноўка:
Роўнасьць нацыянальным правам!
Рэчаіснасьці матывіроўка –
Надта доўга русізм панаваў.

І рахункам нябеснае справы
Стаў урад вырашальных падзей*.
Але акты як левых, так правых,
Не прынесьлі жаданых надзей...

Гідры гордых імперскіх амбіцый*
Разрывалі краіну ў шматкі.
Кожны, зь імі занятых пазіцый,
Прагнуў іх захапіць навякі...

У змаганьні за лёс Адраджэньня
Власт пад іменем розным хадзіў*

І параду даваў на сьцвярджэньне
Свайго "я", і… народ свой будзіў.

З таямнічых крыніц ён цярпліва
Раскрываў лёс краіны сваёй
І даносіў да мас клапатліва…
Праз вытокі культуры жывой.

І з "*Кароткай гісторыі…*" краю*,
Ўпершыню што з'явілася ў сьвет,
Пазнаём, як нахабна сьціраюць
Заваёўнікі прадзедаў сьлед...

З-пад пяра часам тым навукоўца
Стаў выходзіць "***Крывіч***"-альманах*.
І… з павагаю роднае слоўца
Прыдала пажаданьням узмах.

Але д'яблу чырвонай навалы
Не па густу быў вольны матыў.
І рашыў ён: сакрэтна й павальна
Скараціць мовазнаўчы актыў*…

Паляцелі ад д'ябла запросы:
"*Як там справы вядзе Інбелкульт?*"*
І… ў адказ: справаздачы, даносы –
Надта дзейсным быў сталінскі культ.

Як "*нацдэму Саюза…*"– міф-зьдзелкі*,
Стаў прысуд яму першы ў прыцэл,
А *"за сувязі з польскай разьведкай"*
У другі раз – апошні – расстрэл.

* * *

Не збыліся надзеі нацдэма,
Хоць і слушным яго быў наказ.
Але ўсё ж **нацый роўных ідэя***
Прычакае свой суджаны час.

29 траўня 2010

# СТУПЕНІ СВАБОДЫ

У механіцы рухі механічнай сістэмы маюць **6 ступеней свабоды***, якія абмяжоўваюцца іх сувязямі. Такія ж ступені можна назіраць і ў грамацтве.

*“Не забівай прэзідэнта! Ня варта.*
*Хай сам ён памірае штодня ад страху,*
*Ад жаху, якога зіркатая варта*
*Ня можа спыніць ля ягонага гмаху”.*

**Валянцін Тарас**

У грамацтве ступені свабоды
Існуюць… па законам быцьця.
Толькі іх іерархія – ў згодзе
Са здабыткам умоў разьвіцьця…

Найвышэйшую стадыю бачым
Ва улоньні сьвятым мацярэй:
Рухі ўсе мог зародак азначыць
У Ярдані, што зладзіў тварэц.

У калысцы ж дзіця ад прыроды,
Шчэ ня зьведаўшы страху ад бед,–
Як таму нат спрыяе й пагода, –
Сьмела робіць у будучнасьць сьлед.

Але вось у садку ён ці школе,
Стаў кантроль адчуваць за сабой.
Спарадзіўшы дзей поўнае кола,
Рух яго, часам тым, даваў збой.

Калі ж постаць – у працы з саюзам,
То свабоды шчэ бачна ступень.
Прэзідэнту ж…“месія” – абуза:
Страх яго працінае штодзень.

Уладальнікам нізшай ступені
Стаў нявольнік пачуцьцяў душы:
Стан яго захапленьня ў трызьненьні
Поўны звады, якіх трэ глушыць.

30 траўня 2010

# ВОДАР ЧАСУ

Балада прысьвячаецца дзеячу і выдаўцу А.М.**Уласаву*** (1874-1941). У аснову твора паложаны матывы зь кнігі "*Волат зь Мігаўкі*" Ўлада **Содаля**, дасьледчыка жыцьця Александара Мікітавіча, які вельмі клапаціўся аб адраджэньні традыцый сваіх продкаў, аб захаваньні мовы. Як казаў суайчыньнік дзеяча Янка **Шутовіч**:*"Не ведаць Аляксандара Ўласава, значыць – не ведаць гісторыі беларускага вызвольна-нацыянальнага руху, ля вытокаў якога быў і стаяў ён".*

*"Мова маці – розум наш і рукі.*
*Ад яе – гісторыі выток:*
*Сьвецяць нам Скарыны першадрукі,*
*Шчырасьцю – купалаўскі радок".*

**Анатоль Крывіцкі**

Водар часу абуджэньня
Вабіць веліччу падзей –
Фарміруе узвышэньне
Сьветапогляду ў людзей.

Да традыцый нашых продкаў
Так і цягнецца душа:
Памяць хоча дзейсным сродкам
Іх надзейна узвышаць...

Орган друку – "Наша Ніва" –
Выхадзіў з турмы вякоў:
У вытоках гаманлівых
Аўлас – дзейны галоўком.*

Разам зь ім "Саха" і "Хата"*
Клалі досьвед у ральлю
І сьвятло "Лучынка" сьвята
Пралівала на зямлю.

Тут найшлі сваё прызваньне
Літаратар і паэт:
Прыдалі зачараваньне
Мове роднай санцацвет.*

Дзесяць вёсен безупынна
Паднімалі з забыцьця
Край парадай дабрачыннай
Да зьмястоўнага жыцьця.

Абудзіўся край бацькоўскі –
Аб’явіўся як суб’ект*.
Ліхадзей, аднак, маскоўскі
Даў яму другі асьпект.

Наляцелі крывасмокі,
Аблажылі край спаўна
Харчпадаткам – іх урокі
Апрацованы здаўна –

І да духу прылажылі
Чужамоўя трафарэт –
Час засьведчыў: парадзілі
У галовах вінегрэт.

Аўлас змусіў абуджэньне
Шырыць, як спецыяліст,
Ва ўстановах абучэньня,
Дзе час правіў метадыст.

На улоньні моўнай нівы
Спраўна нёс ён творчы крыж,
Покуль “крэсы” ў час бурлівы*
Не згубілі свой прэстыж.

Майстар справы падкалоднай
Зладзіў трапны аргумент:
Раз асоба – з непрыгодных,
Значыць – шкодны элемент*.

Мера дзікага суджэньня
Не магло ўтаіць жыцьцё…

Знаць узорнае служэньне
Не пазарасло трысьцём.

*   *   *

Водар часу абуджэньня
Вельмі шчодры – па сабе...
Дух карыснага служэньня
Покуль што – наводшыбе*.

9 чэрвеня 2010

## АПАНТАНАСЬЦЬ

Верш прысьвячаецца Расьціславу **Лапіцкаму*** (1928-50), арганізатару антысавецкага Супраціву 40-х пасьляваенных гадоў.

*"З родным словам на вуснах герояў*
*Запякалася алая кроў".*

**Ніл Гілевіч**

Расьціслаў стаў надта рана
Апантанасьць азначаць:
Край свой арганізавана
Дзеяй слушнай асьвяшчаць,

Як рэжым не без аглядкі
Спарадзіў калгас-прымус:
Непамерныя падаткі
На плячах нёс беларус.

Цераз церні пытак зьверскіх
Сьвятара сын* спраўна нёс
Крыж пакутны, за паперкі
Выкрываўшыя хаос:

Не скарыўся перад зграяй,
Не згадзіўся на саўдзел,
Не зьняславіў імя краю –
Сьмела ён сустрэў расстрэл.

*   *   *

Апантанасьць – справа чэсьці:
Не ўсялякі можа несьці.

10 чэрвеня 2010

## ЗАПАЛІ ФАРУ!

Верш напісаны ў падтрымку грамадзянскай ініцыятывы* *“За бясьпеку і любоў”* – павялічыць узровень бясьпекі на дарозе прынцыповым запальваньнем фар і ў дзённы час. Праз гэтую дзею мы станем больш адказнымі, чым былі, і палепшым нашае жыцьцё.

Каб чалавекам лепшым стаць –
Любіць жыцьцё з тае прычыны,
Трэ за рулём бясьпеку ўзьняць –
Трэ фару запаліць машыны.

Калі ў павазе хочаш быць
І час круты не траціць марна,
Вазьмі за правіла: заўжды
Руліць з уключанаю фарай.

Калі ж ты хочаш быць сабой,
А не рабом ці зомбі проста,
То хай ліецца з фар сьвятло
На ўсім шляху тваім удосталь.

Калі ўсе станем – як зарок –
Са сьветам ехаць прынцыпова,
То шлях у сьвет нам не знарок
Адкрытым стане. Без умовы.

Да слова, можна прадказаць –
Паменьшым пры язьдзе здарэньняў:
Тады вось зможам і надаць
Жыцьцю другое вымярэньне.

* * *

Каб продкаў зьдзейсьнілася мара –
Людзьмі на белым сьвеце звацца,
То едзь з уключанаю фарай! –
Душа лепш будзе пачувацца.

14 чэрвеня 2010

# НАСТАЛЬГІЯ

Верш прысьвячаецца апосталу Духу нацыі, паэту Ул-ру **Някляеву**, ініцыятару кампаніі “Гавары **праўду**!” Настальгія па ёй – палымяна.

*“І калі ты не ў праху вояў,*
*Не ў мройным часе залатым,*
*А ў духу тым, што прагне волі,–*
*Тады ты ёсьць, калі ты ў тым!”*
(Зь яго паэмы “**Паланэз**”, 2000)

На скрыжалях эпох, дзе вякоў
Глыбіня нематою замглёна,
Бачна ледзьве сьвятло маякоў –
Вока моракам шэрым зашклёна…

Вось ужо год за дзьвесьці – праклён:
Край вярыгай імперскаю душыць.
Надта дзейсны заганнасьці плён
І таму стаў народ невідушчым.

Задумлённасьць лягла на чало –
Думкай хвораю твар змардаваны:
Як так стацца на сьвеце магло,
Што на край сышоў золак крывавы?

Як народ д’ябал змог паланіць?
Як жыць можна у пастцы збавеньня?
Як так ду́шу змог Ба́хус* спаіць,
Што гатова да здрады сумленьне?..

А калісьці ж… быў край ваяроў,
Край Пагоні Вялікага княства,
Край павагі й ліхіх змагароў
За Свабоду, за лёс уніяцтва!…

Настальгія па **праўдзе** – жыве!:
Шчэ ў Статуце* яна высьпявала.
У нябыт… яна ўжо – не сплыве:
**“Кажы праўду!”** – туга гартавала!

25 чэрвеня 2010

# НАД ПАЛОНКАЙ

Паэма прысьвячаецца слаўнай бітве ліцьвінска-ўкраінскага войска пад Палонкай*, якая адбылася 28 чэрвеня 1660г. ў часы бязьлітаснай вайны 1654-67 Масковіі з Рэччу Паспалітай, у якой загінула больш за палову тагачаснага насельніцтва Літваніі. Масква прагла далучыць нашыя землі да сваёй дзяржавы і атрымаць выйсьце да Балтыйскага мора. Але ім дарогу перакрыла швецкае нашэсьце.(Чытай нататку *“Слаўнай Палонкаўскай бітве – 350 гадоў”* у газ. “*Наша Слова*” ад 30 чэрвеня 2010г.). Падзеі даўніны глыбокай утойваліся да часу.

*“І няма ў людзей больш простага спосабу ўдасканаленьня, як праз веданьня дзеяў мінулых”.* **Палібій**

*“Можа відушчымі стануць нашчадкі?*
*Шляху няма. Ні канца, ні пачатку.*
*Прывідам – у пустату з пустаты –*
*Рвецца Пагоня з дзяржаўнай пячаткі,*
*Непадкаваныя б’е капыты”.*

**УладзімерНякляеў**, 1995

Кірунак царскага стырна
Трымаўся звычаяў імперскіх:
Раз мэта спраўджваньня відна,
Трэ дасягаць яе… па-зьверскі…

Край уніяцкі* ледзь трываў
Варожай пошасьці паразы:
Палон, падушны збор, царква
Няславілі народ абразай.

І ў час бязьлітаснай вайны
Дол заліваўся кроўю алай:
Хто не знасіў зьдзек сатаны –
Душа у бозе спачывала.

Чуць-чуць трымаліся яшчэ
Бярэсьце, Ляхавічы, Быхаў,
Нясьвіж і Слуцк. Другія – ўшчэнт
Разбураны… Край ледзьве дыхаў.

Павевы й швецкае вайны*
Лёс краю цінай пакрывалі…
Набатна клікалі званы
Пазбавіцца ад злой навалы!

* * *

Парфіраносец Казімір*
Рашыў адпор даць супастату:
Спрыяў таму Аліўскі мір[1] –
Кароны каралеўскай плата.

Сапегам* спраўлены ганцы –
Харугвы рыхтаваць да збору:
Пакуль не аддалі канцы,
Край бараніць трэ ад пакоры.

І скіраваў шчэ князь-кароль
Падмогу з брацкай Украіны:
Чарнецкаму* прыдана роль
Сцэментаваць рады Айчыны.

Надзеяй ў прышласьць акрыяў
Ваяр ліцьвінскае Пагоні:
Дух брацтва зруху паспрыяў –
Моц мацавалася нароўні.

Народ гатовіў з ночы ў ноч
Для ваяроў мячы, шаломы
І сыскара трымаўся ўзбоч
Дарогі – досьвед меў, вядома.

* * *

І вось настаў зрушэньня час –
Гусар з пяхотай сшыхтаваўся.

**1. Аліўскі мір** быў заключаны 3.5.1660г. паміж Швецыяй і Рэччу Паспалітай, згодна якому спыняліся ваенныя дзеі Паўночнай вайны 1655-60, а кароль польскі і Вялікі князь ВКЛ Ян ІІ Казімір адракаўся ад кароны караля Швецыі.

Ваяр пры зброі – гонар спас –
Да схваткі з д’яблам ёмка рваўся:

Агнём рушніц[1] спаліў запал
Атакі конніцы варожай
І утварыў жывы завал
У ленаватай рэчкі[2] ложы.

Цаною страт праз шквал агня
Гусар Палу́бінскага* войска, –
Не супыняючы каня, –
Сек маскаля з размаху порстка.

Гусары Вайніловіча*
Зайшлі з другога фланга шпарка
І з ходу – на чужых плячах –
Пяхоту выбілі з фальварка…

Хаванскі* не стрымаў удар –
Згас бляск вачэй баяр у сечы:
Разгубленасьць пакрыла твар…
І… зьбег ваяка… ў небяспецы.

* * *

Над месцам тым, дзе бегла кроў
Сьвятая вершніка ў Палонку ,
Крыляюць душы ваяроў,
На памяць каб сысьці ў скарбонку…

Калі ж настане праўны час –
Пара вячыстых спраў прызнаньня?
Калі ж час будзе без “прыкрас”
Тлумачыць маскаля “яднаньне”?

3-5 ліпеня 2010

---

**1. Рушніца –** руч. пішчаль зь мех. прыстасаваньнем для запальваньня зарада.
**2. Рэчка –** балоцістая рэчка **Палонка**, дзе адбылася забытая часам бітва.
* **Казімір, Сапега, Чарнецкі, Палубінскі, Вайіловіч, Кміціч, Хаванскі:** чытай тлумачэньні ў **Камэнтарыях** на стар.132 да слова “**Палонка**”.

# ЮЗАМ У САЮЗЕ

(Паэма)

**5** ліпеня 2010 у Астане Беларусьсю быў падпісаны Мытны Саюз з Расеяй і Казахстанам. Віталь **Сіліцкі**, доктар палітычных навук, лічыць: гэта –*“удушэньне беларускай эканомікі расейскім бокам...А як жа мытны хаўрус Беларусі і Расеі, які існуе ад 1995 году? Яго хтосьці дэнансаваў? Хоць нейкую працэдуру разводу прайшлі?”.* Павал **Севярынец,** сустаршыня Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі, лічыць яго*“як найвялікшы геапалітычны правал апошніх гадоў. Эканамічная выгада ад такой “інтэграцыі”, ды яшчэ і ўнутрана супярэчлівая на фоне пастаянных “гандлёвых войнаў”, можа стаць для Беларусі катастрафічнай. Саюз з адсталымі ў эканамічным сэнсе і недэмакратычнымі рэжымамі –загадзя пройгрышны. Уступленьне ў Сусьветную гандлёвую арганізацыю “ўтраіх” – бязглуздзіца”.* (Чытай нататку “*Мытная пастка*” ў“Нашай Ніве” ад 7 ліпеня 2010).

*“**Вы – беларусы? Хто такія?...***
*Вы разлучылі дух з крывёю*
*І, абрусеўшы пад Масквою,*
*Пад назвай, дадзенай Масквой,*
*Не сталі нават маскалямі,*
*А толькі назваю адной –*
*І тая назва стала вамі...*
***Радзіма сталася таварам!***
***Як на такой Радзіме жыць?”***
(З паэмы **Ул. Някляева** “Паланез”, 2000)

Змова*, як Саюз Русі
З “брацкай” Беларусьсю,
Пратрубіла вушы ўсім:
“*Во жыцьцё ў хаўрусе*
*Будзе ў «аднаверцаў»!*”…
Праўды ж сьвет – у сэрцы.

І… паехала-пайшла
Змове, так бы мовіць –
Пагадненьню, пахвала:
“*Толькі не зласловіць!*
*Раз Саюзу згода –*
*Сваркі прэч нягода!*”

* * *

Год прайшоў і пяць прайшло:
Зь віду – падужэлі.
Засьвяцілася табло –
Дзэркала мадэлі*:
Як-ніяк да чаркі
Быў… кусочак скваркі.

Вось прайшло і дзесяць год –
Люд увераваўся:
Гранта ж сьлед*,
сышоў што ў фонд, –
Цінай пакрываўся.
Тут яшчэ й інвестар
Не прайшоў на тэсцер.

Нават неяк у вярхах
Меркавалі сьмела:
Як уладзе даць размах,
Каб здабытак мела…
Пошук жа навацый –
Не сарваў авацый.

Быў ліхі расклад падзей –
Сей-той і… "*зарохкаў*":
Ды не схоч быў ад людзей
Ідал чуць папрокі.
І… таму парады
Не найшлі спагады.

Ураджай з палёў штогод
Сабіраем мірам.
І… вядзецца карагод
Веруючых шчыра
Навакол "*карыта*",
Дзе ўсё – шыта-крыта.

* * *

Нейкі час змоў валадар
Казырыўся з шыкам.
Скора ж газу гаспадар
Пыху брата тыкам
Даў пад дых са злосьці,
Аж трашчалі косьці...

Сварка, што перарасла
У "паток малочны",
Новы погляд праліла
На кірунак змрочны:
З чаркі – посьле сваркі –
Сталі піць… без скваркі.

Тут яшчэ й "*хаўрус утрох*"
Налажыў пячатку –
Справіў баль "вялікарос":
Брат па змове – ў статку
З тымі, хто не ў модзе, –
Юзам едзе… ў згодзе.

Тайных змоў твар сатаны
Выгляд меў суровы…
Мытны кодэкс Астаны
Стаў – не выпадковы:
Раз заводзіш статак,
Мусіш мець і ўпадак.

Праўду ж аб датацыі,
Што хавалі ў спратах,
Здаў час… без натацыі:
Вось даверу плата –
Плата за няздольнасьць
Забясьпечыць годнасьць.

Раду радзіў* тут гулец,

Прыадкрыўшы маску:
Дык гульне прыйшоў канец,
Раз зайшлі у пастку?..
Морак, мой народзе,
Творыцца ў нягодзе...

* * *

Дзьвесьці год таму было:
Сойм зьнямеў* ад страху –
Д'ябал скіраваў жазло –
Край свабоду страціў.
З той пары бы свіньня
Мы ядзім бацьвіньне.

Паўтарыўся сцэны акт,
Як з кален ь усталі
Ў час, калі прадпісваў акт*
Маразматык Сталін:
Край нагараваўся ж,
Як Саюзам стаўся.

Колькі ж негадзі было?
Колькі ж сьвістапляскі?
Хоць яно ў нябыт сышло,
Дый не збылі пасткі:
Дзе жыцьцё не годзіць,
Там – галота ходзіць.

Вось і сёньня зьляб знайшоў
Грошыкі*… ў спажытак:
Колькі ж будзем ладзіць шоў –
Часу пежажытак?…

* * *

Каб не стацца ў бозе,
Брацца трэ – за розум.

**11-12 ліпеня 2010**

# ЖРЫЦА* ГІСТОРЫІ

Санет прысьвячаецца слыннай пісьменьніцы Вользе Міхайлаўне **Іпатавай***, якой 1 студзеня 2010г. споўнілася 65 гадоў зь дня нараджэньня. Яе творы на гістарычную тэму – адкрыцьцё нашай мінуўшчыны, якая доўгія часы ўтойвалася ад народа.

*"Калі ты гуляеш у хованкі са сьмерцю і няслаўем, мусіш чуйна сачыць за здрадніцкім бляскам нібыта прыхільных да цябе вачэй".*

**Вольга Іпатава**

*"Вы – беларусы? Хто такія?*
*Ёсьць Польшча, Жмудзь, Літва, Расея –*
*Як вы ўшчаміліся сярод?*
*Адкуль з'явіліся? З балот?*
*З чаго зьляпіліся? З туману?...*
*Такіх падмен,*
*Такіх падманаў*
*Не ведаў ні адзін народ".*

(З паэмы **Ул-ра Някляева** "*Паланэз*", 2000)

Мой родны край! Тваіх падзей сувой
Заўжды трымаўся ў спратах афіцыйна:
Стан кан'юнктуры – на адзін навой –
Да ісьціны адносіўся пасіўна…

Над Мірскім замкам почырк свой
Раскрыла бляскам сваргі[1] Мнемасіна*:
Тут Клія-муза* дзейнасьцю жывой
Распачала занятак прафесійна.

На крэўнай ніве поступам Асвінаў*
Паданьня парасткі ўзышлі лавінай
З глыбокай старыны у сьвет тутэйшы.

І… сэрца жрыцы ў стылі Немесіды*
Дух змагара*, ля выспачкі сустрэўшы,
У вечнасьць вывела зь цямніц Аіда*.

20 ліпеня 2010.

---

**1. Сварга** *(санскрыт)* – неба, ад якога паходзіць імя Сварог. Паводле міфалогіі – неба супакойвае зямлю пры дапамозе магічных сіл прыроды (маланкай).

# ВОЛЬНАСЬЦЬ

Паэма прысьвячаецца паэтэсе і празаіку Ларысе **Геніюш** (9.08.1910-7.04.1983)– патрыётцы Айчыны, дзеячцы даваеннай эміграцыі, Генеральнаму сакратару Рады БНР у Празе ў 1943-48, вязьню сталінскіх лягераў, маральнаму лідару незалежнай беларускай грамады, якой **9 жніўня** сьвядомая грамацкасьць адзначыла **100-годзьдзе** зь дня яе нараджэньня. Да нашых дзён яе імя асталася нерэабілітаваным. *“Ад родных ніў”* і *“Споведзь”* – першы і апошні зборнікі яе твораў.

*“Воля – не тое, што рукі развяжуць,*
*Зьменяць на большую клетку малую.*
*Воля – не тое, што «вольны ты» скажуць.*
*Воля – то воля, якую адчую.”*
(З твора **Ларысы Геніюш**)

*“Пасьля нягод, чужыны, ператрусак,*
*Пасьля таго, пра што маўчаць гады,*
*Вы здолелі між іншых беларусак*
*Застацца Беларускай назаўжды”.*
**Сяржук Сокалаў-Воюш**

## Пралог

Бляск зорак востры рэе над прасторай,
Дзе некалі крыніцай біў настрой:
Ваяр народу моцнай быў апорай,
Каб род не зьвёўся змрочнаю парой.

Адна з такіх нязгасных зорак існа
Над гарызонтам вольніцай ўзышла.
Яна цярністым шляхам непахісна
*“Ад родных ніў”* да *“Споведзі”* дайшла.

Была не да спадобы вольнасьць волі
Для сатаны, што ў цемру край прывёў.
І ў скрутны час ён зло сваё спатоліў –
На вольнасьць справу *“ворага”* завёў…

Ды не скарыўся д’яблу дух сталелы –
Жывуча вольнасьць зоркі сапраўды:
Яна штандарам бел-чырвона-белым
Лунае… над прастораю… заўжды!

## 1. На сьвітаньні

На край Арэс[1] праклён кідаў –
Зямля гарбацілася часам:
Ужо каторы год бяда*
З вайной пазналася сам-насам.

У скрушнай повязі падзей
Не раз падводзіла фартуна:
О, колькі гінула людзей,
Калі не ў стылі быў кірунак!

Непрыхаваны боль тачыў
Душу́ заўчаснай часу стратай
На чыннасьць, каб уберагчы
Культуру дзедаўскіх абрадаў.

У гэты ліхадзейскі час
Дзяўчыне з Жлобаўцаў прад Дзевай
На роднай мове стаў вяшчаць
Прарок жыцьцё **жывою верай[2].**

На месы сэрца працяла
Жывоя мова чараваньнем.
І... непрыкметна прыняла
Яе дзяўчына ва ўжываньне.

З пары юнацкай назаўжды
Адметнасьць мовы прыкіпела –
Яе узьнёсласьць й праз гады
Сьвятлом выразным прамянела.

x x x

Хац і правіцель лютаваў,
Хоць *“вокал рыскалі гіены”,*
Ўсё ж не змог ён здратаваць
Сьвятое мовы *“жар праменны”*.

---

**1. Арэс –** згодна грэчаскай міфалогіі – божаства вайны.
**2. Жывая вера –** тэістычная аснова каталіцкага веравызнаньня.

## 2.Час спрыяньня

Ахоўнік[1] спадчыны – прарок –
Аднак змог згуртаваць плеяду
За адраджэньне змагароў*
І… даў ім слушную параду:

Стыль роднай мовы *“не губляць,*
*Не ўмёрлі каб!”*. Наказ высокі
Біў у набат: трэ аднаўляць
Дух родных ніў… без афарбоўкі!

Нарэшце час свой плён зрабіў…
І, хоць лінгвістаў бракавала,
Душу барца ўсё ж разбудзіў:
Няволі сэрца – не трывала.

На небасхіле моўных спраў
Зардзеўся лінгвістычны ранак*:
Настала дзіўная пара –
Спрыяльны дзейнічаў напрамак.

Дзяўчына ж – час так спарадзіў –
Набытак ведаў* спасьцігала
На мове польскай. Як на зьдзіў,
Няволя вольнасьць гартавала.

Яна ішла пад зыбкі цень
Вярбы задумлівай над Росьсю,
Лавіла Коласаў прамень,
Ішоў што ад Зямлі* у прастрань.

x x x

Хоць крыўдна зьдзек было знасіць,
Хоць *“вокал рыскалі гіены”,*
Не змог злы дух ўсё ж пагасіць
Адметнай мовы *“жар праменны”*.

---

**1. Ахоўнік –** Такім для нашай нацыі з’яўляецца паэт-дэмакрат Фр. Багушэвіч, які нам наказваў: *“Не губляйце ж мовы беларускай нашай, каб не ўмёрлі!”*

## 3. На раздарожжы

Але не доўгім быў парыў
Барцоў за адраджэньне мовы:
Анёл тырана вольнасьць крыў –
Няволі дыктаваў умовы.

І скора знавец – як “нацдэм” –
Асвойваў далягляд ГУЛАГа.
Праз нейкі час сьлядоў тандэм
Зьнікаў, як цень ад бедалага*.

У гэты неспакойны час
Дзяўчыны сэрца суцяшала
Каханьне зь Янкам[1]…
/Кожны з нас
Спазнаў кранальнасьці пачатак/:

Як па брыльянтах колкіх рос
Ішла дзяўчына на сьвітаньні
І ліст вярбы над рэчкай Рось
Махаў усьлед ёй:*“Да спатканьня!”*

Тут хутка Гіменея сьвет
Іх абвянчаў вясельнай песьняй…
З пары той ду́шы у Сусьвет
Нясьліся аж да паднябесься…

У ласцы ж з Янкам час ішоў –
Юрась-анёл дзяліў іх радасьць.
Ды… неўзабаве надышоў
Час арыштаў, шпіёнства, здрады.

x x x

Хоць ціск на мову не сьціхаў,
Хоць *“вокал рыскалі гіены”,*
Ды ў сэрцы жыў – не патухаў –
Агню сьвятога *“жар праменны”*.

---

**1. Янка** Генiюш – муж паэтэсы, які вучыўся на лекара, а **Юрась** – іх сын.

## 4. Эміграцыя

Няўцешны быў у “крэсах” сум –
Бяда хадзіла за бядою:
Не супыняўся ціск і глум
Над змагаром ліхой пароюю.

У кругавіне скрушных з’яў
Пасьпела сьмелае рашэньне:
Далей ад колішніх праяў
Прыдаць задаткам узвышэньне.

Крылом арлiным ўвысь узьняў
Анёлак вольнасьць паэтэсы
І… ўжо у Празе узгадняў
Яе задаткаў інтарэсы[1].

Тут беларускасьць бараніў
Захарка[2] кіраваньнем Рады.
Тут эміграцкіх спраў архіў
Быў ёю зьведзены ў парадак.

Тут шліфаваўся мовы стыль
І вершаў клалася аснова,
Каб сон launched пeратварыўся ў быль,
Каб шчыра загучала слова.

І твораў збор *”Ад родных ніў”*
Спазнаў тут чорны гнеў гестапа:
Ужыць,– каб не упасьці ніц,–
Прыйшлося міты эскулапа*.

x x x

Як ні стараўся згубны зброд
Паставіць постаць *“на калені”*,
Усё ж гестапа не загроб
Жывое мовы *“жар праменны”*.

---

**1. Інтарэс:** паэтэса працавала Генеральным сакратаром Рады БНР у эміграцыі.
**2. Захарка** Васіль (1877-1943) – Прэзідэнт эміграцкай Рады БНР у 1928-43г.

## 5. На этапе

Калі ж закончыўся “сыр-бор”*
І Прага прасавецкай стала,
Сям’я ж, пачуўшы прыгавор[1]
Несправядлівы, зьдзек трымала.

І вось Інта… Канвой зьвяр’ём
Ахвяраў гнаў даволі строга:
Ў расход – правераны прыём –
Таго, каго зьвіла зьнямога.

Прад уваходам у астрог
Чытаўся спіс. Адказ – няўхільны:
*– Стацьця? Абавязковы срок?*
*Сачыць за вамі будзем пільна!…*

Так пачынаўся змрочны час
Жыцьця *“загнанага народа”*:
Нявечыў сталінскі абцас
Нявінных за калючым дротам.

Тут адпрацоўваць працадні
Павінен кожны – без адбору.
Хто не пасыпеў – адлічваў дні
Сваёй пагібелі… ўжо скорай.

Мільёнаў горкіх лёсаў сьлед
Так і застаўся невядомым:
Маўчыць іх пахавальны сьвет,
Маўчаць й стваральнікі “садома”.

x x x

Як ні стараўся д’ябла чын
Паставіць постаць *“на калені”,*
Усё ж не змог ён затушыць
Агню жывога *“жар праменны”*.

---

**1. Прыгавор:** Генюшы былі арыштаваны 5.3.1948 у Празе як грамадзяне Чэхаславакіі, а ў Менску ў 1949 былі асуджаны на 25 гадоў без грамадзянства.

## 6. На “волі”

Прыйшоў спагады час. Аднак...
Народ так і не ўстаў з каленяў.
Хоць воля духу – добры знак –
Спазнала долю ў пакаленьнях.

Й на самай справе – лёсу зьдзек –
Спагады[1] вольніца – не счула:
На волі ж – права час адсек –
Яна свабоды – не адчула.

У гэты ж, болем сьцяты век,
У пространь песьня-кпінак льецца:
*“Краіны больш няма на сьвеце,*
*Дзе б вольна дыхаў чалавек”...*

Ды волю ўзяўшы у кулак,
Нявінная не пала духам:
Устроіўшы свой быт сяк-так,
Яна сьвядома йшла да зрухаў.

У рупны ж час яна знайшла
Жывое мовы чараваньне
І сьвет наўсьцяж зь ёй абышла,
Узяўшы стыль ва ужываньне.

З пары той вольнасьці душа
Лунае зоркай над прасторай:
Пакут крыж зьведаўшы сьпярша,
Зямны шлях *“Споведзьдзю”*
ў сьвет торыць...

x x x

Як ні стараўся супастат
Паставіць постаць *“на калені”,*
Усё ж не змог ён разьмятаць
Душы іскрыстай *“жар праменны”*.

---

**1. Спагада:** Хаця Л.Геніюш і была вызвалена, але засталася нерэабілітаванай.

## 7. За што?

Калі ж лёс горкі прагартаць,
Дзівіцца ўсё ж не перастанем.
І ў Бога хочацца спытаць:
"Калі ж народ з калень устане?"

За што ж нам Божа нагадаў
Цярпець ад д'ябла зьдзек і кпіны?
Напэўна Юда нам надаў
Свайго аблічча твар лісіны.

Каторы год "братэрства" сьверб
Пых казытае ў шайках зброда:
Сабе няволю й строіць сьмерд
*"Яднаньнем брацкіх двух народаў"*.

Як бачым: можна з правам *"жыць –*
*Не паміраць"*... у нашым веку.
Але ж расьціць дух на ілжы!?..
Так дзеяць? – Сорам чалавеку!

І ўжо рух ***"Праўду гавары!"***
Па краю разгарнуў Някляеў:
Яму і выпаў кон раскрыць
Бязглуздзіцу жыцьця наяве.

Эпі**лог**

Хоць лёс ішоў паэткі праз крыжы
Ад тупіка да засьцярог прычынна,
Але ж заўсёды дух яе служыў
Айчыне сінявокай дабрачынна.

Дык хай жыве сказ-крэда назаўжды:
*"Як жыць – дык жыць для Беларусі!*
*А безь яе – зусім ня (*трэба*) жыць!"*

Я вольнасьцю паэткі – ганаруся.

19-29 жніўня 2010

# АБРАД ПА-РУСКУ

З новага навучальнага года ў школах Беларусі ад 1-га па 11-ты класы ўводзіцца праграма *“Асновы праваслаўнай культуры”*(“Н.В.”за 27.7.2010) Такім вось чынам самажэрна выконваецца загад Кацярыны ІІ, якая яшчэ ў 1795г. ўсклала місію зьнішчэньня нацыі *“на рускага чыноўніка, рускага настаўніка, рускага папа. Менавіта яны адымуць у беларусаў не толькі іх мову, але і саму памяць пра саміх сябе”*.

Гадоў за дзьвесьці шчэ таму назад
Жыў уніят *“жывою верай”:*
Спагадай душу саграваў расклад
Падзей ў прышласьць міласэрна.

Але з усходу ветрам перамен*
З’явіўся воблік супастата:
Ён дух *“сардэчнай веры”* ўзамен
Насільна ўвёў у дýшу “брата”.

З пары той мову родную ўжываць
Забаранялася нат жорстка…
Такім вось чынам злыдзень і царква
Зьнішчалі этнас вельмі порстка.

Народ дажыўся нават да таго,
Што страціў нацыі аблічча:
Яго не будзіць лозунг *“Хто каго”,*
Куды абрад па-рускі кліча?

І сёньня гонар нацыі здала
Улада справай памяркоўнай:
*“Самарусіфікацыя”* ўзьвяла*
Чужую мову ў ранг шыкоўнай.

І вось яшчэ адзін няволі зьдзек:
У школе ўводзяць праваслаўе…
Такога *“самажэрства”* чалавек
Не знаў з пары народаўладзьдзя.

2 верасьня 2010

## АХ, ЖАНЧЫНА ЯКАЯ!

Верш прысьвячаецца Валянціне **Тупічынай,** зь якою мне лёс наканаваў сустрэцца. Я песьню пяю для жанчыны сваёй. Хай творцы душа саграваецца ёй!

Хто можа раўняцца з жанчынай маёй –
Царыцаю густаў зьмястоўных? Аб ёй
Складаць варта песьні! Ды кон ёй такі:
Зіхцець сярод роўных агнём трапяткім.

Ва ўсіх пачынаньнях зь ёй дружыць матыў:
У справах, ва ўчынках – адзін пазітыў.
За што б ні ўзялася – стараннасьць відна:
Дызайн змайстраваць – асалода адна!

Яна змадэліруе плацьце на зьдзіў,
Як быццам яго чарадзей спарадзіў.
І ў клубе аматараў флоры яна
Дзяліцца майстэрствам гатова спаўна.

А як упрыгожаны кветкай балкон! –
Па праву займеў ён павагі люцкой.
На конкурсах розных – заўсёды ў прызах:
Няма яму роўных – ёсьць што паказаць!

Калі ж у час вольны зьбяруцца сябры,
То песьні пральюцца да позьняй пары.
Яна, як прызнаны гурмой – тамада:
Гатова ўсім палкасьць душы перадаць.

Сьвятло так і льецца з іскрыстых вачэй:
Сяброўства абдымкі – усё гарачэй.
Ва ўсіх праяўленьнях дух творчы пяе
І самых высокіх вяршынь дастае.

Яна гонар свой у касу пакладзе,
А сум у палонцы адвагай зьвядзе,
Увагай надзеліць на Поле дзівос:
Ва ўсім – дух стварэньня і спогадзі лёс.

18 верасьня 2010

# ГУК СТРЭЛА

Паэма* прысьвячаецца Праведнікам Сьвету ў сувязі з прысваеньнем гэтага званьня Інстытутам "Яд Вашэм" Эме Сцяпура і яе дачкам Ядзе і Алене за выратаваньне яўрэйскага хлапчука Віктара Стэльмаха пад прозьвішчам Колі Пятроўскага ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

*"О, колькі гора, колькі мукі*
*Нясеш паганае жыцьцё!"*
**Янка Купала**

Быў люты час, як зь весту йшла
Багровым заравам навала:
На край лёс незваротна слаў
Чуму карычневую валам.

План* генеральны "Ост" вяшчаў:
*"Зьнішчаць люд неарыйскай расы,*
*Каб толькі гарызонт вянчаў*
*Нацысцкі крыж заўжды бясстрасна".*

І вось ужо ліецца кроў
Славян, але найбольш – габрэяў:
Зганяўся ў гета крэўны род,
Дзе кожнага пужаў гук стрэла.

У пекла жудасных сьмярцей
Сямейства Стэльмаха й загналі
І зь імі – божых шэсьць дзяцей:
Спаўна яны бяды спазналі…

x x x

Ля вёскі Канюхі барак –
Быў да вайны ваенны лягер –
Зьмяшчаў за сотню небарак:
Чакаў у лесе гэных плягер.

Душа скуголіла ўвесь час,
Як толькі дух адчуў бядоту:
Было трэ сьпешна вырашаць,
Як вырывацца зь пераплёту...

І вось ужо настаў час той –
Яму спрыяў уцёку момант:
Як толькі прагучэла “Стой!”,
Стаў разьлягацца зычна гоман…

Таму, хто бег наўпрост у лес,
Надзея ў паратунак грэла:
Стральба з ружжа наперавес –
Над кім-та ж зжаліцца гук стрэла.

x x x

Нямала лёсаў стрэл скасіў.
І нават тых, хто ўратаваўся,
Спасьцігла доля – боль знасіць:
Пазьбегнуць бед – сіл не ставала.

Ізноў паслаў у гета лёс
Палоннікаў ліхім загадам.
І ў гэты раз іх спіс занёс
У строй антысеміцкі ўклада.

Ізноў у лес іх вёў канвой.
Ізноў люд пляжылі навалам.
Ізноў уцёкі… Стрэлы.. Збой –
То рана бацьку рух скавала.

Ды ўсьпеў сказаць: – *Сынок, бяжы!*
*Хай лёс твой будзе не ў прыцэле!*
*І людзям праўду раскажы,*
*Як душу трэсьлі гукі стрэла.*

x x x

Блудзіў нямала дзён юнак –
Баяўся напаткаць патрульных.
І ўсё ж анёл яго сяк-так
Яму знайшоў куток утульны…

У аддаленьні ад дарог
Стаяла хатка лесу побач.

Мароз… Стук у акно… Парог…
Зьлятала з вуснаў крыўды роспач:

*“Дазвольце толькі значаваць*, –
Юнак прасіўся у жанчыны, –
*Сямья згарэла зажыва…
Ў агні з зьнявечваньня прычыны…”*

Адкрыўся толькі ёй пасьля,
Калі яго душой сагрэла:
Што ён – габрэй і як зямля
Дрыжэла ў вострых гуках стрэла.

x x x

У скрытным вобразе жыцьця
Дух выхаваў душой збалелай
Сакрэт – штогод без выкрыцьця
Трымалі Ядзя і Алена.

За годы нематы юнак
Закончыў школу, стаў ваенным.
Але асьвечваў час аднак
Не тых, хто рыхтаваў збаўленьне.

І толькі ў пору праз гады –
Трымаць сакрэт было няможна –
Адкрылі спраты праз суды,
Што нажылі парой трывожнай.

І падняліся з забыцця
Учынкі – доля іх сустрэла –
Каб сцэнам з нашага жыцця
Не спадарожнічаў гук стрэла.

x x x

Пачэсна роля ў ***“Яд Вашэм”***–
Не згасла зорка над планетай,
Што робіць справу, каб яшчэ
Больш стала Праведнікаў Сьвету.

**11-12 лістапада 2010**

# КРЫНІЦЫ

Верш прысьвячаецца слыннаму гісторыку, празаіку і публіцысту Алесю Лявонцьевічу **Петрашкевічу** з нагоды яго 80-годзьдзя (н.1.05.1930). Яго апошняя кніга ***“Крыніцы і каламуць”***– апафеоз дзейнасьці творцы як апостала духоўнай культуры народа. (Чытай нататкі А.Цыркунова і Б.Сьвятлова ў газ.“Наша Слова” ад 22 сьнежня 2010).

*“Бязь веданьня праўдзівай гісторыі*
*грамацтва сьлепне”.* **Зянон Пазьняк**

*“І толькі на сьвеце нятленныя кнігі*
*Як вечныя сьведкі пакутнай зямлі,*
*Расказваюць горкую праўду сурова...”*
**Сяргей Грахоўскі**

У кожнай ісьціны – свой твар:
Праўдзівасьць б’е жывой крыніцай.
Бо толькі той дасьціпны жанр,
Які не скрыты таямніцай.

Нам дзьвесьці год імперскі клёк
*“Русізмам*” душы каламуціў:
Хто роду зрокся незнарок,
А хто і мове здрадзіць мусіў.

Аднак прыйшоў у родны сьвет
Апостал Кліі – майстар слова:
Над краем зладзіўся прасьвет –
Люд абуджаецца нанова.

Адметнай нормаю жыцьця
Маэстра – захапленьне творам:
Заўжды імкнуцца набыцьця
Праўдзівай фабулы з фальклора –

У спраты сэрцам заглянуць
І сказ павесьці ў сьвет натхнёна...
Вось так *“Крыніцы й каламуць”*
Апафеозным сталі плёнам.

**24 сьнежня 2010**

## ДЫК АДКУЛЬ ЖА ІДЗЕ НАША ПАХОДЖАНЬНЕ?

Або: **Ці трэба фетышызаваць рускі шавінізм?**

Апублікаваны ў "Народнай Волі" ад 28 лістапада 2008 года артыкул Анатоля Тараса *"Должны ли мы русским шовинистам руки целовать?"* зьвяртае ўвагу на закранутую яшчэ ў 2006г. сапраўдным спадкаемцам патрыятычнай справы па адраджэньню нашай нацыі і яе гістарычнай спадчыны Эдуардам Тобіным тэму пра нашыя этнічныя карані ў артыкуле *"Дык адкуль жа наш род і як нас зваць?"* ("Народная Воля" ад 24.11.06), якую прадоўжыў Радзім Растоў у артыкуле *"Гібель Літвы?"* ("Н.В" ад 6-7.11.08). Яна варта павагі.

У час павышанай увагі да абставін, якія склаліся ў сучасны момант на Каўказе, празмерна вырас захопніцкі дух рускага (дакладней: угра-фіна-цюрска-ардынскага) нацыянал-патрыятызма. Дастаткова толькі паслухаць на НТВ ток-шоу "*К барьеру!*", каб упэўніцца: наколькі ёміста насычаны рускім (*"рустикус"* у перакладзе з лаціны – грубы, нахабны) духам яе "артысты". Нарэшце так трэба разумець і пушкінскае: *"Тут русский дух! Тут Русью пахнет!"* Што меў на ўвазе паэт? Яму было лепей знаць. Але і тут яўна папахвае ваяўнічым шавінізмам.

Я поўнасьцю згодзен з аўтарам кнігі *"История имперских отношений"* з тым, што нашыя народы (рускія, беларусы, украінцы) не маглі мець родных каранёў. Яны – розныя як па этнасу, так і па мове. Іх вякамі нахабна асімілявалі, наўмысна збліжалі і на знарок прыдуманай ідэалогіі *"западнорусизма*"– ідэалогіі франтальнай русіфікацыі – прымусова з дапамогаю царквы навязвалі адзіную праваслаўную рускую веру. На гэтым падмурку і будавалася палітыка захвата суседніх зямель, закабаленьня яе народаў і стварэньня магутнай імперыі з назвай Расея, а затым і СССР, дзе панавала адзіная руская (заўважым: штучная) мова. Гэтая ідэалогія рускага шавінізму, адчуваючы прыбліжэньне сваёй гібелі, робіць ваяўнічыя заявы і намаганьні, асабліва ў ваеннай

дактрыне: запалохвае народы міфічнай пагрозай з боку США і НАТА, прабуджаючы ў яго нацыянал-патрыятычныя пачуцьці, каб такім чынам прыцягнуць іх на свой бок. І гэта ёй пакуль што ўдаецца. Вось прыклад.

Неяк мне давялося размаўляць з маладым хлопцам, які служыў у арміі сяржантам. На запытаньне: “Ці верыш ты ў пагрозу з боку НАТА?” ён даў станоўчы адказ. А на пытаньне: “Ці пойдзеш ты змагацца за Расею?” ён таксама адказаў станоўча. Калі ж я яго спытаў: “А чаму ў пачатку 90-х, калі наш вялікі Савецкі Саюз разваліўся і арміі амаль не было – рэзалі і прадавалі зброю – нам тады ніхто не пагражаў: ні США, ні НАТА? Нават прэзідэнт США Біл Клінтан з намі Дагавор аб раззбраеньні падпісаў. А сёньня што? Планы НАТА зьмяніліся? Што на гэта скажаш?” І ў адказ – маўчаньне. З гэтай гутаркі можна зрабіць вывад, што наш народ замбіраваны ідэалогіяй рускага вялікадзяржаўнага шавінізму, што **моц імперыі і сама сутнасьць шавінізму трымаецца на абмане.**

Я таксама згодзен з аўтарам кнігі, што рускія – гэта продкі угра-фінаў і цюркаў, што ўкраінцы – гэта патомкі сарматаў. Але я не згодзен з тым, што *“беларусы – гэта балты, якія зьмяшаліся са славянамі, мігрырываўшымі сюды пад ударамі германскіх плямён зь берагоў Эльбы (Лабы) – так званыя балцкія славяне”.* Тут я маю сваю рацыю, абгрунтаваную спасылкамі на вядомыя нам аўтарытэты.

У якасьці аргументацыі адсылаю чытача да зарубежных крыніц, якія не могуць быць падвергнуты цэнзуры той краіны, аб якой вядзецца гаворка, бо сам аўтар не баяўся паўтарыць лёс Дж. Бруна, які не згадзіўся з патрабаваньнямі інквізіцыі, за што тая адправіла яго на касьцёр. Такім чынам, даследаваньні навукоўцаў, якія грунтуюць свае вывады не каньюнктурна, не вінны быць фальсіфікаваны. І сапраўды.

Калі глянуць на мапу старажытнагрэчаскага вучонага-энцыклапедыста Кл. Пталамея пад №1 у кнізе Я. Шыраева

“*Русь Белая, Русь Чорная і Літва ў картах”,* то можна заўважыць, што землі ад вострава Готланд на **Вянедзіка** сена (так называлася да н.э. сучаснае Балтыйскае мора, а згодна мапы №2-6 – “*Рымская імперыя ў граніцах канца 2-га ст.н.э*” – Сьвеўскім морам) да ўпадзеньня ракі Дзясна ў Барысфен (сучасная назва: Днепр) насяляла племя **вянедаў.** Таму і назва мора паходзіла ад назвы гэтага племені. На гэтай жа мапе №2-6 мы бачым, што **балты** насялялі землі ў вярхоўі Волгі і басейнах рэк возера Ільмень, але мора ў гэтыя часы ўжо называлася Сьвеўскім. Так яно мусіць было называцца па імені нямецкага племені **сьвеваў,** якія пражывалі на берагах Лабы і якія затым, пэўна, пацясьнілі вянедаў, а часткова іх асімілявалі. Так што: наша паходжаньне – ад **вянедаў**, а не ад якіх там балтаў ці сьеваў. І сапраўды: славянская назва нашага народа паходзіць ад назвы яго крэўніка (па Тобіну): **славяне** = прыстаўка **сла** – (пераклад з лаціны азначае “выхад”) + корань **вяне** – ад слова **вяне**ды. Г.зн.: **славяне** – **выхадцы зь вянедаў.**

Калі ж азнаёміцца зь кнігай В.П.Буданавай “*Готы в эпоху Великого переселения народов”,* (М.1990), то і зусім становіцца зразумелым, якія народы – выхадцы з другіх. Менавіта з гэтых крыніц можна спазнаць, што: пачынаючы з канца 4-га ст. гуны (угра-фінскія і цюрскія плямёны, ад якіх і пачынаецца радаслоўнае дрэва маскалёў, стаўшымі на доўгія вякі іх васаламі), якія вялі качэўніцкі вобраз жыцця, і ў пошуках новых зямель сталі цясніць *аланаў, сарматаў* і тых жа *балтаў* і *вянедаў* на захад. У выніку гэтых міграцый **сьвевы** падаліся на Пірэнеі, а **унгуры** – на берагі ракі Істр (сучасная назва.– Дунай), дзе заснавалі дзяржаву Унгурыю (Венгрыю), а **балты** – на пабярэжжа Сьвеўскага мора (яно ж – Вянедзіка сена), якому ўжо балты далі назву Балтыйскае мора, і, як бачым, асімілявалі тутэйшы народ – вянедаў. Такім чынам: асіміляцыя ***вянедаў*** адбывалася як з захаду – з боку ***сьвеваў,*** так і з усходу – з боку ***балтаў.*** І яшчэ прыклад.

У некаторых выданьнях можна прачытаць, як на нашыя землі 1500 гадоў назад прыйшлі славяне з Балкан, якія і асімілявалі балтаў. На самай жа справе, як мы бачым з вышэй сказанага, ўсё адбывалася наадварот. Вянеды пад націскам гунаў, што ішлі з-пад Урала ў 4-5ст. сталіісьці на захад і захопліваць чужыя землі, утвараючы на іх новыя пасяленьні ад Чорнага і Эгейскага мораў да Адрыятыкі і ад вярхоўяў Віслы і Дняпра да Пелапанеса на Балканах. З тых часоў мабыць і паявілася Вянецыя на Апенінах у Італіі. Тут ўжо не адкажаш у сапраўднасьці паходжаньня яе назвы ад назвы вянедаў. Гэтыя перасяленьні суправаджаліся мнагалікімі бітвамі (найважнейшыя: у 378 – каля Адрыянопаля – сучаснага горада Эдырне на Балканах, у 410 – паў Рым, у 451– на Каталаунскіх палях у Галіі пад Парыжам і др.), якія і прывялі Рымскую імперыю да распаду і ўтварэньню Візантыі.

Менавіта Вялікаму перасяленьню народаў у 4-6 ст. мы і павінны з'яўленьню на карце вялікай колькасьці славянскіх плямён, у т.л. і нашых продкаў –"**ліцьвенаў**"– выхадцаў з племені ***вянедаў.*** Так даказвае Эд. Тобін і ў чым пераконвае праца Паула Урбана (гл. *"У сьвятле гістарычных фактаў",* Мюнхен – Нью-Ёрк, 1972). Мы, празваныя ў скутныя часы "*беларусцамі*", а ў часы царскай заганы з 1839 па 1918– "*тутэйшымі*", таму што мракабесы забаранялі нас называць ***ліцьвенамі***, так і засталіся з назвай мянушкі– ***беларусамі***. З гэтай нагоды мы і пазбавіліся імені як назвы свайго этнасу– этнасу **ліцьвенаў,** так і назвы сваёй Радзімы – **ЛІТВАНІІ**. Рэжым рускага шавінізму зрабіў сваю агідную справу. Чаго нельга сказаць адносна таго, як адносіўся рускі рэжым да народа, які пражывае побач з намі і некалі адносіўся да ВКЛ, і зь якімі мы (беларусы) складалі адну нацыю – нацыю ліцьвенаў, якая нясе у сабе сімвалы нашых продкаў.

Так, па дадзеных статыстыкі, у 1917г. у Цьвярской губерні пражывала 125 тыс. ліцьвенаў, якія безумоўна паходзілі ад цьвярскіх крывічоў. (Гл. В.Чаропка *"Імя ў летапісе",* Мінск,

1994, стар.238). Падобных зьвестак па нашай краіне мы не ведаем, таму што іх публікацыі несумненна процістаяць палітыцы асіміляцыі карэннага народу, якая стагодзьдзямі праводзіцца ў інтарэсах імперскай Расеі і якая сёньня поўна падтрымліваецца уладай РБ, узаконіўшы рускамоўе з мэтай пасьлядоўнага вынішчэньня роднай мовы са школьнай праграмы праз адурманеную рэжымам вертыкаль. Мы дайшлі да такога становішча, што ўжо ў паўсядзённым жыцьці не ўжываем родную мову. Гэта – сапраўднае дзікунства, якое творыць сучасная ўлада над памяцьцю народа: проста наўмысна зьнішчае гістарычную спадчыну. Як жа быць? Але ж прадоўжым нашыя разважаньні аб нашым паходжаньні.

З довадамі Э.Тобіна я згодзен поўна. Вось яго формула: **літвены**= **літ** (прыстаўка "літ" у перакладзе з лаціны азначае "бераг"+ **вен**ед**ы.** І, як тлумачаць зарубежныя крыніцы, наша дзяржава мела прамыя падставы называцца **Літваніяй** па імені яго народа. (Гл. мапу нашай краіны пад назвай **Lithuaniae**, складзеную нямецкім картографам Герардам Меркатарам /**1512-95**/ і зьмешчаную ў Атласе, выдадзеным Е. Хандыусам у Дуйсбургу ў 1595г. /Атлас знаходзіцца ў Пантэоне Анатоля Белага ў Старых Дарогах/, а таксама мапу картографа Гіёма дэ Баплана /1654/ пад назвай **Magnus Ducatus Lithuaniae**, дзе на ўсёй плошчы нашых зямель надрукавана слова **Lithuaniae,** г.зн. **ЛІТВАНІЯ**, а не **Lithuansis**, як таго патрабуе пераклад на лаціну назвы "Літоўскае", якім значыцца княства ў фальсіфікаванай нашай гістарыяграфіі). Нават нямецкі жывапісец А.Глотгер яшчэ ў канцы 19ст. прысьвяціў тэме змаганьня ліцьвенаў за сваю незалежнасьць шэраг карцін пад агульнай назвай цыкла "**Lityuaniae**".

Трэба ведаць сапраўдную гісторыю нашай многапакутнай Айчыны, лёс нашай культурнай спадчыны! І не фетышызаваць рускі шавінізм у любой пагодзе часу ў дачыненьні да гісторыі нашай краіны, памяць аб якой і спрабуе скрыць ад народа рускі імперскі дух і яго галоўны праваднік – Руская праваслаўная царква!

12 сьнежня 2008

## ЖАЛОБА

в Верховный Суд РБ на решение ЦИК от 17.02.2006 о регистрации г-на А. Лукашенко кандидатом в Президенты на выборах 2006 года.

(Жалоба публикуется в сокращённом варианте)

Решение ЦИК о регистрации г-на А.Лукашенко кандидатом в Президенты является незаконным, т.к. оно противоречит Конституции и на этом основании подлежит отмене.

Согласно требованиям ст.81 Конституции в ред. 1996г. Президент избирается на 5 лет и что *"Одно и то же лицо может быть Президентом не более двух сроков"*, что подтверждается и Законом "О Президенте РБ". Г-н А. Лукашенко уже отслужил два срока подряд и он не в праве баллотироваться на третий.

Правовым основанием для регистрации его кандидатом в Президенты явились изменения, незаконно внесенные в Конституцию в результате референдума 2004. Так, по его результатам из ст.81 Конституции изъято ограничение, по которому *"одно и то же лицо может быть Президентом не более двух сроков"*. При этом следует указать, что:

Республиканский референдум назначался Указом Президента №431 от 7.9.2004г. с грубым нарушением действующего законодательства. На референдум вносился вопрос: *"Разрешаете ли Вы первому Президенту Республики Беларусь Лукашенко А.Г. участвовать в качестве кандидата в Президенты Республики Беларусь в выборах Президента и принимаете ли часть первую статьи 81 Конституции Республики Беларусь в следующей редакции:* ***Президент избирается на пять лет непосредственно народом Республики Беларусь на основе всеобщего, свободного, равного и прямого избирательного права при тайном голосовании"?***

Формально предлагалось ответить *"да"* или *"нет"* на один вопрос. На самом же деле в формулировке содержалось два вопроса разных проблематик: один – относящийся к личной ситуации А.Лукашенко, другой – связанный с изменением Конституции. А это противоречит принципу ***"единства и***

***содержания”***, оговоренному в *“Руководящих принципах проведения национальных референдумов”,* принятых Венецианской комиссией в июле 2001г. Кроме того, здесь не говорилось о том, что будет изменено коренное положение действующей Конституции о сменяемости власти как принцип, препятствующий подрыву государственного строя, осуществляемого на основе разделения власти на законодательную, исполнительную и судебную (ст.6 Конституции), что такое изменение ведёт к *“установлению единоличной власти”,* к монархии. Суть данной проблемы избирателям не разъяснялась.

Между тем, в Законе РБ (ч.3 ст.112 ИК) укаазано, что *“на республиканский референдум не могут выноситься вопросы:...связанные с избранием и освобождением Президента РБ”* Поэтому вопрос участия А. Лукашенко в предстоящих выборах противоречит данной норме ИК и выносить его было нельзя. Более того, введение персональных привилегий для одного человека противоречит принципу ***“равенства”***, закрепленному в ст.22 Конституции: *“все равны перед законом и имеют право без всякой дискриминации на равную защиту прав и законных интересов”*.

Особо следует отметить, что ни Президент, ни другие органы и институты власти не освобождались от соблюдения требований ст.137 Конституции до вступления в силу предлагаемых изменений:*“Конституция обладает высшей юридической силой. Законы, декреты, указы и иные акты государственных органов издаются на основе и в соответствии с Конституцией РБ”.* Однако справедливое требование граждан о проведении судебной проверки конституционности Указа №431 было проигнорировано (отказ судьей Верховного Суда Жуковской Г.К. от 21.09.2004г.).

Чтобы продлить свои полномочия Президента на неограниченный срок, г-н А.Лукашенко грубо нарушил конституционные нормы. Статья 7.ч.2 Конституции гласит:*“государ-*

*ство, все его органы и должностные лица действуют в пределах Конституции и принятых в соответствии с ней актов законодательства”.* При этом он, присягая Конституции (ст.83), клятвенно обещал:*“верно служить РБ, уважать и охранять права и свободы человека и гражданина, соблюдать и защищать Конституцию РБ”.* В соответствии с ч.2 ст.3 Конституции действия по изменению конституционного строя наказываются и могут быть квалифицированы как захват власти неконституционным путём. А это – преступление.

Приведенные выше аргументы и выводы относительно проведения референдума 17 октября 2004г. в Беларуси подтверждаются заключением, принятым на 60-м пленарном заседании Европейской комиссии за демократию через право (Венецианская комиссия 7-9 октября 2004г.).

Сам же референдум проводился с грубыми нарушениями норм избирательного законодадельства, изложенных в Копенгагенском документе, поддержанном РБ. Результаты референдума не признаны демократической общественностью Беларуси и международными организацыями (Совет Европы, ПАСЕ, Европейский Союз, ОБСЕ и др.)

В соответствии с изложенным итоги референдума 2004 являются неправомерными, а основанное на них решение ЦИК о регистрации кандидатом в Президенты г-на А. Лукашенко – незаконным.

Согласно ст. 59 и в соответствии с ч.1 ст. 60 Конституции *“каждому гражданину гарантируется защита его прав и свобод компетентным, независимым и беспристрастным судом в определённые законом сроки”.*

На основании изложенного и руководствуясь ГПК, прошу:
1). возбудить по настоящей жалобе дело и решение ЦК РБ по выборам и проведению референдумов от 17. О2. 2006г. о регистрации кандидатом в Президенты РБ г-на А.Лукашенко отменть как неправомерное, ущемляющее права граждан.

2). В установленном порядке дать правовую оценку действиям г-на А. Лукашенко, связанным с нарушением Конституции и его должностных полномочий Президента РБ по предмету спора. Николай Шаровар

17 февраля 2006.

## ОПРЕДЕЛЕНИЕ
### об отказе в возбуждении дела

Рассмотрев 22.02.2006г. данную жалобу судья Верховного Суда РБ Филимонихина Л.Я. установила, что в возбуждении дела по настоящей жалобе следует отказать, исходя из следующего:

– что у заявителя нет прав на рассмотрение искового заявления ввиду его неподведомственности;

– что решения ЦИК могут быть обжалованы только в случаях, предусмотренных законодательством РБ;

– что может быть обжалован отказ ЦИК зарегистрировать лицо, выдвинутое кандидатом в Президенты РБ.

А поскольку обжалование постановлений ЦИК по выборам и проведению референдумов о регистрации лиц, выдвинутых кандидатом в Президенты РБ действующим законодательством не предусмотрено, то судья, руководствуясь п.1 ст.245 гпк РБ, определила:

– В возбуждении дела по насоящей жалобе – отказать.

– Определение опротестованию и обжалованию в кассационном порядке не подлежит.

### Коментарии по жалобе

Как явствует настоящее истолкование дела по жалобе можно сделать следующие выводы:

1) Предоставленные Конституцией 1996 народу права на самом деле не выполняются.

2) Вся исполнительная, законодательная и судебная власти сосредоточены в одних руках. Это значит – в стране совершён конституционный переворот. Парламент и Суд – фиговые листки, которыми прикрывается диктатура.

## НЕБЯСПЕКА НАЦЫІ –Ў СТРАЦЕ РОДНАЙ МОВЫ
## Пасланьне кіраўніку краіны Аляксандару Лукашэнку.

Апублікаваны ў “Народнай Волі” за 26.06.2009г. **Зварот** “**Інстытута нацыянальнай памяці**” ў абарону роднай мовы я поўнасьцю падтрымліваю і стаўлю пад ім сваю подпісь. Пры гэтым выказваю наступныя меркаваньні.

**Родная мова** – гэта **твар нацыі, душа народа.** А калі чалавек грэбуе роднай мовай, то ён (**па К.Паўстоўскаму**)– “дзікун”. Такі чалавек не мае права быць гаспадаром нацыі! Дзе, у якой краіне можна бачыць такую з’яву: на мерапрыемствах, прысьвечаных **Году роднай зямлі**, амаль скрозь і ўсюды размову вядуць на чужой мове!? Гэта ж – сапраўдны зьдзек над нацыяй! І хто ж ажыцьцяўляе гэты зьдзек?

Да якога часу ва ўладу будуць пранікаць “*адмарозкі*”, якія ня толькі ня могуць размаўляць на мове нацыі, але і не ведаюць яе гісторыі? Адзін зь іх паказаў свае веды на тэлеперадачы ”*Адзін супроць 50-ці*”. Ён прызнаўся, што дрэнна вучыўся ў школе, але Акадэмію пры прэзідэнце скончыў. І, як вынік,– праваліўся ўжо на 4-м пытаньні. Калі ж такія “*знаўцы*” будуць кіраваць дзяржавай, то куды мы зойдзем?

Да якога часу будзе негалосна сьвядома працягвацца дэбеларусізацыя жыцьця? Два стагодзьдзі родная мова была ў загоне, находзячыся пад уціскам рускіх паганятых. І сягоньня яна таксама ў загоне. Але ўжо нібыта са згоды самога народа. Аднак трэба тут заўважыць адну акалічнасьць.

Наша мова згодна ЮНЕСКА па мілагучнасьці і прывабнасьці займае 2-е месца пасьля італьянскай. Але ж яна, як ні дзіўна, згодна **ЮНЕСКА**, і занесена ў Чырвоную Кнігу. Гэта ж – нацыянальная катастрофа! Яна можа прывесьці краіну не толькі да згубы яе суверэнітэту, але і да зьнікненьня з мапы сьвету. Менавіта занядбаньне і зьнішчэньне роднай мовы з’яўляецца галоўнай прычынай небяспекі краіны. Прычым гэтая пагроза ідзе знутры, а не звонку, як гэта гучыць з Вашых вуснаў, каб мацаваць бясьпеку для сябе.

Пасьля распаду Саюза краіна займела нацыянальны суверэнітэт. Арміі для яе абароны амаль не было. Але з Вашым прыходам да ўлады для краіны нібыта ўжо стала існаваць вонкавая пагроза. Армія стала ўмацоўвацца. Штогод праводзяцца вучэньні. На яе ўтрыманьне трацяцца вялікія сродкі. Прычым – не апраўданыя. Можна спытаць: каго цяпер армія ахоўвае? Для народа вонкавай пагрозы, як мы ўжо ўпэўніліся, няма. Тады – вядома каго? Яна патрэбна Вам, каб абараніць сваю уладу дыктатара, сваё хіжае жыцьцё. Чаму?

Калі прааналізаваць метады Вашага праўленьня, то можна зрабіць вывад: замена Канстытуцыі, якую Вы пры інагурацыі кляліся шанаваць, прыняцце дзьвюхмоўя, фальсіфікацыя ўсіх праведзеных Вамі выбараў, пазбаўленьне дэмакратычных свабод і др. зьмянілі адносіны да краіны і да Вас асабіста. Вы адчулі пагрозу да Вашага праўленья. Сваім дыктатам і лавіраваньнем паміж Расеяй і Еўрасаюзам Вы прывялі краіну да глыбокага крызіснага стану. Замест таго, каб інвесьціраваць эканоміку яшчэ 12-15 год назад, як гэтага дамагаўся акадэмік Ал-дар Вайтовіч, Вы сьвядома па сваёй непрадбачлівасьці яе загубілі. Эканамічныя праблемы і "сацыяльныя балячкі" Вы штогод да часу "ікс" залечвалі мільярднымі бестэрміновымі крэдытамі з Расеі, выдавая іх народу за "стабільны" рост. А народ як жыў, так і прадаўжае жыць ў бядоце і яшчэ не скора зь яе выберацца.

Каб замацавацца ва ўладзе, Вы шукаеце падтрымку ў прарасейскіх імпэрскіх сіл, сфабрыкаваўшы міфічны "*манілаўскі*" Саюз з Расеяй. А для таго, каб заручыцца дапамогай, Вы і ўзаконілі дзьвюхмоўе, скарыстаўшы выхаваны стагодзьдзямі шавіністычнай ідэалогіяй русізма ў сьвядомасьці чалавека нацыянальны нігілізм, які і дыскрымінуе родную мову, а значыць і нацыю. Як вядома ў ідэалогіі русізма адна мэта – завуаліраванымі формамі любымі сродкамі зьнішчыць нашу нацыю і прыцягнуць да сябе наш край. Асабліва прыкра гучыць з Вашых вуснаў, што "*рускія і беларусы –*

*адзін народ".* Гэта ж – нонсэнс! Гэта – не іначай, як Ваш чарговы жарт. Праўдзівым будзе, калі лічыць, што і рускія і беларусы не нацыі, а мянушкі (гэта сапраўды так!), якія і надалі народам, каб іх парадніць. Адсюль відавочны **вывад: небясьпека** для нацыі, для дзяржавы існуе ў **страце роднай мовы.** Таму, каб выканаць свой нацыянальны доўг перад продкамі, трэба рашуча зьмяніць сістэму кіраваньня, трэба неадкладна вярнуць родную мову ў сферу адукацыі на нацыянальным узроўні, укараняючы абучэньне ўжо зь дзіцячага садка.

Досыць карміць народ "*манілаўскім саюзам*" і "раўнапраўным" дзьвюхмоўем!

**24 жніўня 2009г**.

## МОВА – ТВАР НАЦЫІ

Нататка апублікована ў газеце "Народная Воля"ў №161-162.2009 у падтрымку "Звароту **Інстытута нацыянальнай памяці**" ў абарону беларускай мовы з майго артыкула са шматлікімі скарачэньнямі.

Мова народа – гэта твар нацыі. А калі чалавек грэбуе роднай мовай, то ён, па вызначэньні К.Паустоўскага, дзікун. Гэта я напісаў ў лісьце, які паслаў прэзідэнту Лукашэнку. Згодна з прадстаўленьнямі ЮНЕСКА наша мова па мілагучнасьці і прывабнасьці займае другое месца пасьля італьянскай. А цяпер яна на мяжы зьнікненьня!!! Ды гэта ж – нацыянальная катастрофа! І хопіць карміць людзей манілаўшчынай пра раўнапраўны Саюз з Расеяй і ўзаконьваць дзьвюхмоўе, абапіраючыся на выхаваны ў нас шавіністычнай ідэалогіяй нацыянальны нігілізм, які і дыскрымінуе родную мову, нацыю увогуле. Трэба неадкладна вярнуць народу натуральнае права атрымліваць адукацыю на беларускай мове, чуць яе штодзённа і паўсюдна, жыць у нацыянальным рэчышчы, укараняючы навучаньне на роднай мове ўжо з **дзіцячага** садка.

16 кастрычніка 2009.

# ДАТЭРМІНОВАЕ ГАЛАСАВАНЬНЕ – ВЫРАТАВАЛЬНЫ КРУГ ДЛЯ ЎЛАДЫ

Нататка апублікавана ў газеце “**Народная Воля**” ад 23 красавіка 2010 у сувязі з начаўшым з 21.04.2010 датэрміновым галасаваннем у мясцовыя Саветы.

З вуснаў адказных асоб амаль штодня чуеш, што выбары ў нас дэмакратычныя і празрыстыя, што народ ідзе галасаваць ахвотна (болей за 80%), што апазіцыя не карыстаецца аўтарытэтам (за яе галасуе меней за 3%). Але я канстатую, што гэта – няпраўда.

Я ўдзельнічаў у якасьці назіральніка ад БХК (Беларускага Хельсінскага камітэта) у трох выбврчых кампаніях: 2004-га, 2006-га і 2008-га гадоў. І ў кожнай зь іх на сваім участку зафіксаваў, што датэрмінова галасуе чуць больш за 20% выбаршчыкаў. Пры гэтым многія вымушаны ісьці на участак пад прымусам, каб не страціць кантракт і г.д. На выбарах 2004 мы (нас было двое) зафіксавалі: колькасьць выбаршчыкаў па спіску – 2560, датэрмінова прыйшлі – 809. А ў справаздачы ўжо значыліся зусім другія лічбы: па спіску – 2050, а датэрмінова–1250. На пытаньне“Што ты робіш, старшыня?” пачулі адказ:“*Не магу інакш*, *бо страчу пасаду*”. Але ж з пасады дырэктара ўстановы яго ўсё ж такі хутка зьнялі, бо нашы заявы і справаздачы не засталіся незаўважанымі. У канчатковым выніку лічбы прагаласаваўшых даводзілі (праўдамі і няпраўдамі) да 52-66%.

На выбарах 2006 мяне да назіраньня ў дзень галасаваньня нахабна не дапусьцілі, бо датэрмінова прыйшлі на ўчастак толькі 18% выбаршчыкаў. Выбары маглі не адбыцца. Аднак на другіх участках, дзе назіраньня не вялося, лічбы прагаласаваўшых, як бачна са справаздач, даводзіліся да “*патрэбнай*” велічыні і нават яе перавышалі.

Вось такая праўда пра нашы “*справядлівыя*” выбары. Я не магу стрымацца ад гневу, калі чую заказную ману. Калі б не датэрміновае галасаваньне, якога так дамагаецца ўлада, то народ і не ведаў бы, што такое “*элегантная перамога*”.

Табліца прагаласаваўшых у назіраемых мною выбарчых участках

| Год прав. выб-ў | Кольк. выбаршчыкаў | Прыйшлі на галасаваньне: датэрмінова усяго | датэрмінова у % | за ўсе дні усяго | за ўсе дні у % | Галасавалі за дэпутатаў ад улады | ад апазіцыі | Галасавалі за дэп-таў у %: ад улад | ад апаз |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2004 | 2560 | 809 | 31,8 | 1680 | 66,0 | 1425 | 244 | 55,6 | 9,5 |
| 2006 | 2536 | 456 | 18 | – | – | – | – | – | – |
| 2008 | 2443 | 510 | 20,9 | 1285 | 52,6 | 588 | 330 | 24,1 | 13,5 |

Назіраньні сьведчаць: за дэпутата ад улады ў 2008г.(нават з ператасоўкай бюлетэней у скрынцы датэрміновага галасаваньня) галасавалі 24,1% электарату.

# КРАКАДЗІЛАВЫ СЬЛЁЗЫ

Нататка падрыхтавана для публікацыі на зварот рэдактара газеты "Народная Воля" Іосіфа Сярэдзіча:*"Ці трэба Аляксандару Лукашэнку балатавацца на чарговы прэзідэнцкі тэрмін?"* у сувязі з наступнай заявай кіраўніка дзяржавы: *"Наперадзе ў нас асноўная кампанія. Вельмі цяжкая будзе кампанія, вельмі цяжкая. І калі ў гэтай кампаніі прыйдзецца ўдзельнічаць дзейнаму прэзідэнту, то яна яшчэ цяжэйшай будзе, таму што вы бачыце, каму тут дзейны прэзідэнт не падабаецца, каму гэта не ў лад і на Захадзе, і на Усходзе. І, натуральна, рукі сьвярбяць, хочацца неяк сюды ўлезьці... Я наконт гэтага не вельмі перажываю, проста вам кажу: расслабляцца не трэба. Я ўжо, шчыра кажучы, напрацаваўся. Калі вы знойдзеце іншага прэзідэнта, страху не будзе. Усё роўна рана ці позна яго трэба будзе знайсьці. Таму, калі знойдзеце, ну, што ж, добра".*

**"Народная Воля" ад 30 красавіка 2010.**

Праслухаўшы заяву нашага кіраўніка дзяржавы ў ходзе сваёй паездкі па Петрыкаўскім р-не, я зрабіў для сябе выснову:"бацька" ўсур'ёз, ужо ў каторы раз парушаючы Канстытытуцыю, стаў загадзя праводзіць сваю чарговую прадвыбарчую агітацыю. А яго маналог – гэта "кракадзілавы слёзы", якімі ўсыпляецца пільнасьць электарата, каб схіліць яго да сябе і той прыйшоў на выбары. А там "вертыкаль" зробіць сваю агідную справу. Відаць яго турбуе той настрой мас які паціху скідае з вачэй заслону, пры дапамозе якой хаваецца ў спрат праўда аб становішчы ў краіне. А яна – і сапраўды драматычная. Бо кожны жыхар пад яго кіраўніцтвам залез у чужую кішэню – трэба кожнаму вяртаць доўг пад 2,35 тыс. дал. Нашы пазыкі ўжо складаюць 22,24 млрд. дал. ("Н.В" ад 18.6.2010)

Дастаткова ўспомніць, як праводзілася ў жыццё "беларуская мадэль", супроць якой паўстаў акадэмік Аляксандар Вайтовіч (дарэчы, мой зямляк з Капыльшчыны), што каштавала яму пасады. Менавіта ёю псеўдапрафесарамі праўладных установ прытупляецца сьвядомасьць мас, замбіруючы яе ўхваленьнем талерантнасьці (рабскай пакорнасьці). Атрымліваючы на працягу некалькіх гадоў ад Масквы за "нейкія ўступкі" 7 мільярдаў даляраў праз пракачку нафты і выстаў-

ляючы яго як дасягненьне гэтай міфічнай мадэлі (зрабіце вылік: 7 млрд. ад 48 млрд. УВП тых гадоў складае 14,5%, а рост УВП па краіне за год складаў каля 10%), улада выхвалялася яе эфектыўнасьцю. На самай жа справе наша вытворчасьць не развівалася, а дэградзіравала. І, як сведчаньне, болшая частка прадпрыемстваў дыхае на ладан, а многія – закрыліся. Ды яшчэ трэба трымаць міліцыю, армію, "спецназ" і другія сілавыя структуры, каб на іх апірацца.

Сёньня з-за таго, што не ўдалося нас уцягнуць у міфічны Саюз у якасьці паўночна-заходняга краю, нам Масква паказала "кукіш". Дэпутат расейскай Думы У. Жырыноўскі дастаткова ўцямна даў зразумець, што для падтрымкі нашай ўлады "халявы" болш ня будзе. Бачачы крах хвалёнай мадэлі, наш кіраўнік шукае ратунак у стасунках з Саветам Еўропы, Венесуэлай, Кітаем. Але крэдытамі далёка не заедзеш. Іх трэба вяртаць. Параза? Так. І, тым не менш, наш кіраўнік не зьбіраецца перадаваць стырно кіраваньня. Ужо ў пачатку выбарчай кампаніі ў мясцовыя Саветы ўладам ён дае ўстаноўку: падрыхтаваць "аснову" для прэзідэнцкіх выбараў. З чым яна паспяхова справілася, паказаўшы "выбарчы цуд". Але неўзабаве над галавой павіс кіргізскі (дамоклаў) меч, які вымушае яго трымаць свой Боінг на ўзьлётнай паласе.

Далей сцэнарый мне нагадаў адказ палкоўніка "спецназа" на сьвяткаванні Дня Волі. На маё запытаньне *"Калі ж закончыцца ваша апека незадаволеных гэтай уладай?"* быў адказ:*"Тады, калі на плошчу выйдзе 100 тыс. грамадзян"*. Зрабіць гэта, зразумела, будзе цяжка, бо на ўсіх дарогах фільтруецца люцкая плынь, а ў эфіры – адны страшылкі. Народ сядзіць у сваіх норках і церпіць: абы не было вайны. Але ж, як пісаў Якуб Колас:*"Аднім цярпеньнем і пакорай не ськінеш ты зь сябе ярма*", трэба выйсьці на плошчу. А кіраўніку ўлады параю: каб пазьбегнуць крывапраліцьця, на чарговы тэрмін не балатавацца, бо калі наш народ яшчэ можа пацярпець, то кіргізы – не. Народ не павінен пакутаваць! 1.5.2010.

# КАЛЫСКА АСЬВЕТЫ

Калыскай Асьветы нашай Бацькаўшчыны па праву з'яўляецца адна з старэйшых школ Беларусі – Слуцкая гімназія №1, якую называюць няйначай, як Слуцкімі Афінамі. Менавіта ў згодзе з традыцыямі Афін, тут на беразе ракі Случ быў закладзены сад і княжацкі парк. Яна была заснавана 20.5.1617 князем Янушам Радзівілам як вучэльня пры кальвінісцкім зборы. У 17 – сяр. 18ст. праграма навучаньня нагадвала курс езуіцкіх калегіумаў, які складаўся з 4-х класаў з 2-хгадовым тэрмінам навучаньня кожны. Навучаньне вялося на польскай мове (малодшыя класы) і на латыні (старэйшыя класы). У 1828г. вучэльня была пераўтворана ў 6-класную гімназію. У пачатку 70-х у гімназіі існаваў нелегальны гурток палітычнай самаадукацыі, што выявілася на актыўным удзеле гімназістаў у Паўстаньні 1863-64. У 1868г. гімназія была выведзена з-пад улады кальвінісцкай царквы і пераўтворана ў класічную 7-класную рускую гімназію. У 1875г. быў адкрыты 8-ы клас. Асьветніцкія і рэвалюцыйныя настроі сярод навучэнцаў раслі і распаўсюджваліся. Яны актыўна праявілі сябе і ў забастовачным руху ў 1905 г.

Дзякуючы найвыдатнейшым педагогам гімназія з'яўлялася перадавым цэнтрам педагагічнай думкі еўрапейскага ўзору. *"Не ўладарыць над сьвядомасьцю, а выхоўваць норавы і прыцягваць моладзь да навукі",–* такой была філасофія *"бастыёну гуманізму"* ва ўмовах шматканфесійнасьці Слуцкага княства часоў ВКЛ і Слуцкага павета (раёна) ў гады расейскай (савецкай) экспансіі. Гістарычная і культурная спадчына тых асоб, якія жылі і дзеялі ў нашай Айчыне і за яе межамі, ў змаганьні і творчай працай здабывалі славу і гонар школе – неацэнны скарб, які мы аніяк не маем права забыць ці згубіць.

Як сьведчыць аўтар нататкі "Слуцкія Афіны" Георгій Платонаў ("Нар.Воля" ад 2 ліпеня 2010), за амаль чатыры стагодзьдзі гімназія прайшла складанейшы шлях эвалюцыі, але

ва ўсе часы тут сьвята трымаліся Статута 1626, які апавяшчаў:*”Прыходзьце ж усе, каму дарагая Радзіма!.. Нікому не закрыты шлях! Адчынены дзьверы, што вядуць да нашых грацый і муз, для ўсіх сумленных і шчырых людзей”.*

З гонарам нясуць педагогі асьветніцкую эстафету сваіх папярэднікаў і сёньня. Штогод вучні гімназіі становяяцца пераможцамі раённых, абласных, рэспубліканскіх і міжнародных алімпіяд. І вось вынік: за апошнія 4 гады 92-96% выпускнікоў гімназіі паступаюць у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Такі вось цуд. Бо тут паважаюць асобу вучня!

Сярод выхаванцаў і педагогаў гімназіі былі вядомыя дзеячы навукі, культуры і літаратуры. Напрыклад у 1923г. на настаўніцкіх курсах чытаў Я.Колас сваю паэму “*Новая зямля*”.

Вось яны, адметныя асобы, вартыя ўвагі і павагі:

1. **Абуховіч** Альгерд (псеўд. Граф Бандынэлі, 1840, в. Калацічы Глускага р-на–1898), пісьменьнік, паэт, мемуарыст, перакладчык, навучэнец гімназіі ў 1852-55, удзельнік паўстаньня 1863-64, за ўдзел у якім быў сасланы ў Сібір. Пасьля ссылкі, страціўшы маёнткі, займаўся ў Слуцку рэпетытарствам, стварыў гурток роднай мовы, пачынальнік жанру байкі ў бел. літаратуры, жыў у Жэневе і Парыжы.

2. **Андруковіч** Аляксандар Міхайлавіч (                ), ураджэнец в. Цімкавічы на Капыльшчыне, скончыў гімназію за царскім часам, таму карыстаўся павагай аднавяскоўцаў, на даму вучыў дзяцей грамаце, праводзячы ў жыцьцё філасофскія прынцыпы “*бастыёна гуманізму*”. У 1910 годзе забралі ў войска, а падчас Першай імперыялістычнай вайны трапіў у палон, у нямеччыне прабыў 5 гадоў, пісаў дадому лісты, у якіх распавядаў, як там жывецца. У 1919 годзе вярнуўся дадому, працаваў у калгасе старшынёй рэвіз. камісіі, стварыў сямь’ю (яму было 50 гадоў) і стаў летапісцам мястэчка. Яго запісы маюць гістарычную каштоўнасьць, згодна якім засьведчана, што з 960 габрэяў Цімкавіцкага гета ўратаваліся толькі двое: Ісаак Садоўскі і Ісаак Шусцер. Апошні пасьля

вайны стаў вядомым урачом, жыў у Бабруйску і прыязджаў у Цімкавічы, каб аддзячыць Веры Валькоўскай, жонцы стрыечнага брата Аляксандара – Мікалая Андрэевіча, за сваё ўратаваньне. Такім чынам спіс беларускіх Праведнікаў Сьвету Мемарыяла Яд Вашэм трэба думаць папоўніцца.(Аб гэтым учынку распавяла нататка Яўгена Васьковіча "Алея Праведнікаў можа папоўніцца новым героем", зьмешчаная ў "Бабруйскім кур'еры" ад 10 сакавіка 2010 г., што можа пацьвердзіць унук Веры – спадар Леанід Запольскі).

3. **Аскерка** Міхаіл Андрэевіч (1836, Мінск – 10.5.1864), удзельнік паўстаньня 1863-64, скончыў гімназію ў 1854г. і мед. факультэт Маскоўскага ун-та (1860), працаваў урачом у Магілёве. З 1862г. удзельнічаў у стварэньні рэв. арганізацый у Магілёўскай губерні. Належыў да партыі "чырвоных". Як камісар Магілёўскага ваяводства разам з Л. Зьвяждоўскім узначаліў там узброенае паўстаньне. Улетку 1863 прызначаны камісарам Мінскага ваяводства, дзе рэарганізаваў разам з Іосіфам Ямантам паўстнцкую адміністрацыю. Пасьля паразы паўстаньня растраляны ў Магілёве.

4. **Аскерка** Сьцяпан-Міхаіл (12.9.1712, Навагрудчына -?), эканаміст, юрыст. Пасьля сканчэньня Слуцкай гмназіі працягваў адукацыю ў Кёнігсбергу і Берліне. З 1733 саветнік юстыцыі караля Фрыдрыха П у Прусіі. Стаяў на дэмакратычных і ліберальных пазіцыях. У Бернберзе выдаў эканамічны трактат "*План, які не з'яўляецца нормай*", у якім сцьвярджаўся "*прускі*" шлях разьвіцьця капіталізму, дзе ўпершыню было ўведзена ў навуковы ўжытак слова "*план*".

5. **Астроўскі** Радаслаў (1887, в.Запольле на Случчыне – 1976), палітычны дзеяч, выпускнік гімназіі 1908г. і яе дырэктар у 1917г., дэлегат Усебел-га з'езда 1917, удзельнік Слуцкага паўстаньня 1920, дырэктар Віленскай гімназіі ў 1924-36, прэзідэнт БЦР у 1927-40, адзін з арганізатараў БКА (Беларускай Крайовай Арміі) ў 1942-44 і Другога Усебеларускага кангрэса 1944, жыў у Германіі і ЗША. Яму прысьвечана

балада *“Шчасьце купальля”* (чытай у 1-й частцы зборніка*“На хвалі Адраджэньня,* стар. 66)

6. **Белабоцкі** Андрэй (Ян) Хрыстафоравіч, выпускнік гімназіі канца 17 ст, філосаф і паэт 2-й палавіны 17 ст. і начала 18 ст., быў кальвінісцкім прапаведнікам. З-за ганеньняў езуітаў пераехаў у Смаленск, а затым у 1681 – у Маскву, дзе распаўсюджваў рацыяналістычныя і антыцаркоўныя ідэі. Філасофію ставіў вышэй за багаслоўе. Веру лічыў асабістай справай, не прызнаваў афіцыйнай царквы, крытыкаваў Біблію, за што царкоўны сабор прызнаў яго ярэтыкам. У філасофскіх поглядах пераплятаюцца ідэі рацыяналізму, дэізму і пантэізму. Ён падкрэсьліваў, што бог – гэта частка прыроды, што магчымасьці чалавечага разуму неабмежаваныя, адстайваў адзінства душы і цела. Галоўны паэтычны твор – паэма “Пентатэугум, або пяць кароткіх кніг…”, у якім малюе рэальнае жыцьцё ў рэлігійных вобразах.

7. **Богуш**-Сестранцэвіч Станіслаў Іванавіч (1731, в.Занкі Свіслацкага р-на Гродзенскай вобл.-1826), каталіцкі царкоўны дзеяч, скончыў Варшаўскую школу піяраў **(1763)**, настаяцель у Гомелі і Бабруйску, канонік і біскуп у Вільно, біскуп і арцыбіскуп у Магілёве, мітрапаліт рымска-каталіцкай царквы ў Расеі **(1798-1826)**, выбіраўся членам Расейскай АН і Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі. Заснаваў у Магілёве друкарню, у якой друкаваў свае творы па гісторыі і філалогіі: разглядае паходжаньне ліцьвінаў, рускіх і украінцаў, піша “Граматыку літоўскую”. Выдаў і паставіў у Магілёве сваю вершаваную трагедыю “Гіцыя ў Таўрыдзе” **(1783)**.

8. **Бржазоўскі** А.Р. доктар медычных навук, аўтар працы “Прыватная хірургія”

9. **Бярозка** Георгій – пісьменьнік

10. **Вайніловіч** Эдвард Адам (11847, Сьляпянка у межах Менска-1928), гаспадарчы і палітычны дзеяч, гімназію скончыў у 1865г., з 1906г. член Дзярж. савета Рас. імпэрыі, з 1911г. дэпутат Менскай губерні ад Слуцкага павета. У 1918г. пад-

трымаў утварэньне БНР, у яго доме ў Слуцку 14-15 лістапада праходзіў беларускі з'езд Случчыны, які ўзьняў Слуцкае паўстаньне 1920. Аўтар успамінаў. Адзін з фундатараў выдавецтва *"Загляне сонца і ў наша ваконца".* За яго сродкі ў 1910 г. ў Менску ўзьведзены Чырвоны касьцёл імені сьвятых Сымона і Алены, які названы ў гонар яго дзяцей.

11. **Вечар** Аляк-дар Сьцяпанавіч (25.3.1905, в. Машчыцы на Случчыне – 4.4.1985), пасьля навучаньня ў гімназіі скончыў БСГА (1929). Працаваў у НДІ БССР, з 1959 у АН Беларусі, акадэмік біяхімічных навук, паэт, выдаў зб. вершаў "Кола дзён" (**1930**) і "Зварот да слова" (**1977**).

12. **Даленга-Хадакоўскі** Зарыян Якаўлевіч (Адам Чарноцкі**,** 24.12.1784, каля в.Гайна Лагойскі р-н – 1825), пачынальнік беларускай, польскай, украінскай і рускай археалогіі, фальклярыстыкі, этнаграфіі і дыялекталогіі, славяназнавец. Многія славяназнаўчыя праблемы (прарадзіма славян і іх этнагенэз), вылучаныя ім, актуальныя і сёньня. Слуцкую гімназію скончыў у 1801 г. У працы пра "Пра славяншчыну да хрысьціянства" (1918) упершыню зрабіў спробу апісаць дахрысьціянскі побыт славян, іх народную творчасьць.

13. **Даўкша** Эдуардас-Якубас (1836-90)**,** літоўскі пісьменьнік.

14. **Дубовік** Уладзімер Александравіч (1903, в.Немча, Слуцкі **р-н – 1987**), генерал-лейтэнант (1959), выкладчык у ваенных ВНУ, ваенны аташэ.

15. **Дыла** Язэп (14.04.1880, г.Слуцк – 7.04.1973), пісьменьнік і грамацкі дзеяч, адзін з пачынальнікаў гістарычнай прозы, вучыўся ў гімназіі (1890-98), у 1921-24 на розных кіруючых пасадах, з 1924 правадзейны член і вучоны сакратар Інбелкульта, дырэктар Інстытута па вывучэнні мастацтва, у 1930 рэпрэсіраваны па справе "Саюза вызваленьня Беларусі", высланы ў Кунгур Пермскай вобл., потым жыў у Саратаве.

16. **Жаўрыд** Павел Якаўлевіч (13.6.1899, в.Цецяроўка Слуцкага пав.– 14.5.1939), дзеяч нацыянальнага руху. Пасля сканчэння Слуцкай гімназіі (1909) вучыўся ў Варшаўскім ун-це. З 1916 у

армі. ДэлегатУсебеларускага з’езда 1917. У лістападзе 1919 абраны старшынёй Белнацкамітэта ў Слуцку. У канцы 1920 Найвышэйшай радай БНР прызначаны камісарам Случчыны, уваходзіў у Бел.раду Случчыны, адзін з кіраўнікоў Слуцкага Збройнага Чыну 1920. У 1923-30 працуе ў Белсельпрамсаюзе, Мар’інагорскім с.-г.тэхнікуме, Інбелкульце, газ. “Звязда”. Двойчы (ў 1930 і 1937) асуджваецца, жыве ў ссылцы і ППЛ (працоўна-папраўчы лагер), дзе і памірае.

16. **Капіевіч** Ілья Фёдаравіч (каля 1651, Міншчына – 1714) асьветнік і кнігавыдавец, многа вандраваў, жыў у Капенгагене, Берліне і Маскве. У 1697 пазнаёміўся з Пятром 1, стаў прыхільнікам яго рэформ, садзейнічаў разьвіцьцю асьветы і пашырэньню навуковых ведаў, выдаваў і друкаваў кнігі, падручнікі і слоўнікі на рускай, лацінскай, нямецкай і галандскай мовах.

17. **Карповіч** Пётр Уладзіміравіч (1874, г.Гомель – 1917), дзеяч вызваленчага руху, вучыўся ў Гомельскай і Слуцкай гімназіях, Маскоўскім (1895-96), Тартускім (1898-99) і Берлінскім (1899-1901) універсітэтах. У 1896-98 вёў рэвалюцыйную агітацыю ў Гомелі і Нясьвіжы. За забойства міністра асьветы М.Багалепава быў асуджаны на 20 гадоў катаргі, адкуль у 1907 г. уцёк і ўступіў у партыю эсэраў, стаў памочнікам Е.Азефа. Загінуў пры вяртаньні ў Расію на судне, патопленым нямецкай падводнай лодкай у Паўночным моры.

18. **Карсалін (1809-71)** – мастак.

19. **Косберг** Сямён Арыевіч (1903, г.Слуцк – 1965), канструктар авія і касмічных рухавікоў, Герой Сацыялістычнай Працы (**1961**). Яго імем названы кратэр на Месяцы.

20. **Кот** Дзьмітрый Якаўлевіч (1897г., М.Прусы на Капыльшчыне – 1937), па сканчэньні Слуцкай гімназіі паступіў у Маскоўскі універсітэт, адкуль за “крамольныя справы” быў выключаны. Пасьля рэвалюцыі арганізуе ў Цімкавічах першы прафсаюз батракоў, а ў хуткім часе ўступае ў атрад Чырвонай Арміі, у якоў дaслужыўся да нам-ка начальніка Гал. Упраў-

леньня Наркамата абароннай прамысловасьці. 1 жніўня 1937г. быў неабгрунтавана рэпрэсіраваны і расстраляны.

21. **Красоўскі** Антон Якаўлевіч (1821, г.Слуцк – 98) – вучоны-акушэр, пасьля навучаньня ў гімназіі у 1848г. сканчыў Пецябургскую медыка-хірургічную акадэмію, дзе і працаваў. З 1871г. дырэктар Пецярбургскай радзільнай установы. Заснавальнік часопіса “Журнал акушэрства и женских болезьней”

22. **Кулакоўскі** Генрых –прафесар, заснавальнік першай у Расеі спецклінікі па захворваньні скуры.

23. **Ліхадзіеўскі** Сьцяпан Іванавіч (1911, в. Барок на Случчыне – 1979), паэт, літаратуразнавец, доктар філалагічных навук. Вучыўся ў БДУ і Мнскім Вышэйшым педагагічным інстытуце. У 1933г. быў беспадстаўна асуджаны, жыў у Казахстане. У 1939 скончыў Томскі педагагічны інстытут. Аўтар зборніка вершаў і паэм ”Чырванеюць вішні”, ”Рокаты дальняй прыстані”, “Мы – маладая гвардыя”.

24. **Лобан** Мікола (Мікалай Паўлавіч, 1911, в. Чаплічы на Случчыне – 1984), скончыў БДУ (1945), беларускі пісьменьнік, мовазнавец, адзін з укладальнікаў арфаграфічных і тлумачальных слоўнікаў беларускай мовы.

25. **Мардвілка** Аркадзь Пятровіч (Аркадзь **Лясны**, 1905, в.Языль Старадарпожскага р-на – 1986), пісьменьнік, перакладчык, скончыў Слуцкую гімназію, Фанетычныя курсы новых моў у Ленінградзе, педфак БГУ, Вышэйшыя курсы пры 2-м Маскоўскім ун-це і Сярэднеазіяцкі ун-т у Ташкенце, друкаваўся з 1924г., аўтар кнігі нарысаў “Вялікае нараджэньне”. У 1933г. рэпрэсіраваны па справе “Беларускі нацыянальны цэнтр”, а ў 1988г. рэабілітаваны.

26. **Непакайчыцкі** Артур Адамавіч (1813-81), расейскі ваенны дзеяч, з дваран Слуцкага павета, выпускнік 1827. У 1832 скончыў Пажскі корпус, у 1834 – Ваенную акадэмію. Удзельнік ваенных дзеяньняў на Каўказе, Венгрыі, Крыму, на Дунаі ў вайне 1877-78, з 1878 член Дзяржаўнага савета.

27. **Няшкоўскі** Іван – доктар медычных навук

28. **Паўловіч** Эдвард-Баніфацы Францавіч (7.6.1825, Тургеляй Вільнюскага пав., Літва - 1909), мемуарыст, мастак (скончыў Пецярбургскую АМ), удзельнік Паўстаньня 1863-64, падарожнічаў, вынікам якіх – замалёўкі, партрэты, мемуары: *"Успаміны. Навагрудак – турма – выгнаньне", "З падарожжа па Літве", "З жыцьця літвіна", "Мае ўспаміны з часоў настаўнічаньня на Літве"* і др. Як мы бачым, у той час яго радзіма насіла назву Літва, а не Беларусь.

29. **Петрусевіч** Казімір Адамавіч (1872, фальварак Навіны каля в.. Душава на Капыльшчыне – 1949), грамацка-палітычны дзеяч з 1894г., адвакат, які абараняў на судзе ў 1908г. Якуба Коласа і рэвалюцыянераў Бонч-Асмалоўскіх, а ў 30-х – Максіма Танка і групы яўрэяў, аўтар працы па цывільным праве.

30. **Пяткевіч** Антоні Антонавіч (Адам Плуг, 23.10.1823, в. Замосьце Слуцкага р-на – 1903) – пісьменьнік , скончыў гімназію ў 1842г., адзін з арганізатараў літаратурна-асьветніцкага гуртка, першы паэтычны зборнік *"Родны загон"*(1854) заснаваны на рэаліях жыцця ліцьвінаў, аўтар раманаў *"Дух і кроў", "Афіцыяліст"* і др., у 1879-90 – рэдактар часопіса *"Каласы"* у Варшаве, дзе жыў з 1874 г. У 1891-1903 – галоўны рэдактар *"Вялікай усеагульнай ілюстраванай энцыклапедыі"*.

31. **Робуш** (выпускнік гімназіі 1840г., прафесар матэматыкі Харкаўскага унівэрсітэта.

32. **Сеўрук** Леанід Сафонавіч аўтар падручнікаў па прыродазнаўству.

33. **Скрыган** Ян (Іван Аляксеевіч, 1905, в. Трухановічы на Капыльшчыне – 1992) бел пісьменнік, вязень ГУЛАГу (рэпрэсіраваны ў 1936 і 1949), адбываў пакараньне ў Сіблягу, адзін з пачынальнікаў беларускага нарыса: зб-кі "Шугае сонца", "Недапісаны профіль", "Сустрэчы", "Апавяданьні" і др. на тэму захаваньня і памнажэньня духоўных набыткаў нацыі.

34. **Сяржанін** Іван Мікалаевіч (1898г., Любань на Міншчыне – 1973), скончыў БДУ (1926), доктар біялагічных навук (1957) у галіне заалогіі пазваночных жывёл, з 1959 загадчык Аддзела

заалогіі і паразіталогіі АН, чл.-кар. АН Беларусі, навуковыя працы па фаунiстыцы, зоагеаграфii i экалогіі.

35. **Цэраскі** Вітольд Карлавіч (1849, г.Слуцк-1925), астраном, прафесар астрафотаметрыі, з 1882 – выкладчык, а з 1889 – дырэктар Маскоўскага універсітэта. Даследаваў метэоры, адкрыў існаванне 2-х зорак і т.зв. серабрыстых воблакаў. Яго імем назван кратар на адваротным баку Месяца.

36. **Чудоўскі** Т.М.- прафесіўны беларускі рэвалюцыянер.

37. **Чарноцкі** Напалеон Казіміравіч (1866, в. Нача Ляхавіцка-га р-на – 1937), публіцыст і перакладчык, скончыў гімназію ў 1887г. і Маскоўскі універсітэт (1894), уваходзіў у тайны гурток самаадукацыі.У 1908-30 у эміграцыі. У артыкуле "Да пытаньня пра беларускую народную школу" (1908) выступіў у абарону беларускай мовы.

## ДЗЕ МІЛЬЯРДЫ?

Нататка апублікавана ў газ."Народная Воля" за 21 верасьня 2010 г.

На старонках любімай газеты хачу пачуць: куды мы ідзём? Мяне турбуе стан нашай прамысловасьці, якая апошнія гады (паводле прызнаньня У.Пуціна) атрымлівала ад Расеі штогод 7 мільярдаў долараў США. Гэта ж 14,5% ад ВУП на той час. А дзяржаўная статыстыка, ухваляючы нашу эканамічную мадэль, казала, што рост ВУП складаў 10-11%. Выходзіць, што мы не развіваліся, а дэградзіравалі ўсе гэтыя годы? А куды ўжыліся астатнія 4,5% (гэта 2,2 млрд.дол.)? Можа, Г. Жураўкова ведае? Калі так, то 22 млрд. долараў. (2,2 млрд. х 10 (за гады) = 22) няхай кіраўнікі дзяржавы вяртаюць у казну. Яны ведаюць, куды страціліся народныя грошы. А можа патанулі ў швейцарскіх банках?

Хачу, каб наш урад (эканамісты) пацьвердзілі маю выснову. Хачу ведаць праўду! Хачу ведаць сапраўднае становішча нашай экономікі і хто будзе пакрываць крэдыт у 22,24 млрд. долараў, калі нас прададуць Кітаю ці Венесуэле? Я не хачу, каб мае ўнукі працавалі на кітайцаў! Як можна апусьціцца да такога стану і падманваць народ! Хутка чарка застанецца без скваркі…

# НА ШЛЯХУ ДА ІСЬЦІНЫ

Тэзісы напісаны ў сувязі з правядзеньнем рэдакцыяй альманаха“Дзяды”навукова-практычнай канферэнцыі па пытаньнях этнагенезу беларусаў і паходжаньня беларускай мовы (Газ.“Наша Слова”, №42, 2010г).

У базавай гіпотэзы да аб’явы **“Паходжаньне беларусаў і беларускай мовы”** я згодзен з тым, ***“што славянскі праэтнас ніколі не існаваў, што «славянства» – з’ява культурна-лінгвістычная, а не антраполага-генетычная”.*** А вось да другой часткі гэтай базавай гіпотэзы, што ***“беларусы – нашчадкі балцкіх плямён, якія прынялі славянскую граматыку, а таксама хрысьціянства славянскага абраду*”** ёсьць заўвагі. Гэтаму міфу ўтораць і аматары маскоўска-жамойцкай фікцыі, якія лічаць, што***“на нашыя землі каля 1500 гадоў таму прыйшлі славяне з Балкан і асімілявалі тутэйшых балтаў”.*** З гэтай гіпотэзай я не згодзен, таму што яна зьмяшчае ў сябе навуковыя разыходжаньні, якія выключаюць адзін аднаго, таму і патрабуюць дасканалага навукова-практычнага дasледаваньня і абгрунтаваньня.

**Па-першае**: беларусы не могуць быць нашчадкамі балцкіх плямён, паколькі нашы продкі – выхадцы зь **вянедаў**, якія насялялі тэрыторыю ад Акі да Віслы і ад вострава Готланд на Вянедзіка сена (так называлася да н.э. Балтыйскае мора, а ў часы Рымскай імперыі – Сьвеўскім морам) да ўпадзення Дзясны ў Барысфен (Днепр). Менавіта **сьвевы**, што жылі на Палаб’і, якіх празвалі “мекленбургскімі каланістамі” (гл. карту “Рымская імперыя канца 2 ст н.э.”), да н.э. асімілявалі вянедаў з захаду, а з 4-га ст.н.э. вянедаў асімілявалі ўжо з усходу **балты**, што жылі ў вярхоўі Волгі. Дагадку аб двайной асіміляцыі народа на нашых землях выказаў па раскопкам Я. Шыраеў у кн. ”Русь Белая, Русь Чорная і Літва ў картах”. Але яго вывад – прагматычны: асімілявалі балтаў славяне, што наступалі на іх двойчы з поўдня праз стагоддзі. Але гэта, як мы бачым з вышэй сказанага, не так. І мой довад пацвярджаецца досьведам загадчыка лабараторыі нехрамасомнай спадчыннасьці Інстытута генетыкі і цыталогіі Нацыянальнай акадэміі навук чл-

кар. НАН Беларусі А. Давыдзенкам (чыт. нататку А. Янушэўскай **“Мы не балты”**, апублікаванай у г.”Н.Воля” ад 26-28 кастрычніка 2010), які сьцвярджае, што ***“беларусы – гэта індаеўрапейцы, славяне*** (зн. не балты), ***мы з’яўляемся прамымі нашчадкамі тых людзей, якія 8 тыс. гадоў таму засялялі краіну. Мы тут ператварыліся ў протаславян*** (тут праўдзівей меркаваць – **у вянедаў**), ***затым у славян*** (так і ёсць: **славяне – выхадцы зь вянедаў*), затым у нейкія плямёны, а потым ужо сталі беларусамі*”.** Але неяк дзіўна, што ў гэты ж час, як сьведчыць нам В.Растоў (чыт. артыкул “Хто кіраваў Вялікім княствам?”, апублікаваным у раздзеле “Літаратурная Беларусь” газ. “Новы Час” ад 12.хі.2010): ***“даследаваньні РАН генафонда расійскага і беларускага народаў паказалі, што расійцы генатычна – фіны, а беларусы генатычна – балты. Абодва народы – не славяне па генах, а рускія – нават не індаеўрапейцы”*.**

Вось якія супярэчлівыя здабыткі мы маем ад вучоных гэтых акадэмій, якія, безумоўна, вядуць свае дасьледаваньні менавіта з кан’юнктурных пазіцый. А ці можна такія вывады лічыць грунтоўнымі? І ні адзін зь іх не можа дапусьціць, што продкі нашы – вянеды, што менавіта ад іх ідзе наша паходжаньне, што пацьвярджаецца і археалагічна і лінгвістычна. Тут трэба згадзіцца з досьведам Э.Тобіна, які сьцвярджае, што вянеды, якія сустракаліся варагамі на берагах нашых рэк, па якім яны перабіраліся па шляху “з вараг у грэкі”, і займелі ад іх назву **літвен** ад спалучэння слова **літ** (па латыні бераг) + корань **вен** ад слова венед. З такім вывадам трэба згадзіцца. Аб гэтым досьведзе і вядзецца гаворка ў маіх тэзісных эсэ і артыкуле, якія і прадстаўляюцца.

**Па-другое**: беларусы не маглі прынімаць славянскай граматыкі, бо яны (як выхадцы зь вянедаў) – пачынальнікі гэтай граматыкі. А тое, што згодна міфаў славяне яе апасрэдавалі ў выніку разьвіцця пісьменнасці, не дае права адказаць у наватарстве ліцьвенам.

**Па-трэцяе**: беларусы не прынімалі хрысьціянства славянскага абраду ў эвалюцыйным сэнсе. Яго нашым продкам паганскай веры (прыклад паганства – купалле) абрады насад-

жвалі прымусова са зьнішчэньнем крэўных. І тым больш крыўдна, што яно сьвядома заблытваецца міфамі Таемнай канцэлярыі русізма (як афіцыйна, так і замаскіравана шавіністычнай царкоўнай канцэпцыяй аб недзялімасьці Усяе Русі), нібыта роднаснай нам мовы і нацыі, у той час як паміж штучным рускім (угра-фінска-ардынскім) говарам і нашай мовай ніякай роднасьці не існуе. Адсюль: сьвядомае прыўнясеньне маскоўскай патрыярхіяй для сябе назвы “Русь” ад “Кіеўскай Русі” зь яе славянскім паходжаньнем – не што іное, каб назвай «Усея Русь» завуаліраваць свае імперскія (ардынскія) амбіцыі, і апраўдаць, такім чынам, захопніцкія планы па закабаленьню народаў нібыта роднасных ім па веры народаў незалежна ад таго ў якой краіне яны жывуць і, на гэтай аснове, спарадзіць і з дапамогай царквы блаславіць войны, пракаціўшыхся па нашай зямлі агнём і мячом з велізарнейшымі стратамі, аб якіх распавёў нам Ан.Тарас. Менавіта і назву нашаму Вялікаму княству Літванія масковія указам Кацярыны II надала «**Белая Русь**», каб праваслаўная назва ні ў каго не вызывала сумнеў у прыналежнасьці да Расеі нашых зямель, у роднасьці рускага і беларускага народаў. Менавіта абманам і трымаецца рускае хрысьціянства нібыта на славянскіх традыцыях праваслаўя. Праваслаўным яго нельга назваць, таму што яно – ардынскае, не тоеснае гістарычнаму славянскаму (ліцьвінскаму) сьледу. Таму: трактоўцы **“рускае хрысьціянства славянскага абраду”** няма як веры ў назве, так і апраўданьня ў дзеяньнях.

Цяпер адносна фальсіфікацыі гісторыі нашага краю. У навуковых працах не заўсёды можна знайсьці грунтоўныя вывады ці адказы на пытаньні часу, як гэта мы бачым на прыкладзе паходжаньня беларусаў. Гэта можна патлумачыць як недасьведчанасьцю навуказнаўцы, так і тым, чые інтарэсы ён выконвае. Калі яны робяцца ва ўгоду ўладзе – кан’юнктурна, што больш верагодна, то яны губляюць свой навуковы сэнс. Калі ж навуковец стаіць на сваіх перака-

наньнях падобна Дж.Бруно, то ён рыскуе сваім жыцьцём ці кар’ерай. Вось чаму многія адкрыцьці, вучэбнікі і летапісы часоў інквізіцыі (13-19 ст) і дыктатуры імперскай Расеі і СССР фальсіфікаваны і вызываюць у нашчадкаў усьмешку ці неўразуменьне. Напрыклад у вучэбніках па гісторыі краю можна прачытаць, што ў “невядомай” нашаму народу вайне 1654-67 маскалі ***“вялі вайну з <u>Вялікім княствам Літоўскім</u> і <u>Рускім</u> за <u>Беларусь</u>”.*** Гэтая тэза належыць, як ні дзіўна, нашаму гісторыку Ан. Грыцкевічу. Я налічыў тут 3 гістарычныя памылкі (дапускаю, яны – не па яго віне, падкрэсьлены)

Калі быць шчырым знаўцам гісторыі свайго краю, то можна заўважыць, што ўжо згодна Люблінскай уніі 1569, якая была спраўлена паміж ВКЛ і Польшчай з утварэньнем Рэчы Паспалітай, каб уратаваць край ад маскоўскай навалы ў сувязі з Лівонскай вайной 1558-83, па яе акту Падлясьсе і землі Украіны (Падольле, Валынь, Бэлзскае, Львоўскае, Кіеўскае, Хелмскае і Чарнігаўскае княствы), назвы якіх ўжываліся як “землі Русі” (назва мабыць перадалася ў спадчыну ад назвы Кіеўская Русь), перайшлі ад улады ВКЛ да Польскай Кароны. Таму наш край з гэтага часу ўжо называўся (па савецкай гістарыяграфіі) як Вялікае княства Літоўскае (праўдзівей будзе: Вялікае княства Літванія), а не так, як пазначана ў вучэбніку. Прычым Беларусь, як дзяржава, за якую вялася вайна, з такой назвай у той час яшчэ не існавала. Тым не менш і спадар Ворша ў Каляндары памятных датаў беларускай гісторыі на 2007г., зьмешчанага ў газ. “Наша Слова” ад 17.01.2007, зьдзіўляе сваімі ведамі. Ён кажа, што ***“ў 1432г. у вайне за дынастычную ўладу паміж Свідрыгайлам і Жыгімонтам – унукамі Вялікага князя ВКЛ Гедзіміна – Свідрыгайла пасьля пазбаўленьня Вярхоўнай улады ў ВКЛ быў вымушаны схавацца ў Полацку, дзе абвясьціў сябе Вялікім князем <u>Беларускім</u>”.*** Во, якія пёрлы выдаюць нашыя гісторыкі.

Хачу яшчэ закрануць увагу на неабгрунтаванасьць міфаў (напрыклад міф: ***“літва – статус ваяроў”***, аб якім вядзецца

размова ў маім артыкуле “Наша прарадзіма і яе лёс”, напісанай яшчэ тры гады назад), якія тэндэнцыйна зканструяваў дасьледчык гісторыі Зьдзіслаў Сіцька ў кнізе“Утроп Літвы”. Добры адлуп ім даў Вітаўт Мартыненка. (Чытай артыкул “Дакументы аспрэчваюць міфы”: апублікаваны ў газ. “Наша Слова” ад 10 лістапада 2010г). Зь ягонай крытыкай я згодзен адэкватна і ўхваляю яго. …Насьцярожвае і назва загалоўка кнігі З.Сіцькі ***“Міндогава сталіца Варута – мястэчка Гарадзішча Баранавіцкага раёна”.*** Як вядома Гарадзішча разьмешчана на рацэ Сэрвач. Але я больш веру Вітаўту Чаропку (чыт. кн. “Імя ў летапісе”, стар.96), які сьцвярджае, што сталіца “Краіны Мендогавай” знаходзілася побач з Наваградкам “вь Роута”, г.зн. Рута, што разьмешчана на рацэ Рута. Гэта больш верагодна. Да таго ж хачу дапоўніць, што З.Сіцька не заўсёды дасканала вядзе пераклад з арыгінала з прычыны мабыць сваёй недасьведчанасьці. Напрыклад ён піша**: «*Папа Інацэнт 1У у буле ад 17 ліпеня 1251г. даручыў біскупу Кульмскаму “нашаю ўладаю вянчаць памянёнага Міндовіна на караля ўсяе Літовіі”…*»** Каб заўважыць недакладнасьць, зьвернемся да “*Старажытнага акта Палоніі* (стараж. назва Польшчы) *і Літваніі”*. (Эд. А. Тэйнер, Т.1, Рым, 1860, П.49, .№51, 52), у якім сказана, што папа Інацэнт 1У даручаў сваёй булой ад 17 ліпеня 1251г. біскупу холмскаму Генрыху (а не Кульмскаму) вянчаць князя Міндоўга (1195-1263) – нашчадка полацкіх (а не балцкіх) князёў ***“на караля ўсяе Літваніі і ўсіх земляў, якія ён з дапамогаю Божае моцы ўжо вырваў ці вырве ў будучыні з рук няверных”.*** Як бачым З.Сіцька нясе страты як у навуковым досьведзе, так і ў перакладах (недакладныя пераклады падкрэслены). І калі Вітаўт Мартыненка яго не аспрэчвае кардынальна, то я аспрэчваю – катэгарычна. …На шляху да ісьціны наступіў момант, калі разыходжаньням ў досьведах нашай гістарычнай спадчыны будзе дадзена прынцыповая ацэнка, а для вядзеньня дасканалага досьведу яе будзе распрацавана цэлая навуковая сістэма.

20 лістапада 2010.

# КАМЭНТАРЫІ

**Стар.** 13. * **Ланцужок** – пікет, які кожны месяц 16-га дня на ўгодкі зь дня забойства Віктара **Ганчара**, Анатоля **Красоўскага**, Юр'я **Захаранкі** і др. выстраіваецца неабыякавымі да іх лёсу людзьмі зь іх партрэтамі і свечкамі ў суцэльны рад пратэстуючых супроць дыктата, нягледзячы на перасьлед і ўціск, пераадольваючы страх.

**Стар.** 16 і 19. * **Гіпакрэна –** у грэчаскай міфалогіі крыніца натхненьня, якая ўзьнікла ад удару капытам крылатага каня **Пегаса** на гары муз **Гелікона.** Музы, якія акуналіся у гэтай фіялетава-цёмнай крыніцы, вадзілі карагоды і спявалі дзівосныя песьні.

**Стар.** 17. * **Суполка** *"Загляне сонца і ў наша ваконца"*– першае легальнае выдавецтва, якое было заснавана ў Санкт-Пецярбургу ў 1906г. па ініцыятыве Вацлава Іваноўскага і выдала 38 кніг агульным тыражом больш за 100 тыс. экз. Кнігі друкаваліся ў пецярбургскай друкарні К.Пянткоўскага. Управа суполкі складалася з семярых яе сяброў: старшыня – Вацлаў Іваноўскі, сакратар – Уладзіслаў Сталыгва і члены – Бр.Эпімах-Шыпіла, Сабіна Іваноўская, Юры Іваноўскі, Вінцэнт Валейка і Уладзіслаў Калашэўскі. Прымалі ўдзел таксама тэатральны дзеяч Ігнат Буйніцкі, культурны дзеяч Антон Грыневіч, мастак Язэп Драздовіч, педагог Антон Трэпка. Грашовыя субсідыі паступалі ад княгіні Магдалены Радзівіл, Эдварда Вайніловіча і інш. Са сьнежня 1909г. сакратаром суполкі працаваў Янка Купала. Суполка спыніла сваю дзейнасьць у 1914г. у сувязі з пераездам В.Іваноўскага і Я.Купалы ў Вільно, дзе яны ўзначалілі Беларускае Выдавецкае Таварыства (БВТ), якое было закладзена 1.07.1913г. і дзейнічала да 1915г. уключна (Ю.Туронак, *"Мадэрная гісторыя Беларусі"*, Вільня, 2006, стар.110-194).

**Стар.** 17. **Веда –** божаства крыніцы зьвестак па сацыяльна-эканамічнай і культурнай гісторыі. Назва яго паходзіць ад назвы ведычнай рэлігіі – помніка старажытна-індыйскай літаратуры, якая афармілася ў кананічных тэкстах (Ведах) у канцы 2-га – 1-й палове 1-га тысячагодзьдзя да н.э.

**Стар.** 17. * **Вузкі шлях –** у часы царскага прыгнёту 1792-19017 змагары за адраджэньне нацыі шукалі слушныя шляхі да абуджэньня мас, паколькі Паўстанні 1794, 1830-31 і 1863-64 не далі жаданага выніку. Гэта былі тайныя таварыствы філаматаў і філарэтаў, якія дзейнічалі ў сьценах Віленскага ўнівэрсітэта ў 1817-23, і літаратурныя таварыствы, якія дзейнічалі як нелегальна ( *"Зговар"*,*"Гоман"*,

*“Круг”, “Грамада”, “Свабода”)*, так і легальна (*“Загляне сонца…”, “Саха”, ”Маладая Беларусь”, “Лучынка”, “Раніца” і др.*) і выдавалі кнігі і часопісы ва ўмовах жорсткай цэнзуры.

**Стар.** 17. * Вацлаў **Іваноўскі** (7.6.1880-1943) – палітычны і грамацкі дзеяч, піянер беларускага выдавецкага руху, які з 1906 па 1915 год выдаў каля 80 кніжак з накладам каля 220 тыс. асобнікаў, прафесар, міністр асветы ва ўрадзе БНР на чале з А.Луцкевічам, у 1943 – старшыня Беларускай рады даверу і намесьнік Беларускага навуковага таварыства ў Менску. 7.12.1943 ён быў забіты ў пад’ездзе свайго дома падасланымі забойцамі. Сёлета –130г. зь дня яго нараджэньня.

**Стар.** 17. * Браніслаў **Эпімах-Шыпіла** (1859-1934) – дзеяч беларускай культуры і выдавец, мова-і літаратуразнавец, прафесар, адзін з заснавальнікаў і заступнікаў выдавецкай суполкі *“Загляне сонца…”* У 1891-1925гг.– супрацоўнік унівэрсітэцкай бібліятэкі ў Пецярбургу, з 1925 па 1929 – рэдактар, а затым старшыня камісіі Інбелкульта па складаньні слоўнікаў жывой беларускай мовы.

**Стар.** 18. * ***“Крывавая нядзеля”*** **–** дзень расстрэлу 9 (22). 01.1905 урадавымі войскамі ў Пецярбургу мірнай маніфэстацыі рабочых, якія хацелі перадаць петыцыю цару Мікалаю II з патрабаваньнямі ўвядзеньня дэмакратычных свабод. Яна стала пачаткам Рэвалюцыі 1905-07 у Расеі.

**Стар.** 18, * **Зарыва –** Маецца на ўвазе рэвалюцыі 1905-07 і лютаўская 1917**.** Кастрычніцкі пераварот 1917, які быў зьдзейсьнены бальшавікамі і празваны затым рэвалюцыяй, нашаму народу дывідэнтаў не прынёс. Надзеі народа на лепшае жыцьцё не спраўдзіліся.

**Стар.** 18. * **Расклад падзей**: На фоне непапулярнай руска-японскай вайны 1904-05 на вялікіх абшарах расейскай імперыі ўзмацніліся рэвалюцыйныя настроі, якія ахоплівалі і заходія губерні, дзе сацыяльныя перадумовы спляталіся з нацыянальным прыгнётам. З мэтай перадухіленьня сацыяльнай напружанасьці 12(25) сьнежня 1904г. цар Мікалай II указам скасаваў абмежаваньні ўжытку мясцовых моваў. Гэта паспрыяла развіцьцю непажаданых ураду тэндэнцыяў распаўсюджваньня нацыянальнай мовы і літаратуры, росту нацыянальнай сьвядомасьці. Адным з такіх кірункаў дзейнасьці ў асяродзьдзі інтэлігенцыі было стварэньне літаратурных суполак па абуджэньню мас. Да указу, як вядома, яны дзейнічалі падпольна (*“Гоман”*-1884, *“Грамада”*-1903, *“Круг”*-1903), а затым і легальна. Першая легальная выдавецкая суполка была створана ў Санкт-

Пецярбургу пад назвай *“Загляне сонца і ў наша ваконца”* ў 1906г., якое праіснавала да 1914г. На частых сустрэчах-“суботніках” у кватэрах В. Іваноўскага і Бр. Эпімах-Шыпілы моладзь заахвочвалася да вывучэньня айчыннай гісторыі, мовазнаўства, літаратуры і інш. галін беларусазнаўства. Так пад апекай Іваноўскага і Шыпілы ў Пецярбургу вырастала сьвядомае пакаленьне народнай інтэлігенцыі – т.н. моладзь Беларусі, якая дала сваё імя часопісу*“Маладая Беларусь”,* а таксама наладзіла ў 1906г. выданьне газет *“Наша Доля” і “Наша Ніва”,* з 1914г.– часопісаў *“Лучынка”,“Саха”,“Раніца” і др.*

**Стар.** 19. * **Асядлалі Пегаса –** Паэтычную і літаратурную дзейнасьць у суполцы пачалі: Янка Журба, Алесь Гурло, Янка Лучына, Алаіза Пашкевіч-Цётка, Якуб Колас, Карусь Каганец (Каз.Кастравіцкі), Вац.Ластоўскі (Власт), Цішка Гартны, Канстанцыя Буйло, Змітрок Бядуля, Элаіза Ажэшка, Алесь Петрашкевіч, Янка Купала і др.

**Стар.** 19. * **Царскі строй:** У выніку лютаўскай 1917 рэвалюцыі царызм быў зьвергнуты. Наш край пачаў адраджацца. 25.03.1918г. Усебеларускі з’езд Трэцяй Устаўной граматай абвясьціў Беларусь незалежнай і свабоднай дзяржавай – Беларускай Народнай Рэспублікай. Але БНР праіснавала толькі да 1.01. 1919г., хаця яго Рада існуе ў нелегальных умовах і цяпер, толькі за рубяжом.

**Стар.** 20. * **Груганьнё –** бальшавіцкая навала, якая захапіла ў 1919г. уладу і на працягу 70-ці год чыніла на нашай зямлі сапраўдны генацыд (правадзіла рэпрэсіі, зьнішчала мову, перакроіла межы), ад чаго народ не можа апамятацца да сучаснага часу.

**Стар.** 21.* “**Скрыжалі**” - паэма пра адраджэньне роднай мовы: У аснову твора пакладзены факты з артыкула кандыдата філалагічных навук Сяргея **Запрудскага** *“Чалавек зь мінулага, або чаму цяжка сьціраць* ***“белыя плямы”*** *ў гісторыі беларускага мовазнаўства”,* змешчанага ў кнізе *“Зь гісторыяй на “ВЫ”* (Менск, 1994). Змагарамі за адраджэньне роднай мовы ў ёй пазначаны вядомыя навукоўцы і грамацкія дзеячы: М.Байкоў (1889-1945), А.Баліцкі (1891-1937)**,** П.Бузук (1891-1937)**,** М.Гарэцкі (1893-1938**)**, М.Дурнаво (1876-1937)**,** Р.Ільінскі (1876-1937), В.Ластоўскі (1883-1938), С**.**Некрашэвіч (1889-1937), Б.Тарашкевіч (1892-1938), А.Цьвікевіч (18783-1937) і Я.**Лёсік** (1883-1940), якія ўладамі за свае погляды да адраджэньня нацыі арыштоўваўся 5 разоў (1905, 1911, 1922, 1930, 1938).

**Стар.** 22. * **Бяда**: Згодна статусу ВКЛ 1588 дзяржаўнай мовай у краіне лічылася ліцьвінская мова – мова нашых продкаў. Але 26

жніўня 1696г. пасля сьмерці караля Польшчы і Вялікага князя ВКЛ Яна III Сабескага (1629-17.6.1696) Канфедэрацыйны сойм прыняў рашэньне аб усталяваньні ў якасьці адзінай мовы ў Рэчы Паспалітай польскай мовы. З гэтага часу родная мова стала паланізавацца. А з 1839г. у сувязі з канчатковай ліквідацыяй уніяцтва, у якім веравызнаньне вялося на роднай мове, яна стала русіфікавацца, пакольkі ў праваслаўі яно вялося і вядзецца толькі на рускай мове.

**Стар.** 22.* **Меч забароны:** Наступ на забарону роднай мовы пачаўся ўжо пасьля 2-га (1793) падзелу Рэчы Паспалітай. Менавіта 22 красавіка 1794г. Кацярына II выдала ўказ "***Об искоренении Унии***" адразу пасьля падаўленьня Паўстаньня 1794. Спачатку яно вялося на "*добраахвотнай*" аснове, але пасьля Паўстаньня 1830-31 "*далучэньне*" ўніятаў да праваслаўнай царквы праводзілася ўжо па ўказу цара Мікалая I ад 25 сакавіка 1839г. прымусова. З гэтага часу імперскі гнёт лёг чорнай плямай на нацыянальную сьвядомасьць народа, якая вынішчалася "*мячом забароны*" (святароў зьнішчалі фізічна) за ўжываньне роднай мовы, каб *"вновь воссоединённый"* народ згодна ідэалогіі *"западнорусизма"* стаў *"истинно русским"*.

**Стар.** 22. * **Дунін-Марцінкевіч** Вінцэнт (1808-84) – "бацька" нацыянальнага пісьменства, класік айчыннай літаратуры (чытай верш "**Дудар анямелага краю**" ў кнізе **"На хвалі Адраджэньня"** на стар. 88).

**Стар.** 22. * **Прарок –** Фр.Багушэвіч (1840-1900) – паэт-дэмакрат (чытай верш "**Дух прарока**" ў кнізе **"На хвалі Адраджэньня"** на стар.45).

**Стар.** 23. * **Суполкі :** Чытай зноску "**вузкі шлях**" да стар.17.

**Стар.** 23. * **Параза царскага стырна** – алегорыя аслабленьня царскага праўленьня ў сувязі з абвастрэньнем руска-японскіх супярэчнасьцей у канцы 19-га – пачатку 20-га ст., зьвязаных з перадзелам сьфер уплыву на Далёкім Усходзе, якія і прывялі к ваеннаму канфлікту. Вайна 1904-05 пачалася 9(22).02.1904 нападам японцаў на Порт-Артур і закончылася поўным паражэньнем рускай арміі, што паскорыла пачатак рэвалюцыі 1905-07. Гэтыя абставіны і вымусілі цара Мікалая II выдаць 12(25).03.1904г. указ, які скасаваў абмежаваньні ва ўжытку мясцовых моў.

**Стар.** 23. * **Суполкі Сонца –** чытай тлумачэньне да стар.17 да суполкі *"Загляне сонца і ў наша ваконца"*.

**Стар.** 23. * ***"Наша Ніва"*** – першая легальная газета, якая выдавалася ў Вільно з 1906 па 1915 і ў 1920 гадах. Галоўныя рэдактары: З.Вольскі(1906), А.Уласаў (1906-14), Я.Купала (1914-15), А.Луцке-

віч, У.Знамяроўскі (1920). З 1991г. газета выдаецца ў Менску. Галоўныя рэдактары: С.Дубавец (1991-2000) і Андрэй .Скурко.

**Стар.** 24. * **Мовазнаўцы** – чытай тлумачэньне да паэмы "**Скрыжалі**"на стар.106 гэтай кнігі.

**Стар.** 24. * **Язэпа зорка:** Навуковая дзейнасць Язэпа Лёсіка на ніве мовазнаўства пачалася з публікацыі ў 1921г. яго "***Практычнай граматыкі***", якую затым у палітычным акружэньні палічылі "*контррэвалюцыйнай*". А шматлікія беларускія падручнікі акадэміка (у 1928г. ён быў зацверджаны акадэмікам Бел.АН), якія выдаваліся неаднаразова ў 20-х гадах, ў 30-х былі канфіскаваны. А ўсе мовазнаўцы яго кшталту былі рэпрэсіраваны як *"злосныя нацдэмаўцы"*. Толькі на схіле 80-х гадоў Лёсік і яго супольнікі па працы былі ўведзены ў актыў беларускай лінгвістычнай навукі.

**Стар.** 24. * "**Граматыка практычная"–** падручнік (чытай вышэй)

**Стар.** 24. * **Пракруст:**– знакаміты волат-разбойнік, які згодна старажытнай міфалогіі сваіх ахвяр на ложках расцягваў ці адпільваў ім канечнасьці да сваіх памераў. Адсюль паходзіць выраз *"пракрустаў ложак"*– штучная мерка, якая не адпавядае сутнасьці з'явы, недарэчныя абмежаваньні.

**Стар.** 25. * **Вета: У** 1933г. была прынята пастанова СНК БССР *"Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу",* пасля чаго была праведзена рэформа, у выніку якой мова згубіла сваю чысьціню і ператварылася ў наркомаўскую"*трасянку*".

**Стар.** 25. * **Пошасць:** У адпаведным сэнсе – напасць, якая прытупляе сьвядомасьць чалавека, трансфармуя яго ў **зомбі**, у выніку чаго нацыя траціць сваю адметнасьць. Пра "**Пошасьці быцьця**" чытай верш у кнізе **"На хвалі Адраджэньня"** на стар. 20.

**Стар.** 26. * **Край вандэйскі –** паходзіць ад назвы гістарычнай вобласьці ў Зах Францыі, якая ў часы Французскай рэвалюцыі 1789-99 была цэнтрам паўстаньняў раялістаў супраць рэспублікі. **Вандэя** – ўвасабленьне контррэвалюцыі ці дзяржаўнага перавароту, які характэрны для нашай краіны.

**Стар.** 26. * **Шаліць бяспраўе:** Як вядома сталінскія рэпрэсіі асабліва маштабна закранулі змагароў за захаваньне роднай мовы і адраджэньне нацыі 1937-38-х. Толькі за ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937г. у Мінскай турме бальшавікі загубілі жыцьці 107 выбітных дзеячаў,у т. л. 22-х мовазнаўцаў. Не затухае бяспраўе і сёньня, прыкладам чамуз'яўляецца ўзвядзеньне рускай мовы ў ранг дзяржаўнай,

што і пашырыла ў побыце *трасянку*, якая зводзіць нацыю.

**Стар.** 27. * **Інтрыжка**: У выніку сфабрыкаванага ўладай рэферэндуму 1995 руская мова атрымала статус дзяржаўнай. У завуаліраванай форме такое дзейства зьмяшчае ў сабе інтрыгу, якая нясе карысьлівыя намеры. Справа ў тым, што наш народ на працягу двух стагоддзяў выракаўся роднай мовы дзякуючы распаўсюджанай ідэалогіяй *"западнорусизма"* ідэі аб аб'яднаньні быццам роднасных па духу нацый у адзіную дзяржаву, якая вітае ў сьвядомасьці рускіх імперыялістаў яшчэ з 15-га ст. і трывала ўкаранілася ў народзе. Менавіта гэтая акалічнасьць і скарыстоўваецца А. Лукашэнкам, каб схіліць рускамоўны лектарат на свой бок на выбарах і прадоўжыць такім чынам ўладу дыктатара дзеля захаваньня свайго права недатыкальнасьці да асобы, як кіраўніка дзяржавы, за нарушэньні правоў чалавека. А яе можна захаваць толькі сілай (арміяй, АМАПам), якая дадаткова падтрымліваецца яшчэ і саюзнымі справамі з шавіністычным па духу дзяржаўным апаратам рускага народа і РПЦ.

**Стар.** 27. * "**Язэпава шынель" –** па сцвярджэньню аўтара вышэй указанага артыкула С.Запрудскага *"культура беларускай мовы, як лінгвістычная дысцыпліна, выйшла зь "Лёсікавага шыняля"*. Як вядома Я.Лёсік бальшавікамі быў аб'яўлены як *"злосны нацдэмаўшчык",* але з мовазнаўчага Алімпа ён астаўся нізрынутым.

**Стар.** 27. * **Мнемасіна –** ў старажытнагрэчаскай міфалогіі багіня памяці, маці 9 муз: навук, паэзіі і мастацтва.

**Стар.** 29. * Ад 25 лютага ў краіне па ініцыятыве паэта і публіцыста Уладзімера Пракопавіча **Някляева** (н.1946, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола 1979 і Дзяржаўнай прэміі Беларусі 1998**)** афіцыйна пачала правадзіцца грамацкая кампанія "**Гавары праўду**!" Мэта: паказаць, што татальная мана стала дзяржаўнай ідэалогіяй. Менавіта яна стварае ўмовы для поўнага зьнішчэння нацыі. Дабіцца праўды пры дыктатуры – занадта цяжка. Яшчэ Якуб **Колас** у часы бальшавіцкага ўціску казаў: "*На сьвеце часта бывае так, што самая простая справа, самая ясная праўда пазнаецца цаной вялікай пакуты – надта цяжкая дарога прыводзіць да такога пазнаньня".*

**Стар.** 29. * **Юродства Сізіфа:** Ў старажытнагрэчаскай міфалогіі Сізіф – цар горада-дзяржавы Карынфа ў Грэцыі, які праславіўся сваімі юродствамі: падманам закаваў у кайданы багіню сьмерці Танатас, дзякуючы чаму ён на нейкі час пазбавіўся царства мёртвых – аіда. Але ж пасьля яе вызваленьня Сізіф усё ж трапіў у аід, дзе за

сваe хітрыкі і злачынствы багамі быў жорстка пакараны: яго прымусілі бясконца каціць на высокую гару вялізны камень, які, дасягнуўшы вяршыні, кожны раз скочваўся ўніз. Таму выраз "***сізіфаў камень***" – цяжкая, марная, бясконцая праца. Метафарычна гэты выраз нагадвае лёс здрадлівай кіруючай асобы.

**Стар.** 29. *** Рада з "грыфам":** Беларускі (кішэнны) парламент, дэпутаты якога выбіраюцца на выбарах фармальна (сакрэтна, з фальсіфікацыяй), каб пусціць у вочы народа пыл, што ў нашай краіне выбары – дэмакратычныя. На самай жа справе заканадаўчай уладай парламент валодае фармальна. Ім прынімаюцца рашэнні (зноў такі: пыл у вочы), толькі па рашэнню прэзідэнта, які менавіта пад сябе і справіў папраўкі да Канстытуцыі 1994 на рэферэндуме 1996.

**Стар.** 29. * **Край даброт:** У выступленьні на БТ 10 ліпеня 1996г. кіраўнік нашай краіны А.Лукашэнка казаў: *"Я своё государство за цивилизованным миром не поведу!",* у якім сумленна акрэсліў жыцьцё *"пластылінавага"* люду з "*чаркай і шкваркай*".

**Стар.** 30 * **На гонях Янак і Якубаў:** Гэтыя імёны найбольш распаўсюджаны на Беларусі. Менавіта іх скарысталі ў сваіх псеўдонімах Янка Купала і Якуб Колас. Яны скарыстаны сімвалічна.

**Стар.** 30. * **Майсеня** Анатоль (4.01.1959-12.11.1996) – палітолаг і публіцыст, які кінуў адкрыты выклік рэжыму, аўтар ідэі правядзеньня Кангрэсу супроць дыктатуры ў абарону Канстытуцыі і напісаў бязьлітасны артыкул *"Беларусь у імгле"*, дзе падвёў вынікі першых двух гадоў кіраваньня Лукашэнкі. У 1996-м за гэтую публікацыю Беларуская асацыяцыя журналістаў прысудзіла Анатолю прэмію ў намінацыі "найлепшы аналітычны матэрыял". Галоўнай справаю яго жыцьця быў ім створаны незалежны Нацыянальны цэнтар стратэгічных ініцыятываў **"Усход – Захад"**, дзе кантактавалі прадстаўнікі Еўропы, НАТА і Беларусі. Праз год пасьля яго сьмерці для журналістаў была ўсталёвана прэмія яго імені. У ракавым лістападзе 1996 Майсеня езьдзіў на канферэнцыю ў Рым. Пры вяртаньні непадалёку ад роднай вёскі на 286-ым кіламетры трасы Брэст-Менск яго аўтамабіль сутыкнуўся з ГАЗ-53. Вінаватым дарожнага здарэньня супрацоўнікі Стаўбцоўскага РАУС прызналі Майсеню. Аднак, згодна высновы былога следчага і былога міністра ўнутраных спраў Юры Захаранкі, якія прыехалі адразу пасьля аварыі на месца катастрофы, гэта было – забойства. Так новая ўлада "ўбрала" ўплывовага апанента. Праз два тыдні адбыўся сумна вядомы рэфе-

рэндум. Сам жа Майсеня пры апошняй размове з сястрой Людмілай сказаў:*“Хутка рэжым поўдзе ва-банк, і ў мяне ёсьць звесткі, што першым, каго яны знішчаць, буду я.”* І сапраўды, за Майсеняй бясследна зьніклі Юры Захаранка (7.05.1999), Віктар Ганчар і Анатоль Красоўскі (16.09.1999), Зьміцер Завадзкі (7.07.2000) і другія.

**Стар.** 31. * **Сварог**:Згодна старажытнай міфалогіі ўсходніх славян – галоўнае божаства неба, нябеснага супакою. Паводле міфа ён злучыў неба і зямлю маланкай, навучыў людзей каваць жалеза.

**Стар.** 32. * Б.У.**Кіт:** акадэмік сусьветнай акадэміі астранаўтыкі, доктар філасофіі ў галіне матэматыкі, прафесар, сапраўдны “кіт” амерыканскай астранаўтыкі, аўтар першага ў гісторыі падручніка па ракетных палівах. Яго жыцьцёвыя шляхі-дарогі пачыналіся з Беларусі. Яго Бацькаўшчына – вёска Агароднікі Карэліцкага раёна. Ён вучыўся Ў Наваградскай гімназіі, Віленскім універсітэце імя Стэфана Баторыя, актыўны ўдзельнік Сялянска-работніцкай грамады, выкладчык матэматыкі, дырэктар Віленскай, затым Наваградскай беларускіх гімназій, Адміністрацыйна-гандлёвага інстытута ў Маладзечна. Лёс затым яго закінуў у США. Цяпер жыве ў Германіі.

**Стар.** 33. * **Рэальныя імёны:** паводле слоў аўтара трылогіі “*Пакутны век*”, яна *“вынашана і выпакутавана ўсім жыцьцём”,* зрэшты, не толькі яго асабістым. *“Героі твора – прыхільнікі беларускай ідэі, якія стаяць перад выбарам: страціць па “ўласнай ахвоце” свае этнічныя карані і растварыцца ў сьвеце шырокім, альбо жыць жыцьцём народа і нацыі, дбаючы пра росквіт яе”.* Аўтар знаёміць нас: з Марыяй **Раманавічанкай** (Дзямковіч), якая нарадзілася ў вёсцы Моталь на Піншчыне ў 1929г., жыве і працуе ў США; з Барысам **Кітом**, які нарадзіўся 6 красавіка 1910г. у Санкт-Пецярбургу, але да 1944г. жыў і працаваў на Беларусі ў розных іпастасях, актыўным ўдзельнікам беларускага нацыянальнага руху, у канцы 40-х – грамадзянінам США, дзе праславіўся як аўтар і вынаходзец у ракетнай тэхніцы і ракетным паліве, з 1972г. жыве ў Франкфурце-на-Майне; з Раманам **Скірмунтам** (7.05.1868-7.10.1939) – ураджэнцам в.Парэчча на Піншчыне, змагаром за адраджэньне нацыі ў расейскім урадзе, мог стаць першым прэзідэнтам БНР у 1918г.; з Радаславам **Астроўскім** (1887-1976) – палітыкам і дзеячам нацыянальна-вызвольнага руху пач. ХХст., удзельнікам Слуцкага паўстаньня 1920, жыў у Германіі і США; з Ларысай **Генію ш** (9.08.1910-7.04.1983) – паэтэсай і празаікам, Генэральным сакратаром БНР, за што ў 1949г.

была асуджана бальшавікамі на 25 гадоў і толькі ў 1956г.была вызвалена, але да нашых дзён не рэабілітавана, застаецца маральным лідэрам незалежнага беларускага грамацтва 1960-80-х; з Васілём **Захаркам** (1877-1943) – ураджэнцам Зэльвенскага р-на, палітыкам, удзельнікам нацыянальна-вызвольнага руху пач. XX ст., дзеячом даваеннай эміграцыі, старшынёй Рады БНР у 1928-43г. У эпізодах праходзяць: Натальля Арсеньнева, Іосіф Сталін, Адольф Гітлер, Нікіта Хрушчоў, Вільгельм Кубэ і др.

**Стар.** 33. * **Юдоль зямная – ж**ыццё з яго клопатамі і смуткам. Асабліва красамоўна выказаў сваё рэзюме да зямной юдолі, асьвечанай у трылогіі, адзін з яго герояў Барыс **Кіт**: *"Сваёй кнігай* /аўтар/ *дасягнуў вяршынь літаратурнай вартасьці. Я лічу, што гэты твор можна прыраўняць да гэтакіх вядомых у сьвеце твораў, як славутая трылогія Генрыка Сянкевіча "Агнём і мячом", "Патоп", "Пан Валадыеўскі", а таксама Льва Талстога "Вайна і мір", якія добра адлюстроўваюць гістарычныя эпохі сваіх народаў. Таксама і "Пакутны век" па-мастацку адлюстроўвае гісторыю беларускага народа, пачынаючы з другой паловы XIX ст., асабліва падзеі, якія адбываліся на Беларусі падчас нямецкай акупацыі ў 1939-44 гадах. Вельмі важна, што ў сваіх творах наш пісьменнік адзін з першых, які падае сапраўдныя факты, не зьмененыя ніякай палітыкай, што сапраўды зьдзейснена".*

**Стар.** 35. * **Трагедыі**: Адным з арганізатараў палітычных рэпрэсій у 1930-50-х гадоў быў В.М.Молатаў. Ад імя савецкага ўрада ён падпісаў савецка-германскі дагавор аб дружбе і ненападзе ад 23.08. 1939 (Пакт Рыбэнтропа-Молатава 1939) і сакрэтныя пратаколы ад 28.09. 1939, згодна якіх ад Польшчы землі Зах.Беларусі адыходзілі да БССР, а захопленыя ў палон (у сувязі з ваеннымі дзеяннямі з 17 верасня) войскамі СССР 240 тыс. жаўнераў Войска Польскага папоўнілі сталінскія лагеры, а 25727 чал. – былі расстраляны. Адным з такіх месцаў быў катыньскі лес пад Смаленскам. *"Іх забілі,* – як хацеў сказаць у Катыні прэзідэнт Лех Качыньскі, – *пагарджаючы законамі і звычаямі цывілізаванага сьвету, растаптаўшы іх годнасьць – салдацкую, польскую, чалавечую... Катынь стала балючай ранай у гісторыі Польшчы і на працягу многіх дзесяцігодзьдзяў атручвала стасункі паміж палякамі і расейцамі. Давайце ж зробім усё, каб рана Катыні нарэшце загаілася... Хлусьня пра Катынь мусіць назаўжды зьнікнуць з грамацкай прасторы".* Менавіта туда

напраўлялася польская дэлегацыя ў колькасьці 88 чал. на чале зь ім, каб ушанаваць памяць загінуўшых суайчыньнікаў ад рук расейскага імпэрскага рэжыму ў сувязі з 70-й гадавінай іх расстрэлу, які да нашых дзён трымаўся ў сакрэце. Але пры неспрыяльных пагодных умовах самалёт, што ішоў ужо на пасадку, пры падлёце зачапіў верхавіны дрэваў і рухнў за агароджай аэрадрома непадалёку ад узьлётнай паласы. Усе члены дэлегацыі разам з экіпажам (96 чал.) загінулі. Гэтая катастрофа ўскалыхнула душы ўсяго чалавецтва.

**Стар.** 37. * Анатоль **Белы** (10.12.1939-14.11.2011, Ст. Дарогі) скончыў БДУ (1967), быў старшынёй грамацка-асьветніцкага клуба "*Спадчына*"(1984), сябрам Саюза мастакоў Беларусі, сябрам Саюза беларускіх пісьменьнікаў, прафесарам і дыпламантам Міжнар-га Кембрыджскага цэнтра ў Англіі, сябрам Міжнар-ай Акадэміі Еўразіі, адзін з заснавальнікаў і Ганаровы сябар рэдкалегіі беларуска-амерыканскага часопіса "Полацк" у Кліўлендзе. На аснове створанай ім калекцыі твораў жывапісу, графікі, скульптуры, медальернага і дэкаратыўнага мастацтва (каля 5000 адзінак) стварыў прыватны музей, які разьмяшчаецца ў 8 тэматычных залах 4-х будынкаў. У экспазіцыі прадстаўлены партрэты князёў, палкаводцаў, гетманаў, палітычных, дзяржаўных, рэлігійных, культурна-асьветніцкіх дзеячоў Беларусі і яе дыяспары, батальтныя карціны, краявіды, помнікі дойлідства, гарады і замкі Беларусі, бюсты і медалі, зробленыя ў гонар выбітных дзеячоў Бацькаўшчыны. Ён удзельнік Устаноўчых з'ездаў Беларускага народнага фронту, Таварыства беларускай мовы імя Фр.Скарыны і ініцыятар цэлага шэрагу ініцыятыў па адраджэньню роднай мовы і захаваньню культурнай спадчыны роднага краю, да якой зьдзекліва адносіцца сучасная ў краіне ўлада.

**Стар.**39.* **На зары ўзвышэньня Свабоды:**Час, калі ў жніўні 1991 рухнула "жалезная заслона" і распаўся Савецкі Саюз: 8.12.1991 у рэзідэнцыі ўрада бліз хутара Віскулі Пружанскага р-на кіраўнікамі Беларусі (С.Шушкевіч і В.Кебіч), Расеі (Б.Ельцын і Г.Бурбуліс), Украіны (Л.Краўчук і В.Фокін) былі падпісаны **Белавежскія пагадненьні.** Яны канстатавалі, што СССР як суб'ект міжнароднага права і геапалітычная рэальнасьць спыняе сваё існаваньне. Краіна дабілася незалежнасьці. Дэкларацыі аб сувэрэнітэце краіны ў жорсткай барацьбе з прыхільнікамі савецкага (рабаўніцкага) вобразу жыцця быў нададзены статут Канстытуцыйнага закону. Але ў ноч на 12 красавіка 1995г. у выніку здрады партакратаў пад кіраўніц-

твам шклоўскага “дэмакрата” А.Лукашэнкі пры падтрымцы маскоўскіх дарадцаў (гісторыі здрадніцтва ў 1793-м і 1919-м гадах паўтараюцца) быў зьдзейсьнены сілавы разгон парламента з далейшым правядзеньнем праз рэферендумы 1995 і 1996 канстытуцйынага перавароту і ўстанаўленьня манархічнага ладу. Для краіны настаў скрушны час маны, страху, здрады і маразма.

**Стар.**39. * “**Чарнабыль**”– алегорыя улады падаўленьня свабод і правоў з наступствамі з’яў ад катастрофы ў Чарнобылі. Сведчаньнямі яе з’яўляюцца фабрыкацыі па надуманым прычынам судовых працэсаў над апанентамі улады, зьнікненьне вядомых палітыкаў і др. На працягу кароткага часу ў другі сьвет па волі д’ябла сышлі Анатоль Майсеня, Юры Захаранка, Віктар Ганчар, Анатоль Красоўскі, Генадзь Карпенка, Дзіма Завацкі, Васіль Гроднікаў, Вераніка Чаркасава і другія (каля 30 чал.). Беспадстаўна асуджваліся Алякдар Казулін, Міхаіл Чыгір, Мікола Аўтуховіч і др.

**Стар.** 39. * **Справа заказу ў судзе:** На мітынгу агучвалася адна з заказных судовых спраў улады, якія фабрыкуюцца каб трымаць народ у страху, над ваўкавыскім прадпрымальнікам М.Аўтуховічам. Яго паказаньні раскрывалі “крышаваньне” бізнесу чыноўнікамі ад ўлады, на чым яна і трымаецца,– карупцыю ў верхніх яго эшалонах. А асуджваўся ж ён за падрыхтоўку тэрарыстычных актаў (пракурор патрабаваў 20 гадоў зняволеньня), якія ў выніку судовага разбірацельства рассыпаліся на вачах. Пасол Швецыі Стэфан Эрыксан, які прысутнічаў у залі суда, так пракаментаваў вердыкт**:** *“Для мяне важна, што зьнялі самыя цяжкія абвінавачаньні – ў падрыхтоўцы тэракта. Засталося толькі абвінавачаньне ў незаконным захоўваньні зброі, а яно трымаецца толькі на падставе паказаньняў, якія суд прызнаў супярэчлівымі. І ўсё ж падаецца, што пяць гадоў зьняволеньня за такое абвінавачаньне – вельмі вялікі тэрмін”*.

**Стар.** 39. * **“Атамастрой”–** дзяржаўная ўстанова па збудаваньню Астравецкай атамнай станцыі, супроць узьвядзеньня якой выступаюць вядучыя спецыялісты ў атамнай энергетыцы, у тым ліку і член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі прафесар Іван **Нікітчанка** – старшыня сацыяльна-экалагічнага грамацкага аб’яднання “*Цэнтр падтрымкі чарнобыльскіх ініцыятыў*”

**Стар.** 39. * **“Паказная драбяза”:** Рознага роду дробныя, ня вартыя ўвагі, ўчынкі, якія зьдзяйсняюцца кіраўніком улады з паказам праз дзяржаўныя СМІ з мэтай, каб запусьціць пыл у вочы талеран-

тнаму (цярпліваму) народу, замбіраванага маной і зацятага прагматычнымі з'явамі "*чароўнага жыцьця*" з чаркай і скваркай без вайны, каб выдушыць зь яго сьлязу і, на ўсякі выпадак, каб ён не адмовіў яму ў шклянцы малака ці ў кавалку хлеба, і, такім чынам, схіліць да сябе электарат на выбарах, якія маюць скора адбыцца.

**Стар.** 41. * **У зарніцах сусьветнай вайны**: У полымя Першай сусьветнай вайны (1914-18) было ўцягнута 38 дзяржаў з насельніцтвам больш за 1,5 млрд. чалавек. Нацыянальныя меншасьці дзяржаў-удзельніц вырашалі сваё пазбаўленьне ад ярма насільля. Выканаўчы камітэт Рады Ўсебеларускага з'езда Першай Устаўной граматай 20.2.1918 абвясьціў сябе ўладай на Беларусі да скліканьня на дэмакратычных началах Устаноўчага сходу. Быў створаны першы ўрад Беларусі на чале з Я.**Варонкам**. 9 сакавіка Другоя Устаўная грамата абвясьціла Беларусь **Беларускай Народнай Рэспублікай**. А на Ўсебеларускім з'ездзе 25 сакавіка 1918г. Трэцяй Устаўной граматай яна ў цяжкіх умовах змаганьня за край паміж Расеяй і Польшчай абвяшчалася незалежнай і свабоднай дзяржавай.

**Стар.** 41. * **Кар'ера дзялка:** Ва ўмовах імперскага засільля бальшавікі не грэбавалі ніякімі сродкамі, каб прыгнесьці народ і задушыць усякія праяўленьні свабоды і нацыянальнай годнасьці, учыняючы рэпрэсіі пад рознымі маркамі змаганьня з варожымі антысавецкімі элементамі. У асяродку мас амаль кожны другі, каб стварыць сабе кар'еру, даваў згоду органам НКУС быць даносчыкам. Дзякуючы такой ганебнай справе, толькі за годы сталінскіх рэпрэсій 1917-53 было расстраляна і вывезена ў лягеры ГУЛАГа каля 1,8 млн. чал. (Ю.Туронак *"Мадэрная гісторыя Беларусі"*, Вільня, стар. 681).

**Стар.** 41. * **Нігілізм:** У выніку ўсеагульнага двухвекавога насаджэньня ідэалогіяй "*западнорусизма*" рускамоўя, пастулат якога палягае на непрызнаньні самастойнасьці нашага народа і на індэнтычнасьці этнасу нібыта роднасных нацый, народ амаль не карыстаецца ў побыце гаворкай на роднай мове і нацыя паступова губляе свой твар, выпрацаваўшы своеасаблівы нігілізм да мовы – адрачэньне ад мовы (чытай нататку "**Мова - твар нацыі**" на стар. 95).

**Стар.** 41. * **Нацдэмы** – нацыянал-дэмакратычная плынь у грамацка-палітычным жыцьці за ажыцьцяўленьне гуманістычных ідэалаў сацыяльнай справядлівасьці, дэмакратыі і свабоды, увасабленьнем якой у 20-х гадах на Беларусі была *беларусізацыя*, і якая бальшавікамі была аб'яўлена "*контррэвалюцыйнай плыньню*" ці "*варожай*

*антысавецкай ідэалогіяй*". Супраць яе органамі НКУС была ўзбуджана справа аб т.зв. "*Саюзе адраджэньня Беларусі"*, па якой неабгрунтавана зьнішчаліся лепшыя прадстаўнікі інтэлігенцыі, навукоўцы і дзяржаўныя дзеячы: Усевалад Ігнатоўскі, Язэп Лёсік (чытай паэму "**Скрыжалі**" на стар.21-27), Антон Луцкевіч (чытай верш "**У віры інтрыг**" на стар.82 у 1-й кнізе), Аркадзь Смоліч (чытай "**Баладу пра кніжку**" на стар.79 у 1-й кнізе), Вацлаў Ластоўскі (чытай баладу "**Роўнасьць**" на стар.45), Фабіян Шантыр, Паўлюк Шукайла, Адам Станкевіч, Аляксандар Цьвікевіч і мн. др. змагары за адраджэньне Духу нацыі, дастойныя памяці.

**Стар.** 41.* **Аскетызм:** Праяўленьне ў патомкаў якасьцей "*зомбі*", не ўласцівых шчырым продкам, якія ганьбяць нацыянальную сутнасьць такімі прыкметамі часу як: добраахвотнае адмаўленьне ад матэрыяльных даброт аў, страта нацыянальнага патрыятызму, прысутнасьць нігілізму – адрачэньня ад роднай мовы і інш.

**Стар.** 42. * **Закон**: 26.01.1990г. Вярхоўны савет БССР XI скліканьня прыняў "*Закон аб мовах*", які павінен быў спыніць татальную русіфікацыю Беларусі. Ён стаў юрыдычнай базай для пашырэньня беларускай мовы. Ва ўсіх сьферах жыцьця краіны з 1990 па 1995 беларускамоўных выданьняў было надрукавана больш, чым за папярэднія чатыры стагодзьдзі. У сярэдніх школах у 1995г. навучалася па-беларуску ўжо больш за 75% вучняў. 15 сакавіка 1994г. першая Канстытуцыя Беларусі абвясьціла беларускую мову адзінай дзяржаўнай мовай нашай краіны. Але пасьля сумнеўнага рэферэндуму 1995 сітуацыя рэзка зьмянілася. Замест таго, каб сапраўды стварыць умовы для раўнапраўнага ўжываньня беларускай і рускай моў, улада ў 1998г. унесла ў Закон аб мовах такія папраўкі, якія практычна скасавалі вынікі рэферэндуму і дазволілі зноў распачаць татальную русіфікацыю, асабліва ў сьферах адукацыі і дзяржаўнага кіраваньня. Сёньняшняя колькасьць навучэнцаў, якія атрымліваюць базавую і сярэднюю адукацыю на беларускай мове, складаюць 18%, і, такім чынам, яна апусьцілася ніжэй за 20% – за мяжу выжывальнасьці мовы, вызначаную ЮНЕСКА.

**Стар.** 42 * **Таварыства: "***Таварыства беларускай мовы*" – добраахвотная грамацкая арганізацыя заснавана 27 чэрвеня 1989г. у Менску. Старшыні: паэт Ніл Гілевіч, з 1997 – паэт Генадзь Бураўкін, з 1999 – гісторык Алег Трусаў. ТБМ праводзіць тытанічную працу па зьберажэньню роднай мовы. Яна з'яўляецца заснавальнікам Бела-

рускага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа, газэт "*Наша Слова*" і "*Новы Час*". На розным узроўні праводзяцца навукова-практычныя канферэнцыі і тэатральныя пастаноўкі тыпу "*Зьніч*", зьдзяйсняюцца праекты ў стылі рэдакцыйна-выдавецкіх установ "*Верасьнянка*" і "*Дыялог*", кампаніі тыпу "*Дыктоўка*" і "*Будзьма*" і інш. Адной з жыцьцясьцвярджальных кампаній стаў "*Зварот Інстытута нацыянальнай памяці ў падтрымку роднай мовы*" (каардынатар: пісьменьнік Васіль **Якавенка,** чытай пасланне кіраўніку дзяржавы на стар. 94 і нататку на стар. 96).

**Стар.** 43. * **Лёс ліцэя:** На паседжаньні рады "*Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны*" Савецкага р-на Менска пад старшынствам А.Трусава 15.01.1990 г. было прынята рашэньне аб стварэньні беларускага гуманітарнага ліцэя як нядзельнай навучальнай ўстановы пазакласнага тыпу. Але ў 2003г. ён быў зачынены і ад тых часоў працуе ў падпольных умовах як Нацыянальны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа. За гэты час яго скончылі каля 700 чал. Як адзначае яго нязьменны кіраўнік Ул-мер **Колас,** ліцэй стаў *пілоцкай школай* па выпрацоўцы канцэпцыі нацыянальнай адукацыі, у рамках якой былі створаны болей чым 50 навучальных праграм, а таксама шэраг падручнікаў. Ён стаў, такім чынам, альтэрнатывай той другаснай ролі, якая адводзіцца беларускай мове і нацыянальнай самаідэнтыфікацыі ў дзяржаўнай сістэме сярэдняй адукацыі. Нягледзячы на вымушаную апазіцыю да сістэмы адукацыі, у шэрагу краін Еўропы менавіта Беларускі гуманітарны ліцэй прадстаўлены як адзіная недзяржаўная ўстанова з навучаньнем на роднай мове. Гэта адна з выяў, чаму выпускнікі ліцэя маюць магчымасьць працягваць навучаньне практычна ва ўсіх установах сьвету.

**Стар.** 44 * **Караткевіч** Уладзімер Сямёнавіч (г.Орша, 1930-84) дэбютаваў як паэт зборнікамі"*Матчына душа*" і"*Вячэрнія ветразі*", а раскрыўся як пісьменьнік праз рамантычнае, фальклорна-легендарнае асэнсаваньне мінуўшчыны, паэтызуючы гісторыю. Адным з такіх твораў, паклаўшых пачатак беларускай гістарычнай раманістыцы, стаў раман ***"Каласы пад сярпом тваім."***

**Стар.** 44. * ***"Каласы пад сярпом …"***– раман пра паўстаньне 1863-64, ідэйным кіраўніком якога і натхняльнікам на барацьбу за незалежнасьць Бацькаўшчыны ад рускага імперскага ярма, за адраджэньне Духа нацыі быў Кастусь Каліноўскі. Гэтай тэме пісьменнік прысьвяціў і драму "*Кастусь Каліноўскі*". Многія другія творы

пісьменьніка папоўнілі нашу культурную спадчыну і ўзбагацілі нашу памяць каштоўнымі дасягненьнямі, зрабіўшы вялікі ўплыў на духоўнае жыцьцё народа і грамацкую сьвядомасьць.

**Стар.** 45. * **Урад вырашальных падзей:** Першы ўрад Беларусі – **Народны сакратарыят Беларусі** на чале з Я.Я.Варонкам – быў зацьверджаны 21.2.1918 Першай Устаўной граматай Выканкомам Рады Ўсебеларускага з'езда, якая 18.3 1918 у сувязі з падпісаньнем 3.3.1918 у Брэст-Літоўску пагібельнага для беларускай нацыі Брэсцага міру (землі як **разьменная манета** былі падзелены паміж 5 дзяржавамі: Германіяй, Расеяй, Украінай, Літвой і Латвіяй) і павышэньнем незалежніцкіх тэндэнцый была ператворана ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, якая **25**.3.1918 Трэцяй Устаўной граматай абвясьціла сябе незалежнай і свабоднай дзяржавай. Але незалежная Беларусь не адпавядала інтарэсам гэтых дзяржаў, якія і стрымлівалі яе прызнаньне. Пачаліся пошукі для вырашэньня праблем. Шляхі іх рэалізацыі прывялі да крызісу ва ўрадзе. У маі 1918 была створана "**Рада пяцёх**" на чале з Варонкам, якая бачыла будучыню Беларусі "толькі пад апекай германскай дзяржавы", а правыя – у адказ – стварылі новы ўрад БНР на чале са Р.Скірмунтам, якія бачылі краіну ў саюзе з Расеяй. Нарэшце 22 ліпеня быў створаны кааліцыйны ўрад на чале з І.Серадой. Старшынёй Рады стаў Я.Лёсік. У краіне пачаліся нацыянальныя пераўтварэньні: працавалі выдавецтвы, выходзілі беларускія газеты, ствараліся культурна-асьветніцкія таварыствы, тэатральныя калектывы, быў узаконены бел-чырвона-белы сьцяг і герб "Пагоня". Летам былі адкрыты консульствы БНР на Украіне і ў Літве. 11.10.1918 Рада зацьвердзіла часовую Канстытуцыю. Але пасьля паражэньня Германіі і адыходу немцаў сітуацыя зьмянілася. Рада была вымушана перабрацца 10 сьнеж. ў Вільно (8 сньеж. была абвешчана Літоўская ССР), а затым – у Гродна (лічылася сталіцай БНР да верасьня 1919, пакуль Рада не вярнулася ў Менск). На чале ўрада стаў дзеяч беларускага руху А.Луцкевіч. Народны сакратарыят быў перайменованы ў Раду Народных Міністраў. Але гэтым надзеям не суджана было зьдзейсьніцца. Намаганьнямі Масквы спешна было праведзена "волевыяўленьне народу" і 1.1.1919 быў створаны ўрад БССР на чале з З.Жылуновічам (Ц. Гартным)., якого затым бальшавікі ў 1937г. у шпіталі для псіхічна хворых адправілі ў іншы сьвет.

**Стар.** 45. * **Гідры імперскіх амбіцый**: Пасля заканчэньня Першай сусветнай вайны (1914-18) і капітуляцыі Германіі (умовы Брэс-

цкага міру былі скасаваны) імперскія амбіцыі па захвату беларускіх зямель праявіліся ў кіруючых колаў Расеі і Польшчы. У лютым 1919 пры падтрымцы краін Антанты і ЗША польскія войскі пачалі ваенныя дзеянні ў 2-х напрамках (Вільно-Ліда і Баранавічы-Менск) з мэтай далучэньня да Польшчы "*крэсаў усходніх*". Урад Расеі, заяўляючы пратэст, мабілізоўвала сілы на ваенныя дзеяньні. У часьцях Чырвонай Арміі было больш за 100 тыс. ураджэнцаў Беларусі. Пасьля крупных *Майскай (14 мая-8 чэрв.), Ліпеньскай (4-23ліп.)* і *Варшаўскай (23 ліп.-25 жн) аперацый 1920г.* у Рызе 18.оз.1921 паміж Расеяй і Польшчай была падпісана мірная дамова без удзелу прадстаўнікоў нацыі, згодна якому Беларусь была падзелена на дзьве часткі паміж Польшчай і Расеяй: заходняя – ў складзе Рэчы Паспалітай у якасьці "ўсходніх крэсаў", а ўсходняя – за БССР. Супроць яго падпісаньня пратэставала кіраўніцтва БНР пад старшынствам В.Ластоўскага.

**Стар.** 45. * **Пад іменем розным**: В.Ластоўскі друкаваўся з 1909г. пад рознымі псеўдонімамі: Власт, Арцём Музыка, Сваяк, Юры Верашчака, Пагашчанін, Ю.Сулімскі і інш.

**Стар.** 45. * ***"Кароткая гісторыя Беларусі"***– навуковая праца (1910, перавыд.1992) В. Ластоўскага, у якой канцэптуальна абагульняліся невядомыя і фальсіфікаваныя факты пра мінулае краіны з погляду ўласна-нацыянальнай гісторыі.

**Стар.** 46. * ***"Крывіч"*-альманах**: В.Ластоўскі, працуючы ў Міністэрстве беларускіх спраў у Літве (1923-27**),** надрукаваў некалькі падручнікаў па беларускай мове, выдаў *"Падручны расейска-крыўскі (беларускі) слоўнік", "Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі",* выдаваў часопіс "***Крывіч***" і інш.

**Стар.** 46. * **Скарацiць мовазнаўчы актыў:** Органы НКУС, праводзячы палітыку "*западнорусизма*"– татальнага зьнішчэньня беларускай нацыі, аб'явіла змагароў за нацыянальнае адраджэньне "*контррэвалюцыйнай плыньню*" ці "*варожай антысавецкай ідэалогіяй".* У выніку рэпрэсій была разгромлена Бел.АН і большая частка Саюза пісьменьнікаў Беларусі. Кульмінацыяй расправы над інтэлігенцыяй у 1930-31 была сфабрыкавана справа "*Саюз адраджэньня Беларусі*", па якой было рэпрэсіравана 108 чал. Другая хваля расправы над прадстаўнікамі навукі, літаратуры, мастацтва і работнікамі наркаматаў была зьдзейсьнена ў 1937-38. Толькі за адну ноч з 29 на 30 кастр-ка 1937 у Менскай турме было расстраляна 107 чал.

А ўсяго за 2 гады было рэпрэсіравана каля 600 тыс. чалавек. (Чыт. "**Пакаяньне**. Злачынствы камуністычнага рэжыму і антыкамуністыч-ны супраціў у дасьледаваньнях, дакументах і сведчаньнях", Менск, 2007).

**Стар.** 44. * **Інбелкульт**: З 1927г. В.Ластоўскі працаваў правадзейным членам Інбелкульта, а з 1928г. – неадменным сакратаром Бел.АН. За публікацыю артыкула Яна Станкевіча *"Дыспалаталізацыя ў беларускай мове"* ён у 1929г. вызваляецца з пасады сакратара, а ў 1930г. пазбаўляецца званьня акадэміка і арыстоўваецца.

**Стар.** 46. * **Міф-зьдзелкі:** міфічныя справы*"Саюз адраджэньня Беларусі"* і *"як агент польскай разведкі і удзельнік нацыянал-фашысцкай арганзацыі"* былі сфабрыкованы органамі НКУС, згодна якім В.Ластоўскі па 1-му абвінавачаньню ў 1931г. быў асуджаны на 5 гадоў, а па 2-му ў 1938г.– расстраляны. Рэабілітаваны быў па 2-му – ў 1958г., а па 1-му – толькі ў 1988г.

**Стар.** 46. * **Нацый роўных ідэя:** Беларуская нацыянальная ідэя, у аснове якой ляжыць змаганьне за дзяржаўны суверэнітэт і захаваньне сваіх этнакультурных каштоўнасьцей. Яна ўзьнікла яшчэ з часу падпісаньня Люблінскай Уніі 1569, паклаўшай пачатак існаваньню федэратыўнай дзяржавы Рэчы Паспалітай як аб'яднаньне абодвух народаў супроць зьнешніх ворагаў, дзе ВКЛ паступова заганялася ў кут. Гэту тэму яскрава раскрыў у брашуры *"Беларуская ідэя ў постацях і зьдзяйсненьнях"* (Мінск,2001) руплівец адраджэньня родных вытокаў апостал Духа нацыі Леанід **Лыч**, якому я прысьвяціў верш "*Сэнс жыцьця*" (у 1-й кнізе зб. твораў на стар.84). На шляху адраджэньня нацыянальнай ідэі працуюць: галоўны рэдактар газеты "*Новы Час*" Алесь Кароль, старшыня "*ТБМ імя Фр. Скарыны*" Алег Трусаў, старшыня клуба "*Спадчына*" Анатоль Белы і многія другія.

**Стар.** 47. * **Ступені свабоды**: У механіцы – незалежныя паміж сабой рухі (перамяшчэньні) адзінак механічнай сістэмы, абумоўленыя іх сувязямі (налічваецца **6 ступеней**: тры паступальныя рухі ўздоўж кожнай з трох восей каардынат і тры врашчальныя рухі вакол нерухомага цэнтра ў кожнай зь іх), якія праграмна накладваюцца на азначаны рух. У грамацтве таксама можна назіраць гэтыя ступені кожнага яго члена ў залежнасьці ад яго сацыяльнага становішча, абумоўленага законамі разьвіцьця. Вось яны: **шостая** (найвышэйшая) ступень – у мацярынскага зародка ва ўлоньні Ярдана, **пятая** – ў дзіцяці ў межах калыскі, **чацьвёртая** – ў дзіцяці ў садку ці навучальнай установе, дзе ён пачынае адчуваць за сабой

кантроль за выкананьнем правіл паводзін, **трэцяя** – ў асобы, дзеяньні якога абмяжованы абавязкамі на працы і адносінамі да саюза, **другая** – ў дэпутата ці прэзідэнта, якія сваім статутам і паводзінамі заганяюць сябе ў куток, і, нарэшце, **першая** – ў зьняволенага, які сваім трызьненьнем ці звадай заганяе сябе за краты. Нулявая свабода – гэта цела, ад якога аддзяліўся дух. Ён, у сваю чаргу, яднаецца з інфармацыйным полем космасу і ўдзельнічае ў прадаўжэньні жыцьця. Наступіць час, калі гэты дух пяройдзе з раю ў лона Ярдані і пачне свой новы круг знаёмства са ступенямі свабоды свайго існавньня

**Стар.** 48. * **Уласаў** Александар Мікітавіч (1874-1941) – грамацкі і культурны дзеяч, публіцыст і выдавец, адзін з арганізатараў *Беларускай Сацыялістычнай Грамады*, член яе ЦК, дэлегаг *Усебеларускага з'езду 1917,* у красавіку 1917 кааптаваны ў склад Рады БНР, пасьля падзелу краю ў лістападзе 1922 абраны ў польскі сойм, арганізатар і адзін з кіраўнікоў *Таварыства беларускай школы,* пад яго апякунствам дзейнічала ў 1922-29 *Радашковіцкая беларуская гімназія*, жыў у сваім маёнтку ў Мігаўцы Маладзечанскага павета ў Зах. Беларусі да арысту органамі НКУС у 1939г.

**Стар.** 48. * **Аўлас – дзейны галоўком:** Аўлас ці Ўлас – так называлі Уласава яго саратнікі па партыі і мясцовыя жыхары за яго прыстойнасьць і дабразычлівасьць. У 1916г. разам з аднадумцамі (братамі І. і А.Луцкевічамі, В.Іваноўскім, А.Пашкевіч-Цёткай, С.Вольскім, І.Тукеркес, З.Вольскім і інш.) выдаваў у Вільні газэту "*Наша Доля*", а пасьля яе закрыцьця – "***Нашу Ніву",*** дзе з 1906 па травень 1914 быў яе галоўным рэдактарам. Са сьнежня 1908 да 1911 – адзін з арганізатараў кнігавыдавецкага таварыства ў Вільні "**Наша Хата**". І там жа ў 1912г. наладзіў выданьне час. "**Саха**", а ў 1914г.– краязнаўчага часопіса для бел. моладзі "**Лучынка**".ў Менску.

**Стар.** 48. * **Санцацвет:** Рэдактарамі аддзелаў газэты *"Наша Ніва"* у розныя часы былі такія дзеячы нацыянальнага адраджэньня як Я.Купала, Я. Колас, З Бядуля, В.Ластоўскі, А.Бульба, Ядвігін Ш. (Лявіцкі), С.Палуян (Есяновіч) і інш.

**Стар.** 49. * **Суб'ект**: Пра аб'яўленьне БНР як суб'кта нацыі чытай зноску "**Урад вырашальных падзей**" на стар.118.

**Стар.** 49. * "**Крэсы" ў час бурлівы**: Згодна Рыжскаму дагавору 1921 пад юрысдыкцыю Польшчы адышла заходняя частка Беларусі, якую ў складзе Рэчы Паспалітай называлі "ўсходнімі крэсамі". У верасьні 1939 у сувязі з началам Другой Сусветнай вайны і згодна

“пакту Молатава-Рыбентропа” яна была далучана да БССР, страціўшы прэстыж. Каля 400 тыс грамадзян гэтых “крэсаў” (зь іх 240 тыс. жаўнераў польскай арміі) папоўнілі лягеры сталінскага рэжыму, а 25727 чал. (у т.л і ахвяры “катыньскай справы”) былі расстраляны. (Згодна рашэньня Палітбюро ЦКВКП(б) ад 5 сакавіка1940г. было зьнішчана 21857 афіцэраў польскай арміі як “непапраўных ворагаў савецкай улады” + 3870 ахвяр заходніх абласьцей БССР, расстраляных ў навакольлі Мінска – у Курапатах, Лошыцы і Трасьцянцы /“Народная Воля” ад 27 жніўня 2010г./).

**Стар.** 49. * **Шкодны элемент:** 16.10.1939 А.Уласаў арыштоўваецца органамі НКУС па абвіненьні ў “шпіёнска-правакатарскай дзейнасьці”, а 29.11.1940 асобай нарадай быў асуджаны як “сацыяльнанебяспечны элемент” на 5 гадоў зьняволеньня і сасланы ў Сібляг. Паводле адных зьвестак А.Уласаў памёр ад “паралічу сэрца” на ст. Марыінск Кемераўскай вобл., а згодна другіх – на этапе ў г.Арол ці на тэрыторыі рэспублікі Марый. Месца пахаваньня – невядомае, так як і соцен тысяч другіх зьняволеных і зьнішчаных бальшавіцкім рэжымам. Менавіта шляхам **рассяленьня народа нацыі** ідэалогія “*заходнарусізму*” імкнецца зьнішчыць нацыю ліцьвінаў, якая штучна заімела назву “беларус”, а наша сучасная ўлада гэтаму спрыяе.

**Стар.** 50. * **Наводшыбе:** Дух карыснага служэньня па абуджэньню нацыі, які так шчодра правадзіўся А.Уласавым і яго саратнікамі ў начале XX стагодзьдзя, упершыню аднавіўся толькі ў 1984г. адкрыцьцём культурна-асветніцкага клуба “*Спадчына*” (нязьменны кіраўнік клуба і стваральнік прыватнага музея – А.Я.Белы, яму прысьвечаны верш “*Слуга асьветніцтва*” на стар.37). *У* 1989г. было заснавана “*Таварыства беларускай мовы*” (чытай зноску “**Таварыства**” на стар.116). А ў 1991г. стараньнямі прыватнага прадпрыемства “*Суродзічы*” аднавілася і выданьне газеты “*Наша Ніва*” (гал. рэдактары: С.Дубавец, А.Дынько і А.Скурко). На вялікі жаль усё гэта праводзіцца не на дзяржаўным узроўні, а прыватна – **наводшыбе** улады. Пра зьнявагі да абуджэньня нацыі збоку праўладных стьруктур чытай зноску “**шаліць бяспраўе**” на стар. 108.

**Стар.** 50. * Расьціслаў **Лапіцкі** (1.9.1928, в. Касута Вялейскага р-на –- 28.10.1950) – сваяк сьвятара Міколы **Лапіцкага** (1907-76)**,** які за свае погляды да справы служэньня народу быў вымушаны з’ехаць у эміграцыю. Але справу Міколы прадоўжыў Расьціслаў, які апантана распаўсюджваў у школах Мядзеля і Смаргоні, дзе ён вучыўся, ідэі аб нежыцьцяздольнасьці савецкага ўкладу жыцьця, таму і быў прыцягнуты да адказнасьці“за варожыя пралетарыяту погляды”. На

саўдзел з органамі НКУС ён адмовіўся. І прысуд яму – расстрэл.

**Стар.** 51. * Нататка "**За бясьпеку і любоў**" была апублікавана ў газэце "Народная Воля" ад 24 снежня 2009, якая згадвала пашырыць сярод кіроўцаў аўтамашын язду з запаленымі фарамі і ў дзённы час.

**Стар.** 52. * **Бахус**: У антычнай міфалогіі адно з імён бога вінаградарства і вінаробства Дыянiса. Сьвяты ў яго гонар мелі характар оргій.

**Стар.** 52. * **Статут:** Маецца на ўвазе Статут Вялікага Княства Літоўскага **1588 –** самая сьвядомая і паўнавартасная кніга аб найсьвятлейшым жыцьці нашага народа.

**Стар.** 53. * **Палонка:** Вёска ў Баранавіцкім р-не (паміж Слонімам і Ляхавічамі), каля якой 28 чэрвеня 1660г. адбылася бітва паміж войскамі Рэчы Паспалітай на чале з гетманам ВКЛ Паўлам **Сапегам** і ваяводам падольскім Стэфанам **Чарнецкім** – з аднаго боку – і маскавітамі на чале з ваяводам Іванам **Хаванскім** – з другога – ў часы "невядомай вайны" Расеі з Рэччу Паспалітай 1654-67. Пасьля заключэння 3.5.1660 Аліўскага міру са Швецыяй, у выніку якога кароль польскі і вялікі князь ВКЛ Ян П **Казімір** (1609-72) вымушаны быў ахвяраваць тронам намінальнага караля Швецыі, дывізіі гетмана П.Сапегі (каля 8 тыс. ваяроў) і ваяводы С.Чарнецкага (каля 4 тыс.) разам рушылі з Бярэсьця праз Слонім на дапамогу гарнізону Ляхавіцкага замка, які быў абложаны войскамі І Хаванскага. Даведаўшыся пра гэта, Хаванскі з большай часткай сваёй арміі (каля 20 тыс.) выступіў ім насустрач, дзе і сустрэліся пад Палонкай. Атака маскоўскіх рэйтараў, а затым пяхоты, была сустрэта агнём з рушніц пяхоты Чарнецкага. Драгуны апошняга з гусарамі А.Палубінскага**,** П.Мянжынскага, Г.Вайніловча і С.Кміціча праз шквал агня з ходу прарвалі рады ратнікаў і зьмялі яе пяхоту з гарматамі ў фальварку, а затым дабівалі яе ў полі. Бітва закончылася поўным разгромам войск Хаванскага, якому з рэшткамі воінаў удалося адступіць да Ляхавіч, зьняць аблогу замка і адысьці на Полацк. З гэтага часу ініцыятыва ў гэтай вайне належала цалкам войскам Рэчы Паспалітай.

**Стар.** 53. * **Край уніяцкі:** Маскоўская мітраполія, зыходзячы з канцэпцыі "*западнорусизма*", аб'явіла сябе ў 1589г. патрыярхіяй і распачала войны (1609-18, 1632-34, 1634-37, 1654-67) па захвату заходніх зямель пад лозунгам "*вызвалення заходняй Русі ад каталіцкага прыгнёту*". У адказ каталіцкая і праваслаўная цэрквы на тэрыторыі ВКЛ аб'ядналіся ў 1596г. (Берасьцейская Унія) у грэка-каталіцкую епархію, якая ў народзе займела назву "*уніяцкая*". У ходзе гэ-

тых войн “*уніяцкі клір*” зьнішчаўся, а народ у прымусовым парадку застаўлялі прымаць праваслаўную веру. Гэты зьдзек захаваўся да нашых часоў. Край уніяцкі афіцыйна перастаў існаваць з 1839г. па ўказу цара. У сучасны час яно паціху аднаўляецца.

**Стар.** 54. * **Швецкая вайна:** Паўночная вайна 1655-60, вайна Швецыі супраць Рэчы Паспалітай за пруска-літоўскае ўзбярэжжа Прыбалтыкі, якое належала Рэчы Паспалітай. Яна праводзілася ва ўмовах вайны Расеі з Рэччу Паспалітай 1654-67. За паўгода шведы захапілі большую частку тэрыторыі Польшчы і Жамойць, якое ўваходзіла ў склад ВКЛ разам з Літваніяй (сучасная Беларусь зь Вільно). Гэты перыяд вайны ў гістарыяграфіі Польшчы вядомы як “Патоп”. Вайна закончылася падпісаньнем Аліўскага міру 1660, згодна якому Швецыя замацавала за сабой Эстляндыю і Ліфляндыю.

**Стар.** 56. * **Змова:** Першае пагадненьне аб Таможаным саюзе Беларусі і Расеі было падпісана 6 студзеня 1995г., а 2 красавіка 1996-га стварылі згуртаваньне двух, а 8 снежня 1999-га – Саюзную дзяржаву. Затым Беларусь, Расея і Казахстан у чарговы раз заснавалі Еўразійскую эканамічную суполку (ЕўрАзЭС). Складваецца ўражаньне, што Таможаны саюз пачаў дзейнічаць толькі з 6 ліпеня 2010г. А што было да гэтага часу? Як бачым – толькі адна “жвачка”.

**Стар.** 57. * **Гранта сьлед:** Як стала вядома праз пэўны час, штогадовая пракачка бязпошліннай нафты з Расеі праз Беларусь ў колькасьці 20 млн. тон прынасіла ў бюджэт краіны **датацыю** каля 7 млрд. даляраў США пры агульным аб’ёме ВУП (валавага унутранага прадукту) 5 гадоў назад каля 48 млрд., што складала каля 14,5% ад усяго ВУП. (План прыроста 10%). Гэты “прырост” тлумачыўся як дасягненьне “беларускай **мадэлі**”. Але, як бачым, гэты “прырост” дасягнут нафтавай датацыяй, а не за кошт разьвіцьця вытворчасьці. Такім чынам: наша эканоміка не развіваецца, а дэградзіруе і дыхае на ладан.(Чытай нататку **“Кракадзілавы слёзы”** на стар. 88 гэтай кніжкі).

**Стар.** 58. * **Раду радзіў:** На закрытым паседжаньні 30 чэрвеня 2010г. дэпутаты Нацыянальнага сходу ўхвалілі Мытны кодэкс, які быў затым падпісаны ў Астане 5 ліпеня. Гэта – зьдзек над нацыяй.

**Стар.** 59. * **Сойм зьнямеў:** Гэтая дзея адбылася на паседжаньні Гарадзенскага сойма 1793 пад уціскам царскага войска пры нямой згодзе дэпутатаў, які зацьвердзіў 2-гі падзел Рэчы Паспалітай, у выніку чаго амаль уся тэрыторыя ВКЛ аказалася пад уладай Расеі.

**Стар.** 59. * **Акт:** 1 студзеня 1919г.быў абвешчаны Маніфест Часовага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі, які абмяркоўваўся ў Маскве пад кантролем Наркома па справам нацыянальнасьцей РСФР І.Сталіным з прыняцьцем "*Шасьці умоў тав. Сталіна па стварэньні БССР*", сутнасьць якіх – аўтанамізацыя нярускіх нацыянальных рэспублік у складзе РСФСР. Створаная змагарамі за нацыянальнае адраджэньне 18 сакавіка 1918г. Рада БНР была абвешчана па-за законам. Так былі пахаваны ў чарговы раз суверэнітэт краю і яго незалежнасьць ад Масквы, якое доўжылася да **Белавежскіх пагадненьняў 8 сьнежня 1991 года.**

**Стар.** 59. * **Грошыкі:** Наша краіна (таемна для народа) некалькі год краду трымалася на плаву за кошт нафтавых датацый. Сёньня гэтая халява не праходзіць. Дык улада спавадзілася на пазыкі, якія, як вядома, трэба вяртаць. Знешні доўг на 1 красавіка 2010г. склаў ужо 22,24 млрд. даляраў США. Гэта 44,7% ВУП (валавага ўнутранага прадукту). Такім чынам, у разьліку на аднаго жыхара Беларусі валавы зьнешні доўг на гэты час складаў 2,35 тыс. дал. США. (Газ. "**Народная Воля**" ад 18 чэрвеня 2010г.)

**Стар.** 60. **Жрэц** – у старажытных рэлігіях: сьвяшчэннаслужыцель, які вёў багаслужэньне і выконваў абрад ахвярапрынашэньня, у пераносным сэнсе – той, хто прысьвяціў сябе карыснаму служэньню чаго-небудзь.

**Стар.** 60. * **Мнемасіна** – ў старажытна-грэчаскай міфалогіі багіня памяці, маці 9 муз, у т.л. **музы Кліі** – апякункі гісторыі.

**Стар.** 60. * **Асвіны** – нябесныя браты-блізьняты (*з санскрыту* – "дзеці кабылы"). У ведыйскай і індуісцкай міфалоіі багі-блізьняты, якія ўвасаблялі ранішні і вячэрні змрок. Яны валодалі лекавымі таямніцамі, лcraталі на калясьніцы. Асьвінам на нашай зямлі пакланяліся яшчэ ў пачатку Х1Х ст.

**Стар.** 60. ***Немесіда** – ў старажытна-грэчаскай міфалогіі багіня адплаты, якая назірае за справядлівым разьмеркаваньнем матэрыяльных даброт паміж людзьмі, вызначае лёс людзей і карае іх за парушэньне юрыдычных і маральных норм. Атрыбутыка кантролю: шаля і аброць. Атрыбутыка пакараньня: меч, бізун і жэзл. Атрыбутыка хуткасьці: крылы і калясьніца. У пераносным сэнсе Немесіда – лёс, непазьбежная плата.

**Стар.** 60. * **Дух змагара:** Паказальным прыкладам працы жрыцы гісторыі Вольгі Іпатавай з'яўляецца кніга ***"Свабода да апошняга***

***дыханьня:** *аповеды пра падарожжы*"* (Мінск, 2007)**,** якая нарадзілася ў выніку вандровак па Беларусі ў 2005-06гг., падчас якіх яна наведала дзесяткі памятных магіл і помнікаў славутым людзям нашай краіны, якія значацца змагарамі і набліжалі да нас Свабоду, і дух іх "у вечнасьць вынесла зь цямніц Аіда" – апошні радок санета.

**Стар.** 60. * **Аід** – у старажытна-грэчаскайй міфалогіі ўладар царства мёртвых.

**Стар.** 62**.** * **Бяда:** маецца на ўвазе войны –Першая сусьветная (1914 –18), грамадзянская (1919-22) і польска-савецкая (11919-20).

**Стар.** 63**.** * **Плеяда змагароў:** чытай тлумачэньні да паэмы **"Скрыжалі"** на стар. 106.

**Стар.** 63**.** * **Лінгвістычны ранак:** з пачатку 1922 года пачаўся кароткі перыяд беларусізацыі. Як падкрэсьліў Яўген Гучок у артыкуле *"Боль прафесара"* з нагоды публікацыі кнігі Леаніда Лыча *"Русіфікацыя"* (чытай газ. "Народная Воля" ад 31 жніўня 2010) гэта была *"глыбока эшаланіраваная, вялікая правакацыя на выяўленьне жрацоў, падзьвіжнікаў і проста прыхільнікаў беларушчыны (і мовы, вядома, таксама), каб пасьля адправіць усіх іх на Салаўкі, Поўнач, у Сібір, Курапаты і г.д."* Гэта і здарылася праз 7 гадоў. Выпускалі вучэбнікі па роднай мове пад эгідай Інбелкульта "Адраджэньне", ў якім прымалі ўдзел Я.Купала, Я.Колас, Я.Карскі і др. Асаблівым дасягненьнем былі вучэбнікі для школ, тэхнікумаў і ВНУ акадэміка Я.Лёсіка, за якія ў 1930г. яго і сотні другіх прыхільнікаў беларушчыны абвінілі ў "*нацдэмаўшчыне*". Кнігі іх спальвалі, а ў 1938 – асудзілі да розных мер пакараньня, у асноўным – гэта быў расстрэл.

**Стар.** 63**.** * **Набытак ведаў:** паэтэса Л. Геніюш (у дзявоцтве – Міклашэвіч) скончыла Ваўкавыскую польскую гімназію ў 1928г.

**Стар.** 63**.** * **Зямля** – перафразоўка эпічнай паэмы Я.Коласа "Новая Зямля" якая была выдадзена ў 1923г. і якою зачытвалася Л.Геніюш у пошуках адказу на сваё разуменьне месца роднай мовы ў сьвеце.

**Стар.** 64**.** * **Доля бедалага:** лёс каля 1,8 млн. чалавек, якія былі расстраляны ці выселены ў абшары ГУЛАГа , дзе бяссьледна зьнікалі (чытай праект "**Пакаяньне**, злачынствы камуністычнага рэжыму і антыкамуністычны супрацiў у дасьледаваньнях, дакументах і сьведчаньнях" за 2007г.і кнігу Ю. Туронка "**Мадэрная гісторыя Беларусі**", Вільня, 2006, стар.681).

**Стар.** 65**.** * **Міты эскулапа:** Каб неяк уратаваць паэтэсу ад рук гестапа, бо не ўсхваліла "вялікага фюрэра", яе мужу Янку прыйшлося праявіць здольнасьці лекара, паслугамі якога карысталіся немцы.

**Стар.** 66. * “**Сыр-бор”:** Другая сусьветная вайна (1939-45), якая началася з заключэньня ганебнага пакта Рыбэнтропа-Молатава 1939 (чытай тлумачэньне “**трагедыя**” на стар.112). Пасьля яе заканчэньня ў Чэхаславакіі ўстанавіўся прасавецкі рэжым.

**Стар.** 69. * **Вецер перамен:** Пасьля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) архіерэй менскай праваслаўнай епархіі В.Садкоўскі, выступаючы перад сьвятарамі Слуцка, заклікаў размаўляць толькі па-руску: *”Я вас выкараню, вынішчу, каб і мовы не было вашай праклятай літоўскай* (г.зн. беларускай) *і вас саміх. Я вас у ссылкі парассылаю або ў салдаты пааддаю, а сваіх з-за кардона панаваджу”.* Яшчэ больш грозная заява віленскага генерал-губернатара М. Мураўёва-вешальніка праз 50 гадоў:*“У Паўночна-Заходнім краі так званую беларускую* (як бачым “*літоўская*” мова ўжо стала называцц “*беларускай*”) *мову неабходна зьвесьці на нішто, бо калі гэтага не зрабіць, яна пастаянна будзе інсьпірыраваць думку аб асобным беларускім народзе і аб праве гэтага народа на этнічную самастойнасьць і нацыянальную дзяржаўную суверэннасьць, чаго дапусьціць нельга”.*

**Стар.** 69. * **Самарусіфікацыя:** Згодна рэферэндуму 1996 новая рэдакцыя Канстытуцыі РБ зрабіла тое ж самае (толькі самажэрствам) на карысьць рускай мове, што і ў 1696г. у Рэчы Паспалітай, калі наша родная мова (ліцьвінская) была выведзена з дзяржаўнага ўжытку на карысьць польскай, а з 1839г. яна забаранялася з усякага ўжытку. У краіне з гэтага часу настаў перыяд поўнага заняпаду нацыянальнага росквіту. Ён доўжыўся да 1905 года (чытай тлумачэньне “**расклад падзей**” на стар.105 к паэме “**Сонца Веды**”).

**Стар.** 71. * **Паэма** напісана на аснове “Гісторыі выратаваньня габрэя Віктара Майсеевіча Стэльмаха”, выданай камісіяй мемарыяльнага Інстытута катастрофы і гераізму еўрапейскага яўрэйства “Яд Вашэм” у 1997г. беларускай жанчыне Эме Іванаўне Сцяпура, рашэньнем якой яна ўзнагароджана медалём і ўшанавана Ганаровай Граматай з прысваеньнем ёй званьня **Праведнік народаў Сьвету**. Такога ж званьня ўдастоены яе дочкі: Ядвіга Іосіфаўна Ельніцкая (н. 1938), якая пражывае ў вёсцы Цімкавічы Капыльскага раёна, і Алена Іосіфаўна Горская (н.1933), якая ў сучасны час жыве ў Санкт-Пецярбургу. Віктар Стэльмах (Мікалай Пятроўскі, н.1929, вёска Навасёлкі Мінскай вобл.) пражывае ў г.Уфа ў Башкірыі.

**Стар.** 71. * **“Ост”**– генеральны план -кодавая назва фашысцкай праграмы па каланізацыі і германізацыі народаў Усходняй Еўропы.

# ДЗЯДЫ-1989

**29** кастрычніка 1989г.дзесяць тысяч суайчыньнікаў пад зьверхнасьцю першаадкрывальніка Курапатаў Зянона Пазьняка ўпершыню пасьля Дзядоў 30 кастрычніка 1988г, калі шэсьце было ўладай забаронена і разагнана, правялі ў Курапатах мітынг-рэквіем і ўсталявалі першы крыж, які быў выраблены мастакамі пад кіраўніцтвам сябра БНФ Аляксея Марачкіна.



# ДЗЯДЫ – 2010

У Менску 31.х.2010 па ініцыятыве КХП БНФ праведзена традыцыйнае шэсьце памяці ў Курапаты, дзе ў гады сталінскіх рэпрэсій былі расстраляны каля 200 тыс.чалавек. На гэты раз, у адрозьненьне ад Дзядоў-1989 (удз-ла 10 тыс.чал), у шэсьці прынялі ўдзел каля 2000.



# СУСТРЭЧЫ з ПОСТАЦЯМІ



20 лістапада 2009г.інтэлігенцыя і сябры Слуцкай і Салігорскай суполак БАЖ сустракаліся са знакамітым пісьменьнікам Ул/Арловым, (на фота зьлева), які прэзентаваў свае творы. Аўтару гэтай кнігі (на фота ў цэнтры) пісьменьнік падорыў кнігу-бестселер "Імёны Свабоды" зь яго аўтографам, якую лічу для сябе энцыклапедыяй Духу нацыі. (Фота:В.Амяльчэні)



25 сакавіка 2010г. па ініцыятыве БХД (Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі) адбыўся 2-хтысячны мітынг у гонар сьвяткаваньня **Дня Волі** каля Акадэміі навук у Менску, у якім прынялі ўдзел аўтар гэтай кнігі (на здымку ў цэнтры) і паэт Ул-р **Някляеў** (справа)– стваральнік грамацкага руху "Гавары праўду!",якая ўладай прасьледуецца.(Фота Ю.Дарашкевіч)




Адзін зь ініцыятараў “Хартыя 97.org” Андрэй Саньнікаў у 2008г. стаў каардынатарам грамадзянскай кампаніі “Еўрапейская Беларусь”. На фота: адна з акцый за ўваходжаньне краіны ў Еўропу.




**16** жніўня (кожны месяц гэтага дня – у дзень зьнікненьня бізнесьмена Анатоля **Красоўскага** і палітыка Віктара **Ганчара** 16 верасьня 1999г) 2010г. каля Акадэміі навук у Менску адбыўся пікет, на якім 200 чал.патрабавалі рассьледаваньня фактаў, прыведзеных у фільмах “Хросны бацька”, які дэманстраваўся па тэлебачаньню на каналах Расеі. (Фота з газ. “Наша Ніва”

## ЗЬМЕСТ

# **Карта Рымскай імперыі** ў граніцах канца 2-га ст.н.э.

(Умоўныя граніцы Беларусі на абшарах разьмяшчэньня вянедаў, стаўшых раданачальнікамі славянскіх плямён, у тым ліку і ліцьвенаў /беларусаў/).



# МІКОЛА МІЛАШ

Нарадзіўся 26 сьнежня 1936г. ў вёсцы Домантавічы на Капыльшчыне ў сямі простага селяніна. Бацька Шаравар Лазар Макаравіч (1901-1939) быў на той час адукаваным селянінам, бо ў 1929г. выбіраўся старшынёй арганізаванага калгаса "Чырвоны дырыжабль". У верасьні 1939г. прызваўся ў рады Чырвонай Армі, якая "вызваляла" Заходнюю Беларусь, а затым быў адпраўлены на фінскі фронт, дзе і загінуў у дзень нараджэньня паэта. Прозьвішча, мабыць, паходзіць ад назвы натуральнай павіннасьці /шарваркі/ сялян па будаўніцтве замкаў, мастоў, плацін, млыноў і дарог, якая існавала ў ВКЛ, Рэчы Паспалітай і Расейскай імперыі, і да якой былі прывязаны мае продкі. Маці Натальля Хілімонаўна (1908-91) з роду Кіені выхавала 4-х з 6 народжаных дзяцей.

Да літаратурнай плыні далучыўся яшчэ ў гады навучаньня ў тэхнічных установах (Мінскі лесатэхнікум закончыў з адзнакай, а лесатэхнічную Акадэмію ў Ленінградзе – экстэрнам за 3 гады). Вершы пісаў па-руску. На роднай мове стаў пісаць, калі пераканаўся ў яе патрыятычнасьці і зачараванасьці. Менавіта такой бачыць аўтар спадчыну сваёй пакутнай Айчыны, гісторыю якой крэмзалі, нішчылі, тапталі і так цемрашалы яе сфальсіфікавалі, што народ нават забыў назву не толькі сваёй нацыі, але і назву сваёй Айчыны. Размаўляць на роднай мове ў сваёй большасьці народ грэбуе і не жадае, бо для гэтага ўладай не ствараюцца умовы. Аўтар справядлівы ў сваім выказваньні:

***"Калісьці нас ліцьвінам звалі.***
***Тутэйшым – нас празваў "русін".***
***Вой, "беларусам" мы ўжо сталі.***
***А ў хуткім часе? – Будзем кім?"***

Кніга **"На скрыжалях часу"**– другая проба аўтара свабодна выказаць у стылі Васіля Быкава свае думкі і погляды да сучаснага становішча нашага народа, які стагодзьдзямі ў віры маны заганяўся бізуном насільля ў ціну здрады і балота абывацельшчыны і які (ў каторы раз!) зноў паўстае зь яго, нібы фенікс з попелу, дзеля прадаўжэньня роду сваіх продкаў. Лёс нацыі і яе сімвалаў вельмі хвалюе сапраўднага спадкаемца фарміраваньня яе Духу.

Каб зьнітаваць стагодзьдзяў плыні Адраджэньня аўтар усьвядомлена скарыстоўвае ў сваіх творах у якасьці эпіграфаў і выслоўяў выказваньні адначасова некалькіх славутых дзеячаў розных эпох, зробленых імі ў сваёй пагодзе часу, каб перанесьці чытача ў думках на выспу абставін, зь якіх ён мог бы ацаніць сучаснае становішча народа, пераканацца ў фальшывасьці свайго існаваньня пад крылом РПЦ і прылучыцца да ўдзелу абуджэньня народных мас. Гэта па-сапраўднаму вельмі адказна і патрыятычна, што прыдае твору важнасьць, а аўтару – веру ў будучыню Бацькаўшчыны.

Вельмі слушны аўтар сваім сцьвярджэньнем, што ўзьняты сёньня змагарамі за адраджэньне нацыі штандар "**За Праўду! За Справядлівасьць! За Свабоду!**" і на самай справе *"адкрые ісьціну народу, расьсее дух маны і жах!"*

Ёсьць меркаваньні, што кніга займее попыт і прынясе карысьць у справе адраджэньня Духу ліцьвінскай (беларускай) нацыі і яе гістарычнай памяці.

Мікола **Малышчыц**